# Максім ЛУЖАНІН

Том

1

## ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1993

ББК 84Бел 7
Л 83

Первый том избранных произведений старейшего белорусского писателя состоит из стихов четырех сборников последнего десятилетия, а также из ранних, довоенного времени. В стихах слышны беседы с людьми, заботы их и о них, шествие человека по земле, по ее просторам.

4702120201 — 148
Л ————————— 111—92
М 302(03) — 93

ISBN 5-340-00786-3 (т. 1)
ISBN 5-340-00785-5

## СЛОВА ПРА ТАВАРЫША[1]

Максіму Лужаніну — 60 гадоў. Размяняў сёмы дзесятак. Піша гэтыя няўмольныя лічбы рука, а сэрца не хоча верыць, што першае наша знаёмства адбылося сорак гадоў назад. Здаецца, было гэта ўчора — такімі яркімі і блізкімі засталіся ў памяці тыя дні. Максім Лужанін, вядомы ўжо тады паэт, сэрцам хінуўся да паэтычнай моладзі, прыкмячаў усё жывое і абяцаючае, горача і рашуча падаваў яму дружбацкую руку. Так ён пасябраваў з Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам, а праз іх пазнаёміўся з Лужаніным і я ў час яго прыезду ў Мсціслаў. Мяне, як самага малодшага з мсціслаўскай тройцы, знаёміў з ім Таўбін і не менш за мяне быў рады, калі прачытаная мною паэма «Крыўда» была ўхвалена, а знаёмства прынята. Неўзабаве я пераехаў у Мінск, а рэкамендаваная Лужаніным паэма была надрукавана ў сталічным часопісе.

Перада мной шафа з кнігамі, дзе побач з тоненькімі зборнікамі саракагадовай даўнасці стаяць масцітыя тамы твораў майго таварыша. У іх — увесь шлях нястомнага працаўніка і майстра паэзіі. Я перачытаў іх і з радасцю адзначыў для памяці і сэрца сотню вершаў, некалькі паэм, якія, нягледзячы на свой немалы ўзрост, будзяць жывую думку і кранаюць пачуцці. Неблагі падрахунак для любога паэта! У ім шчодра раскрываюцца яркі пафас публіцыста, шчырасць і непасрэднасць лірычнага таленту, вострае пяро сатырыка. Кожны, хто будзе перачытваць паэта, несумненна, зверне ўвагу на такія яго рэчы, як «Дваццаць чатыры гадзіны», «Слова за чытача», «Смешная геральдыка», «Пачатак», «Мая радзіма — партызанка», «Прэч чужынца», «Наступленне», «Апошняя нарада», «Ключы Берліна», «Зварот франтавікоў», «Скончыўшы паход», «На парозе сталасці», «Піковы туз», «Нядзеля», «Васілёк», «Драч», «У Разліве», «Камуністы», «Сыны камуністаў», «Ноеў каўчэг», «Акно», «Тобі і розгі», «У парку», «Права на верш», «Таварышу», «У гасцініцы», «Таполя», «Радкі мае», «Стукнугрукну», «Асцярожны крытык», «Тост», «Дубы», «У Кастрычніку», «Праводзіны», «Дзень прыбывае», «У падарожжы», «Слова сучасніка», «Беларускаму народу», «Перуны», «Апошняя куля», «Злата улічка», «Вадаспад», «Далікатныя аб'явы», «На вышыні Елені скок», «Астма», «Паўтыдня цягнуўся састаў да Берліна», «Англійская балада», «Яшчэ ж запалу ў сэрцы ёсць», «Кансервы агню», «Як з торбай пісанаю, з бомбаю», «Смерць», «Некалі жыў адною»... Гэты спіс можна было б

[1] Артыкул друкаваўся ў часопісе «Неман» у 1969 годзе да гадавіны Максіма Лужаніна.

з поспехам прадоўжыць[1]. Многія з пералічаных вершаў хацелася б цытаваць, як хрэстаматыйныя, пра многія хацелася б гаварыць горача і ўсхвалявана, прыводзячы іх як узоры майстэрства, як плён спелай паэтычнай думкі і пачуцця. Думаю, што гэта павінна зрабіць і зробіць нарэшце крытыка, якая незаслужана мала ўдзяляе ўвагі нашаму выдатнаму і самабытнаму паэту.

Праўдзіва тое, што на раннюю творчасць Максіма Лужаніна ўплываў Маякоўскі. Аднак ужо ў той час выразна адчувалася лужанінскае асэнсаванне тэм і вобразаў, што былі агульнымі для савецкай паэзіі трыццатых гадоў. Яскравым прыкладам як вучобы ў Маякоўскага, так і станаўлення ўласнай індывідуальнасці з'яўляецца паэма «Галасы гарадоў». Ёсць у ёй такія радкі:

Буду граць на ўзрушэнне свету,
На з'яднанне ўсіх краін,
Верны будучыні запавету
Да астатніх маіх гадзін.

І сягаючы ў далягляды,
Дзе свабода світаць пачне,
Верш мой выйдзе на барыкады
І са мною і без мяне.

Можа вырваць лязо сляпое
Без пары спевака з карэ.
Слова, выспеўшае для бою,
Ім народжанае — не памрэ.

Пранізваючыя, пранікнёныя словы! Знамянальна, што яны папярэднічалі блізкай ім паводле настрою і рытму цудоўнай паэме Валянціна Таўлая «Таварыш». Гэты напісаны трыццаць сем гадоў назад паэтычны і грамадзянскі запавет і сёння не страціў праўдзівай, дзейснай сілы. І ў дзень шасцідзесяцігоддзя паэта хочацца пажадаць яму такой свежай і маладой творчасці, каб і ў далейшым у яго выспявала слова, неабходнае для бою свабоды з прыгнётам, дабра са злом, для братэрскага аб'яднання народаў усіх краін.

*Аркадзь КУЛЯШОЎ*

---

[1] Названы творы толькі з трохтомнага Збору твораў, чатырохтомны Збор і кнігі пазнейшага часу не маглі быць улічаны.

# Малады крок

## 1933—1940

І жыццё маё мільгнула,
Хутка так, як ты прайшла:
Толькі вейкаю міргнула,
Толькі плечкам павяла.

### СТРАЧАЮ ЎПЕРШЫНЮ

Вечар з ветрам і вецер з парошай...
Сінім танцам пайшла церуша.
Ён яшчэ цябе робіць харошай —
Твой пуховы аснежаны шаль.

Пад брывом, пад зальдзелаю пасмай
Росны ліст зелянее з вачэй.
Слухай, кім ты даводзішся краскам,
Што і ў цвет не баяцца завей?

Стану поруч, пайду усміхацца,
Гукі ўзбуджваць і з імі гучаць.
Буду верыць, што мне васемнаццаць,
Быццам крокам тваім і вачам.

След губляецца ў лёгкай парошы,
Я забыў, што кудысьці спяшаў...
Дзе ж ён дзеўся, харошы, харошы,
Твой калматы апушаны шаль!

## ПАДЫХОДЖУ

Зноў цішыня.
Струны.
Лепей іх не кранаць!
Сумна.

— Дома?
— Хто?
— Ды яна адна!

Зіма
Каля акна.

Так выпадкова —
Проста трохі радкоў
Пра цябе і нікога.

Усё.
Больш нічога.

## У МЯЦЕЛІЦУ

Усхадзілася мяцеліца,
Расхлістала кажушок:
То ўзвіецца, то пасцелецца,
То адскочыцца на крок.

Раптам вецер зорку сінюю
Выдзьмуў з попелу нябёс,
І дубы заззялі ў інеі,
Быццам ім хто зор прынёс.

Маразы бягуць па вуліцы,
І румяніцца шчака,
Калі, цёплая, прытуліцца
Да рукі твая рука.

Вылятаюць зоры з інею,
Але нам і той стае,
Што запала кропляй сіняю
У зялёныя твае.

## БАЧУ БЛІЗКА

Быў лістапад.
Тады на просвы
Пабрала вокны ты сама.
Мяла лісты пад вечар восень,
А занач грукнула зіма.

І з ганка снегу па калені,
І зранку — ў шэрані падрос —
Маленькі сад прасіў у сені
Пусціць ад імені бяроз.

Упершыню з зімовай казкі
Сышла ты проста на зямлю.
І я тае скупое ласкі
За цэлы свет не акуплю.

## РАЗАМ

Ізноў
Рука з рукою.
Іду.
— Куды ты йдзеш?
— Ці не сасніў ізноў я?
— Каго?
— Ды ўсё цябе ж?

Забіла лісце ў ладкі,
Зляцела кропля ў твар.
І, лёгкі на прыгадку,
Прыскочыў дождж выпадкам —
Бег з мора на бульвар.

## ПАЧЫНАЕМ ДЗЕНЬ

Чыстым палатном засланы кошык
Прыпыняе крок ля нашай хаты.
Шмат у ім дзівоснае раскошы
І ласункаў восеньскіх багата.

Яркне ў пляшках малако густое,
Ёсць тытунь, павязаны ў папушы,
Белы сыр авечы са слязою,
Вінаград і жоўтыя ігрушы.

Колераў і пахаў сугалоссе,
У далінах восені сабраных,
Раніцой дзядок стары прыносіць,
Што ў цябе, напэўна, закаханы.

Ён не можа адысці з парога,
Нешта тоіць у калматай світцы
Ды пытае па-дзіцячы строга:
— Ці твая ўжо ўстала маладзіца?

Ты смяешся, звонка і гарэзна,
А ён кажа, ціха, як пытаўся:
— Я з расою трохі руж назрэзваў,
Каб у кветкі кветкай дзень пачаўся.

## ВЫХОДЗІЦЬ З МОРА

Спачатку твар, пасля усмешка,
Цябе пагойдвае вада.
Так сонечна і так уцешна
Не ведаць берага і дна.

Узмах яшчэ, празрысцей хвалі
Сатканых з сінявы мярэж.
На дробны камень ногі сталі —
Ты над прасторам паўстаеш.

І з хваляў мора ў хвалі ветру
Нясеш карону кос цяжкіх,
Сваіх плячэй абрыс бяссмертны
І выгіб точанай рукі.

Калі ж з грудзей упала стужка,
Здалося ўсім, што на прасцяг
Дзве вастрадзюбых смуглых птушкі
З табой да сонца паляцяць.

І нейкі хлопчык сеў на бераг,
У пальцах сціснуўшы жарству,
Каб вочы здолелі паверыць
Твайму нагому хараству.

## НА ГОРЫ

Заколе ружу ў валасы,
Рукой за шыю —
і нясі...
Нясіце, ветры, ўсплёскі хваль
У даль,
У сінь
Нясіце.

Занясіце ў Свіцязь,
Занясіце ў Прыпяць,
Кіньце ля Дняпра,
Дзе Машэкава гара,
Ваду скаланіце.

Можа, мне той край прысніцца
На сыходзе дня.
Журавіна ды брусніца,
Ягада мая!

Ходзіць восень.
Ломіць верас,
Лісце з саду —
ўсё за раз!

Бразне ў дзверы,
Скочыць цераз
Пералаз.

За ракою
З асакою
Бор стаіць, як дом:
Глянеш —
ёмка!
Крыкнеш —
звонка!
Рэха ў сто ладоў.

Прыкладу да долу вуха
І праз мора шум
Чую лісця завіруху,
Ломіць воўк вішу.

Днём і ноччу дождж косіць,
Шэпчацца з лазой.
Я яе, такую восень,
Бачыў шмат разоў.

І цяпер, б'ючы паклоны
Сінім дзеравам,
Сонцу воч тваіх зялёных
І блакіту хваль,—

Тую восень і дзяўчыну
Ўспамінаю я.
Журавіна ды каліна,
Ягада мая!

## ЖЫВУ НА САМОЦЕ

Цень згасае на дарозе.
Ноч ідзе у мой пакой.
Хто пастрашыць, хто пагрозіць,
Хто мне ўслед махне рукой.

Не скажу, што я шкадую
Дзён так званых залатых,
Што вятры мне след бунтуюць,
Носяць звон расстайных крыг.

Так сказаць было б занадта!
Свет шырэйшы стаў вакол,
Нават змрок у ім багаты
На святло тваіх акон.

## НЕ ДАЧАКАЎШЫСЯ

Зіхцела ноч старожкіх воч,
Апошні раз быў душ папас.
А гром ішоў. Маланкі шво
Праводзіў май за небакрай.

Няхай гудуць абвалы дум,
Хай іх агонь пячэ ў далонь,—
Я павяду сваю хаду
Праз пачуццё, цераз жыццё.

## УСПАМІНАЮ

Валасы раскошныя свае
Заплятае пры люстэрку —
Ў горад строіцца.
Возьме кветку.
Жмурыцца, разбойніца!

А на плечы той пуховы шаль,
Што быў куплен у дзядка гарбатага.
Даль, як жаль.
Толькі водгукі падхватвае.

Пазнаю праз ноч тваю хаду.
Не спяшайся, сэрца,
Ты памылішся!
Кінуўся б на стрэчу —
Не дайду,
Быццам стаў на мыліцы.

От і постаць выйшла з цемнаты,
А твая ж сукенка, здэцца, сіньшая?
Ты
Ці
Іншая?

## ЛІСТ ЗДАЛЁК

Мы засыналі без падушкі,
Хоць не сціхалі стракатаць
Цыкады дужыя, як птушкі,
На травах Бзыбскага хрыбта.

Ды не змаўкаў маторны клёкат
Над схваляванай глыбінёй...
Тады я ўбачыў, крок за крокам,
Жыццё сваё, жыццё тваё.

Ці абзавешся хоць траха мне,
Ці ў далях знікнеш, як смуга,
Маё апошняе каханне,
Мая заўсёдная туга!

Схавае цемра след нясмелы,
І месяц стане на уцёс,
Як грабянец твой, белы-белы,
У навальніцы чорных кос.

## СУСТРАКАЮ ВЫПАДКАМ

Слаў горад вечаровы шум,
Прайшла адна, цераз натоўп,
Ты, да якое не пішу
Ужо ні вершаў, ні лістоў.

І вось як быццам зноў вясна,
Як быццам гэта сон плыве —
Цябе я ў змроку не пазнаў,
А ты мяне і на святле.

І мы жывём! Ламаны жэст!
Няхай успомняць поўнач бур
Твой — на Вясёлай — пераезд
І мой — на Розы Люксембург.

Тут не выпадак, тут закон,
Што хаты розна ў нас былі,
Бо мы без руху цягнікоў,
Быць можа, дня б не пражылі.

## СМУТНАЯ РАДАСЦЬ

Ці доўга было гэта?
Можа, хвіліна,
Можа, паўвека, а можа, больш...
Але пакінула ты, дзяўчына,
Смутную радасць і светлы боль.

Радасць — і сёння з табой сустрэцца,
Боль — назаўсёды адчуць чужой...
І ўсё ж абзавецца дурное сэрца
І ва ўсіх салаўях запяе вясной.

## ВОДГУЛЛЕ

Душа ў далёкай старане,
Як цеціва на збройным луку...
Кранеш —
              і абудзіў разлуку:
Ты адгукаешся ва мне.

Шукаю, быццам бы не знаю,
Што не прыждаць цябе ніяк.
Сляпая,
          бедная,
                    святая,
Любоў астатняя мая!

## ДВА ГАЛАСЫ ПАД ВЫРАЕМ

Крычаць асеннія ключы,
У вырай летучы...
— А ці не нашае плыло
Тут неба уначы?

З вячорнай зоркай на плячы
Над ставам памаўчым.
— Тут неба нашага было
Не менш як дзве начы.

Але ж чаму раса гарчыць,
З кастра дымяць карчы?
— Тут неба нашага прайшло
Не больш як дзве начы...

* * *

Твой цягнік ідзе на Пскоў,
Мой цягнік ідзе на Мінск.
Семафор махнуў рукой,
Быццам сэрца зашчаміў.

Паспяшаўся ты, званок,—
Усяго ж іх — пяць хвілін.
І паплыў перон у змрок —
Вось і разам пабылі...

Я — на Мінск, а ты — на Пскоў,
Зноў у розныя бакі.
З дому ты, а я дамоў,
Быццам нашы цягнікі.

# За дзве восені

1977—1978

## ЯК Б'ЮЦЬ КРЫНІЦЫ

Вечарам да крыніцы
Вуснамі дакраніся,
Мовы чарпні людское,
Здолееш — зазірні:
Рушацца ў неспакоі
На векавой глыбіні
Рэкі, азёры, моры,
Якія ёсць і былі.

Подых шчырага бору
З птушкамі ў шыгаллі,
Шолах палеткаў ворных
З коласам на раллі,
Голас паходных горнаў,
Змора палётаў зорных
Словам да нас прыйшлі.

Людзі, што дыхалі ўчора,
З часу ў час прараслі.

## НАСУСТРАЧ ДНЮ

Штоноч — пачатак сну благога:
У хмарную далечыню
Спяшае, нікнучы, дарога —
Іду, бягу — не даганю.

Яна не слалася пад крокам
І ў юнака, на ўзлёце дзён,
Калі яшчэ блукаў далёка
Бязрадны, неабудны сон.

Але здзяйсненнем апантаны
З бяззорнай цішыні начной
Сябе я вырываю ў ранак —
Нявечны дзень, а ўсё ж ткі мой.

Тым, у каго няма надзеі,
Каб хто прыйшоў, паспагадаў,
Я слова вымавіць паспею
Ці хоць маўчком руку падам.

## МАРШ НЕСМЯРОТНАСЦІ

Не страляюць з гармат,
раны дзёрнам гадоў прыараны.
Ні глытка, ні зацяжкі
няма ўжо ў суровым пайку.
Без атак, проста так,
адыходзяць з палёў ветэраны
Кожны дзень па палку.
Кожны дзень па палку.

Строй раўняецца зноў,
і на месца садзьмутых вятрамі,
Хто пры ордэнскай планцы,
а хто пры гвардзейскім значку,
Устаюць і ўстаюць
на паверцы сяброў ветэраны
Тут і там па палку.
Там і тут па палку.

Гэтак будзе заўсёды ў дарозе
да заўтрашняй брамы,
І паходную песню
дай бог так пачаць юнаку.
Першы рад парадзеў,
замыкаюць прарыў ветэраны
Дзень і ноч па палку.
Ноч і дзень па палку.

## РОДНАЕ СЛОВА

Суджана, стаўлена пад п展кладзіны,
Сечана, палена, а не аддадзена,
Не парастрачвана і не раскрадзена,
Рупна ў падмуркі на золку пакладзена
Роднае слова.

Хоць яго з поля, як зелле, высмыквалі,
Не забывалася ў песні музыкавай,
Не знебывалася ў долі нясытае,—
Намі навечна ў насевак усыпана
Роднае слова.

## НА ПЛЫНЬ

Нібы паводка ў сакавік
Гудзе і ломіць крыгі,
Складаю першы чарнавік
Свае няпершай кнігі.

Пішу.
Шматаю стос папер
Ад раніцы да ночы.
Настрой направіў, а цяпер
Радок звінець не хоча.

Спрабуй наладзь яму хаду,
Металу дай марудзе...
Не! Ў вершах ла́ду не дайду,
Вазьму на прозу перайду,
А ўсё ж ткі кніга будзе!

Мінае слоўны крыгаход,
Сплывае ўдалеч друз і лёд,
І на прастор выходзіць флот
Па чыстай сіняй плыні.

Плыві, мой лёс,
Кіруй напрост,
Не дбай аб супачыне.

## ВУЧНІ ЛЕНІНА

Не чуў яго, жывым не бачыў,
Кіно — глядзеў, тамы — чытаў
І немалую меў удачу:
Я тых, што чулі, сустракаў.

На жаль, яны перахавалі
Хіба што жэст ці колькі слоў:
Але на ўсіх іх крыж стаўлялі
І ў дол скідалі без крыжоў.

У нас цяпер турбот замнога
Прыняць адказ за ўсё ў жыцці —
За першы след, за ўсю дарогу
І зорку, па якой ісці.

## СМЯЮХА

Расхінуўшы хмызы
На глухіх перамелах,
Белым паскам расы
Гэта рэчка зіхцела.

Паплюскоча і — ў схоў,
У зялёныя сенцы,
Дзе галіны дубоў
І нябёсаў акенцы.

Тут праносілі тол,
Грузлі ў багне па пояс,
Тут валіліся ў дол
Стогадовыя хвоі.

Рэчка ведала ў твар
Нас і кожны прагалак,
І людзей і абшар
У сабе люстравала.

А як бой на трубе
Громам грымне ў аблокі,
Плынь сцірала з сябе
Нашы твары і крокі.

Не пакіне вада
Злому ворагу следу,
Каб шляхоў не ўгадаў,
Што мы робім — не ўведаў.

А мінуцца дзянькі
Баявога прыпару,
Зноў на ўлонні ракі
Нашы крокі і твары.

Пра нялёгкі той час
Нашаптала на вуха,
Нагадала вачам
Неяк рэчка Смяюха:

«Хто не помніць дабра,
Хто на ліха забыўся,

Той дарог недабраў,
Той бяды не пазбыўся».

І плыве і пяе,
Як спявала калісьці...

Усе грудзі ў яе
Ў медалях жаўталісця.

## СЯБРЫ ДУШЫ

За сэрца і за зрок падзякаваўшы матцы,
Ідзём душы дабраць у пушчы, да азёр,
Сплясціся веццем, ветрам абазвацца
Ад сэрца іх — братоў сваіх, сясцёр.

## ЖЫЦЦЁ ПЕСНІ

Радзіма!
Вечна светлыя прасторы.
Жывуць, шумяць, растуць
ад году ў год:
Бор — з хвой і рэк,
З муроў і плошчаў — горад,
Душа — з душы,
А з добрых душ — народ.

Для ўсіх турбот
людзей раджаюць людзі,
А спевакам дае жыццё народ,
Пакуль чутно —
пяюць на родным грудзе,
Нас не крануць
ні забыццё, ні звод.

## ЗДАБЫЧА СЛОВА

Дзе ўлады той уладары,
У мове цудадзеі,
Хто лёс прыняў паліць кастры,
Што вечна палымнеюць!

Спрабуй вось, слова разадзьмі,
Каб стала ў свеце віхрам:
Сказаў: шумі!
І бор шуміць.
Сказаў: аціхні!
Ціхне.

А ў друга сэрца ўспыхне...

## УПАРТЫ ЛІСТ

Надранішнік пашкліў раку,
Абтрос кусты і, як на тое,
Дазволіў аднаму лістку
Зірнуць у люстра ледзяное.

Зірнуў і не зляцеў далоў!
Схапіўся лапкай за ляшчэўнік
Ад падбухторвання сяброў,
Што беглі ў белае качэўе.

Прастор, замглёны ў шэры цюль,
Дыміцца снежнай пацярухай.
Ліст не зважае; ён пакуль
Непадуладны завірухам.

Ён можа перажыць напасць:
З прамывіны, каля калоды,
Чырвоным вокам свеціць язь,
І рэчка дыхае з-пад лёду.

## ЗАЗІМАК

Будзе ў раніцы клопат —
пратоптваць сцяжыны
За паркан, дзе паркаль пацягнуў палыны...
Адгуляць не паспелі, здаецца, вясны,
А збірайся, ідзі да зімы на радзіны.

Грозна лётае сівер, ад зорак відушчы,
І бунтуй ні бунтуй супраць снежных апон,
Не пакліча жытное падыхаць снапом,
Не папросіць на грыб Налібоцкая пушча.

## КАРОТКІ ДЗЕНЬ

Снежань тут нічым не вінны,
Крой абмален, як ні ўздзень:
Сем гадзін, адна хвіліна —
Вось і ўвесь зімовы дзень.

Сонца ёсць, а цемнавата:
Да паўдня сядзі з агнём.
Не бурчы, бо з дошчак хата
Яшчэ горай цёмны дом.

Сем гадзін, адна хвіліна! —
Раскладзі хіба што снасць —
Пойдзе ў ход, як палавіну
Красавік да дня дадасць.

Дзень падскочыць за семнаццаць,
Ноч спадзе на шэсць гадзін,
Зрэшты, хопіць для юнацтва,—
Ты тут вока не трудзі.

Прачувай у снежнай млосці
Першы дзень, што рвецца ў рост,
Ды каб з дрэва маладосці
Вецер цвету не абтрос.

## ВЯСНА СНЕГУ

Адгрукалі па даху градзіны,
Скруціўся вецер за лаўжом
Пад нечаканы, нібы ўкрадзены
На небе, лютаўскі сняжок.

Ён сам найшоў! І зараз выкліча
З-за хмар на танец шмат радні.
А светла ж! Хоць ты сонца выключы
І хвоі змрокам падсіні.

## ПЕРАЛЁТНЫ САЛІСТ

Без афіш, як лепяць для салістаў,
Сеўшы над ракою на сучок,
Нешта вельмі хораша высвістваў
Чорны салаўіны сваячок.

Мокры, праз імглістую прадвесню,
Крыльцы нёс да леташніх сяліб.
Можна б адпачыць, а ён — за песню,
Час вясне душу падвесяліць.

Першая паслухала чаромха,
Варухнуўся кволенькі лісток,
Белая праклюнулася гронка,
Хустачка махнула над кустом.

Хоць не мог узяць усіх каленаў,
На якія здатны салаўі,—
Рыбакі сядзелі задуменна,
Паплавок драмаў на вудаўі.

Смешны пасвісцёл, без перапынку
Доўжыў песню срэбную сваю,
Непаглядны, зմораны шпачынка,
Што ў сваяцтве дальнім салаўю.

Можа, нейкі дзядзька або швагер,—
Радаслоўнай не пытай у дрэў,
Ён спяваў, і гэта быў не шлягер,
А ў імя сяброўкі вечны спеў.

## КРЫЛО НАСЕННЯ

Хай прыпазнілася вясна,
Яна гудзе вятрамі.
Спявае горная сасна
З надольнымі барамі.

А як патрапіла туды,
Каб на скале ўтрымацца,
Якія лучаць павады
Далін і гор сваяцтва?

Як гаварылася даўней,
Прывыкшы жыць у болю:
Хто лічыць гора! — Праміне,
Стагоддзе меней-болей.

Барам накінут быў зарок,
Цяжкі замок цярпення,—
Спяваў маўчком лясны народ,
Расціў крыло ў насення.

Яно ляцела, як узвей —
Вятрыска — нёс і дзьмухаў:
Паўночным холадам завей,
Паўднёваю задухай.

І абы толькі шчасціў лёс
За грунт які ўчапіцца,
Яго вяла, цягнула ў рост
За рукі навальніца.

Ігліцы зелень, стану медзь,
Пабраўшы ў таты з мамай,
Стараўся парастак шумець
Сасною, гэткай самай.

Прыедзеш некуды, за свет,
І чуеш, як сасонка
Дае на вырай запавет
Крылатаму дзіцёнку.

Аб тым і птушка спакваля
Вядзе сваім заходам.
...Як гоніць парасткі з камля
Зямля, адкуль мы родам!

## УРЫВАК

...Часамі бывала цяжка...
З маркоты ці ад тугі
Рабіла душа прамашкі,
Заблытвалася ў даўгі.

Не спраўджвала абяцанні,
Дадзеныя сябрам,
Прымала чыстапісанне
Раманаў, кардонных драм.

Міналі за кадрам кадры,
Рвучы пісягамі змрок,
Пакуль у вясновай квадры
Не глянуў маладзічок.

Чысценькі, смешнаваты,
Без рожак — зусім ягня!..
Душа зразумела страты
І кінулася — спаганяць!

Прагна яна ўбірала
Зяленіва першых траў
З бярэзніку белай брамы,
Дзе плечы дзень распрастаў.

Буханку зямлі са смакам
Кроіў маланкі нож,
Скрозь на шашы падскакваў
Пругкі, як з гумы, дождж.

Змокнуць і абсушыцца,
І — ўдалеч, пад хмары зноў...
А вечар завечарыцца —
Стукнуць табе ў акно.

## ДЗЯЎЧЫНА Ў НАВАЛЬНІЦУ

Недасяжнае і дасяжнае —
Крок задыханы ўдалячынь,
Каб з нясмелага на адважнае
Сэрца горкае растачыць.

Праз асіннікі лапатлівыя
Бегла ты да ялін пад столь,
На хвіліну адну шчаслівая,
А ці шчасця даецца больш?

Быццам ноч, ані зерня зорнага,
Неба падае ў верасы,
На касу тваю, вельмі чорную,
Лішне чорную для касы.

І шугала зялёным полымем
З абступіўшых цябе лясоў,
А вясёлка вісела ў голлі іх,
Як твой згублены паясок.

## ДОЙЛІД

Выростаў зграбны і выносны,
Разлічаны як мур-муроў
На дзевяцьсот і дзевяноста
І дзевяць — звыш таго — гадоў.

А творца, ўзрушаны, упарты,
Не паспяшаў гасіць агонь,
Хоць гмах і так быў часуварты
І гэтага, а больш таго,
Што прыйдзе некалі...

## ЧАС НА ВАРЦЕ

Стаяць будыначкі...
Бульдозер
Капнýў і выламаў сцяну.
Каб не тырчала на дарозе,
Штó патаптаў, штó расцягнуў.

Машына — ёй не абыходзіць,
Машына — ёй не ў галаве —
Людзей няма там тры стагоддзі,
А час як жыў, так і жыве.

Жыве. І лічыць грозны тэрмін
Тым, што замест сівых муроў
Устануць...
Хто ад іх адверне
Бульдозера няўмольны роў!

## ЗАПЛАЧКІ

Казала: не хадзі,— не ўшчула!
Аберуч абняла ў дзвярах,
А сэрца чула, чула, чула,
Што гэта ўжо апошні шлях.

Апошні? Не, перадапошні.
Апошні быў тады, калі
Яго цераз лугі і пожні...
Не везлі... Поруч з ім ішлі.

Ішлі паволі, пырскаў дожджык
На твар, на кветкі... Не ў труне,
Нібы ў садку: прылёг на ложак,
Задумаўся, паспакайнеў.

Але пад клёнам невысокім
Вільготным жвірам дол сустрэў.
Гром вырваўся цераз аблокі,
І ўчула я той самы стрэл.

Учула зноў, і зразумела,
І ўпала плачучы пасля.
Быў чалавек, а стала цела,
Была зямля і ёсць зямля.

Не паласа, цераз якую
Лёс чалавечы сох і чэз
І пасылаў пад сэрца кулю
Яму злапамятны абрэз,—

Мнё ясны воблік друга верне,
Падняўшы дрэўца з-за баляс,
Зямля, якая ходзіць зернем,
Раджае нас, хавае нас.

## РАЗВІТАННЕ

*А. К.*

На берагах жывых надзей
Наўсцяж гукаю
І толькі водгуку нідзе
Не сустракаю.

Ці вусны спеўныя твае
Навек замоўклі,
І без патрэбы на стале
Ляжаць алоўкі?

Самотнай каняй уначы
Блукае песня,—
Той, хто у спевах вёў зачын,
Той не ўваскрэсне.

Калі яго між нас няма,
Хто ж прыйдзе новы?
Ці я не бачу праз туман,
Хто ўздыме слова?

Хай не было б такіх гадзін,
Каб ані трохі
Не быў, не жыў паэт адзін,—
Ён вельмі крохкі.

Ён светлы, хоць не сын багоў,
Не іх нашчадак,
Дык не стаўляйце на яго
Сваіх пячатак.

Калі ж намерыцца малы
Сталаначальнік,
Прачнуцца галасы з імглы
Людзей звычайных.

Паэта прагнуць праз вякі,
Як з неба манны,
Дзядзькі, ну, хоць бы Янукі
І цёткі Ганны.

Ён з імі шчодра падрасце,
Час будзе насцеж,
І свет умыецца ў расе
З ракі юнацтва.

## УЗЯТАК МАЛАДОСЦІ

Я ў дзень зайшоў, нібыта ў луг,
У промняў бляск, у звон чмяліны,
Там крыльцамі трымцеў мятлух,—
Стараўся мёду ў канюшыны.

Дай згадкам твар, запал падкінь
Да кнігі, да касы дзяржальна,—
І прад вачыма — юнакі,
Мае сябры, інакшсказальна.

З кім сцежкі вывялі з плачу́.
У шынялях і ў дыпламатах,
Ішлі мы да пляча плячук
З дваццатых да шасцідзесятых.

Тут сталі гаснуць галасы,
Шарэнга раптам парадзела,
З усіх бакоў пайшло касіць
Сівых і трохі парудзелых.

І зараз — быццам той жа луг,
Але пад наспамі малымі...
Трапеча крыльцамі мятлух,
Нібы сяброў адтуль падыме.

Я не пытаюся: чарга
Ці зноў адкладзена чарга мне
Дружбацкі вартаваць курган,
А потым легчы ў тым кургане.

Я аднаго хачу, зямля,
Мне гэтага за вочы досыць,
Пашлі на мой курган чмяля
І светлы ўзятак маладосці.

## КАНЕЦ ЖНІВА

Камбайны каля абочыны.
Шчоткаю жоўтых спіц
Блішча клін абмалочаны.
Ціха!
Камбайнер спіць.

Месяц дажджыскі мучылі,
Колькі іх, каласоў,

Злёгшых, жмутамі скручаных!
Мок з імі.
Болей сох.

Клопату чалавечага
Не ашукаў гектар:
Зерне ажно адсвечвае,
Вось яно, любата!

Так старшыня дакладвае,—
А хлопцу лягчэй касіць,
Ды хай бы кіно заглядвала...
Ціха!
Камбайнер спіць.

Захоплены сном знянацку,
З пухлінкай на дужцы губ,
Спаў ён, як спіць юнацтва,
Вочы схаваўшы ў чуб.

І старшыні зарупіла:
— Як ён, нішто жняя?
З поля ідзём, не грукаем
Той старшыня і я.

## АСЕННІ ДЗЯНЁК

А было ж мне тады паўдарогі да восені!..
Лесаваў у барах, чуў удачу здалёк.
Між дажджом і пагодай
спаткаць давялося мне
Той асенні дзянёк.

Атрасаліся кроплі на рогі ласіныя,
Узляталі вавёркі па голлі ўпадскок.
За старожай дубоў, за гасцінай асінніку
Засвітаў мне дзянёк.

— Ого-гоў!
— Ого-гоў! — мне вярнулася з пошчакам.

Паміж рэк баравых, каля ціхіх суток,
Паркалёвенькі, сіненькі, непадхарошаны,
Стаў асенні дзянёк.

Як ніколі, мне шчасце грыбное ўсміхалася,
Ды вятрыска імжакі ў разлог навалок,
І я выпусціў з рук,
не ўтрымаў па нядбаласці
Мой асенні дзянёк.

Як пасля ні шукаў, ні блукаў па выгарынах,
Рос круглей за зямлю маіх сцежак маток,
Не ўпрасіў я нябёс...
Адабралі, захмарылі
Мой асенні дзянёк.

Хай ляжала б сабе гэта ўсё пад парошаю,
Дык жа не — выплывае, дратуе знарок:
Колькі, кажучы спрошчана,
Стаўлена рошчыны,
Колькі страчана пошукаў,
Зроблена прочыркаў,
Колькі грэчак узрошчана,
дружбаў пакошана,—
Ані грошыка
Мною назад не папрошана,
Ну, а ты хоць зірні,
Мой асенні дзянёк!

## РАССТАЙНАЯ СУСТРЭЧА

Засынала яна не ў мяне на плячы,
Не майго хлапчука на руках калыхала,
Запыняла цягнік, не за мной бегучы,
Калі бразнула зброяй часіна ліхая.

Не мяне абдымала, як горад вярнуў,
Дзе ў руінах ёй гора падбельвала косы...
Пэўна, ціха я клікнуў з сабой у вясну,
А яна не гукнула ні ў лета, ні ў восень.

Толькі зараз, на скверыку, белай зімой,
Калі ўнучка яе заляпіла мне снежку,
Пасміхнуліся вочы з-пад пасмы сівой,
Не пазнаўшы, каго абдараюць усмешкай.

Што рабіць! Не прыпала смяяцца званчэй,
Задыхнуўшыся ў лесе, заблытацца ў вецер
І пароўну дзяліць хлеб і песню вачэй...
Што рабіць!
Дзве душы размінуліся ў свеце.

## УСПАМІН

Сонейка ты маё!
З роднага папялішча
У змроку чужых краёў
Свеціць тваё аблічча.

Смутнай, нясцерпнай красы,
Як абразы Рублёва...
Нейчы маленькі сын
У шапачцы паркалёвай.

## АМЕРЫКАНСКІ ЭЦЮД

Каб ведаў хто — куды,
каб хто сказаў — зачым
Са смогу ў смог, праз чорнае паветра,
Пры стрэчы сляплі касякі машын
І вобмацкам паўзлі за тумановў паветку.

Нарэшце паварот — адкрыўся акіян!
Смялела сонца, дыхала затока,
І чалавек у промні акрыяў:
І свету стаў відзён, і свет прыняў у вока.

## ЖОРАЎ

Сакавік пад палазамі,
Маладзік у настаццi...
Ранні жораў замярзае,
А ляціць — дамоў ляціць.

І не знойдзецца такога,
Каб да роднае зямлі
Не спяшаў пачаць дарогу
Ці прасіў бальнічны ліст.

За падказкай важаковай
Цягне строй плячо ў плячо
Роўна ў нітку ці падковай,
Як гаворыцца, ключом.

Пэўна, хлеб не лёгкі гэта,
Не збаіцца, ён не з тых,
Жораў вернецца й налета
Падгадоўваць маладых.

Над бядой, над бездарожжам,
З іхніх пёраў махавых
Пойдзе ў поле косы дожджык,
Закасаўшы рукавы.

А важак перад вандроўкай
Смутна гляне ўслед ключу:
Там і дзеці і сяброўка,
Далячу — не далячу?

Перабег дарогу заяц...
Дзе той цёплы край гасцін!
Позні жораў замярзае,
Але з дому не ляціць.

## МАЛАДЫЯ ВАНДРОЎНІКІ

На высокім беразе
Сушаць ногі ў верасе
Залатыя сосны.
Ранак, вельмі росна.
Гоніць статак пужка.
Закіпае юшка.

Мы лавілі вудаю
І цяпер арудуем.
Лі яшчэ паўмісак,
Калі гэты высах!
Рыбку мае кожны,—
Слухаць байкі можна:

Быццам неба —
сенечкі,
Там планеты семачкі
Лужуць днём і ноччу,
Колькі хочуць, топчуць.
Што ж датычыць сонца,
Дык яно на донцы
У азёр хаваецца.
Спіць сабе да раніцы,
Спіць, ахаладае,
Балазе вада ёсць,
А пасля памалу
Дасць зямлі напалу.

Доўга байкі баюцца,
Дзе нам столькі бавіцца!
Забіраем фаскі,
Падціскаем паскі,—
Кліча ўжо дарога
З берага другога.

На самотным беразе,
Па калені ў верасе
Рукі ўзняў арэшнік:
Жаліцца, няўцешнік,—
Паскубуць арэшкі,
Пасякуць на вешкі!

## КАСМАНАЎТЫКА НА СЛУЧЧЫНЕ

Вазьмі, з вачэй паўвека скінь
І ўчуеш:
аднае суботы
Увечар жупяць случакі
Пра міжпланетныя палёты:

— Адной трымаліся б зямлі,
Жылі ж бацькі і мы б жылі...

— І гэтай веку ўкарацім,
І да другой не даляцім.

— Спрабуем! Можа, ўдасца ўведаць,
Як, не варыўшы, паабедаць.

— А раптам там жалеза дарам?
— Тады за хмары ўсе пашпарым.

— Што — хмары? Вадзяная воўна:
Жалеза ўпала б усё роўна.

— Не чулі вушы, не бывала,
Каб нам на голаў нешта ўпала.

— А бог кіруе праз акенца!
Як зорка выпадзе за дзверцы,
Ён гэткі рух дае зямельцы,
Што круціцца, бы вераценца:
Ляціць-ляціць і размінецца...

— А людзі ёсць?
— Відаць, не ўсюды.
— Нічога, злётаем, дык будуць...—

Саймуюцца, як дактары,
Да позняй ночы грэюць лаўкі:
Ці ёсць каму *там:*
гаварыць,
Іржаць, рыкаць, брахаць і мяўкаць.

І вырашаюць землякі
На гэтым несклíканым сходзе:

— Ляцець далёзна, ды, браткі,
І нам навука не пашкодзіць.—

Што ж адкладаць на іншы час!
Хоць, праўда, трохі страшнавата,
А пачынаюць вылучаць
У касманаўты кандыдата.

Абралі і наказ даюць:
— Дазнайся, што ядуць і п'юць,
Ці на вялікдзень яйкі б'юць,
Ці дарагія селядцы,
Ці ездзяць на свіней купцы,
І як у тамашніх, цікава,
Кабеты і другая справа.

Ляці, пабольш матай на вус,
Калі ахвоч, давай руку ім,
Адно шануй, брат, галаву,
Галоў і тут, сабе, бракуе.

Пакуль яны, Пятро Клімук
Набыўся ў космасе па-людску.
— Ну, гэта з Брэстчыны дзяцюк,
Наступны, пэўна, будзе слуцкі.

## ГУТАРКА З КАЛУЖАНАМІ

Мусіць, не даеду я ў Калугу,
Дый чаго туды мне, сапраўды?
Не тапіў я там вайны папругу,
З другам не хапіў жывой вады.

— Ну й дае! — прысвісну ць калужане.—
Май ты сорам, Свіслачы жыхар.
Мы — Ака!
А хто такі Лужанін?
Што, хіба ты помнік ці даяр?

— Выбачайце, я не для сутычкі,
Гэтым грэшны ўздзёртыя лычы,
А ў мяне — да нашых мораў звычка...
— Іх так шмат?
— Ды здоўжыцца лічыць.

Мы ў ярах паводкі замыкалі,
На ўсход сонца рэкі павялі,
І садам сталіцы замахалі
Рукавы зялёныя Віллі.

Пра Аку з ляснымі берагамі
І пра вас, таварышы мае,
Ведаю не меней, чым Бракгауз,
Так сказаць, на ўзроўні БСЭ.

І, як гід, магу круціць турусы,
Колькі ў вашай рэчкі розных спраў,
Што яе красу каля Тарусы
Сам Паленаў фарбамі пісаў.

— А Калугу бачыў ты?
— Не бачыў.
— А ракою плыў?
— Ды не, не плыў.
Я запомніў горад ваш іначай,
А наконта друга прыманіў.

Жыў у вас наш друг дзівакаваты,
Не ўзлятаў, а бліскаў, як святло.
Сверб у чалавецтва між лапатак
Абудзіў...
І вырасла крыло.

Даў ён меру сталасці зямлянам:
Калі ўгору хочаш падрасці,
Пасябруй з нябесным акіянам,
Стань сваім у зорак і свяціл.

Вечны, ў старамоднай разлятайцы,
Ён ідзе, муштруе аплікі.
На разведцы міжпланетных станцый
Скразнякі пацягваюць —
з Акі.

Блізка дзьмуць, расце мая удача,
Прыбывае ў вока добрых дзіў.
Я люблю Калугу, хоць не бачыў,
І Аку, хоць разу не праплыў.

Пэўна, я збяруся наастатак,
Завязу паклон хаціне той,
Дзе, адчуўшы крылле між лапатак,
Можна калужанам стаць радней.

## ТВОЙ ПРАЦЯЖНІК

Ты — толькі рыса: між дзіцячым крыкам,
Што ўсмешкай маці скончыў круг пакут,
І днём бязмоўя ў Мацеры Вялікай,
Гатовай вечны выканаць прысуд:

Праверыць выкананне абавязкаў,
Дзе судны вёў, а дзе цягнуўся ўброд,
І сына абдарыць апошняй ласкай —
Навек пазбавіць болю і турбот.

У тонкай рысе змогі чалавецкай
Б'е рэвалюцый несціханы гром
І войнаў полымя за гэта месца,
На чым стаім і сплочваем жыццём.

А што яшчэ? Вячорныя размовы
З ласкавым вокам, з мілаю рукой
І невыказнае, нясказанае слова,—
Шукай яго, не мерся на спакой.

Няхай хадзіў ты ў дужых і ў адважных,
А дом не скончыў, хлеб не пакраяў,
Што не паспеў змясціць у свой працяжнік,
Далей, як кажуць, справа не твая.

Хутчэй на памяць картачкі здымайце,
Кароткі крок, хвілін адмеран лік —
О! Недзе адпакутавала маці,
І ўжо чуцён дзіцёнка першы крык.

Працяжнік невядомае працягласці!
Даўжэй за шлях ад нас і да планет
І карацей за міг спрадвечнай прагнасці —
Прыход у свет і зноў зварот у свет.

## РАЗМОВА З СУСЕДАМ

1

— Не плачся, што хвалы не ўскураў,
І так жа разумее свет:
Калі паэт, нашто падмурак?..
— Не, без падмурка не паэт,—
Зазначыў з'едліва сусед.

— Пазбаў яго пасады, сану
І руху з дапамогай шын,
І пойдзе з торбачкай лаўсаннай
На рынак альбо ў магазін
Зусім звычайны Евін сын.

Нашто ж дарма гуляць у жмуркі,
Шукаць асобу, самацвет?..
Падмуркі, дружа, ёсць падмуркі,
Не мы на іх стаўлялі свет,—
Закончыў з'едліва сусед.

2

— Сілком паўзці на п'едэсталы,
Каб стаць вышэй хаця б на пядзь,
А крок святла і крок навалы
Не ўмець у лёсах расчытаць! —
Пачаў я смутна разважаць.—

Пяройдзе ў медзь, зірне праз камень,
Хто пра душу зямлі падбаў,
І, як бы страхі ні рыкалі,
Не днямі думаў, а вякамі,
І горб раба здзіраў з гарба.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ АГНЮ

На перамычцы двух азёр
Дзве хвоі, нібыта ў гасцях:
Касцёр іскруе, сёстры зор
Зрываюцца ў начны прасцяг.

Я кожнай з іх кажу: ляці!
Цяплом зрабіся, стань святлом,
Дзе абагрэй, дзе пасвяці
І золкам блісні ў кожны дом.

Хвала старэйшаму агню,
Здабытаму з сухіх брусоў,
Раскладзенаму ўпершыню
Сярод нясечаных лясоў.

І танцу пры кастры — хвала!
З агню пачаўся чалавек:
Ён танцаваў: зара ўзышла!
І шлях агню ў вякі прасек.

Спярша ён качку ў прыску пёк,
Пасля дадумаўся да круп,
Заліў вадой бычыны бок,
І згатаваўся першы суп.

Агонь у гільзу спрасаваў
І стаў дужэйшым утрая:
І паляваў, і ваяваў,
І землі адкрываў...
А я —
Яго, што выйшаў з рук маіх,
Без шапкі змушаны маліць
Мяне пакінуць у жывых,
Не рваць душу мае зямлі.

Ад імені маўклівых дрэў
Іду ў агонь, заслон кладу:
Калі да продка літасць меў,
Дык і сябе ты пашкадуй.

Мяне як толькі спапяліш,
Сам захлынешся ты, агонь:
Хто ж палкі зложыць крыж-накрыж
І зноў упаліць абалонь...

## КРОЎНЫ КЛОПАТ

Куды я клопат свой скірую —
Спраў многа, ліха іх бяры!
Зямлю выслухваю старую,
Як колішнія дактары,

Каму далёкі быў аналіз,
Распад крыві, падлік пад шклом,
А ўся надзея на анамнез —
Калі і як на боль зайшло:

Дзе тузае, дзе нарывае,
Чаму гарачка валіць з ног...
Абстукаў. Вуха прыкладае:
А можа, сэрца дасць званок.

І ў самай цяжкай паняверцы —
Адзін, са жменькай добрых слоў...
Паколькі сэрца лечаць сэрцам,
Дык свет на поправку ішоў.

Навукі сейбіт і палоннік,
Чамусьці я душой прыўныў,
Паважыўшы цябе ў далонях,
Мой бедны свет, мой шар зямны!

Я чую, як цябе калоціць,
Гняце сардэчны недабор,
Нібыта сунешся ў калодзеж
І зразу ж — пад сухі віхор.

Ганю рукамі зграю ліха,—
Развейвайся ў пустой начы!
Зямлі бывае цяжка дыхаць,
Тут аднаму не памагчы!

## У БУДУЧЫНЮ

Пад золак сэрца камуністава
Ішло да заўтрага ў дазор, —
Шляхі гарыстыя, вятрыстыя,
Пустэльняў жар і холад зор.

А не спынілі, не спалохалі,
Быў моцнай веры наш зарок...
Сягоння глянеш — стаў эпохаю
Той час, дзе зроблен першы крок.

Бягуць святлей шляхі гарыстыя,
Шырэй абсеяны прастор.
І зноўку сэрца камуністава
Ідзе да заўтрага ў дазор.

# Лісткі блакнотаў франтавых

1941—1978

## НАРОДНАЯ ПАМЯЦЬ

Што на свеце мацней за народную памяць?
Яе ганьбай не зганіць
І плямай не спляміць.

Дзея, што прамінецца, з нябыту праб'ецца,
Сэрца з сэрцам гукнецца,
І як на паверцы,—
Пройдуць бітваў часіны, адвагі сцяжыны
І хлапца, і дзяўчыны,
І цэлай Айчыны.

Шлях пракінецца сіні між намі і імі
Праз навалы і стыні
Да новай вяршыні.

## НА ВАЙНУ

Паравозік цягае платформы па ветцы,
А калі закрычыць, ахінуўшыся ў пар,
Рэха звонка ўзвіецца, і даль абзавецца:
— Дзе ж вам ехаць?
А ніва ж яшчэ не ў снапах.

Ні адкладу, ні просьб не прымае дарога,
Хоць і чуе — душа на работу жадна.
Нехта іншы прырвецца з сярпом і нарогам,
А мы — косім вайну, а нас косіць вайна.

## ТАК БЫЛО

Над светам высака, як сцяг,
Мы права дружбы падымаем,
І супраць ворагаў жыцця
Мы права гэтае звяртаем.

А з добрым другам мы б змаглі
Згусціць агонь, шчадзіць пяхоту
І каб прыстылі да зямлі
З пякельным грузам самалёты.

Стаім насмерць.
Б'ём на прарыў.
Ад выбухаў зямлю хістае.
А нам заморскія «сябры»
Яшчэ ўсё дружбу абяцаюць.

## АДУЖАННЕ

Уночы, ў шпіталі бяссонным,
Калі ані сінкі ўваччу,
Удары далёкага звона
З навушнікаў хворы пачуў.

Сястрыцы, уколы, павязкі.
Курантаў раскоцісты бой...
І ўсплыў, як з крывавае казкі,
Санбацік на перадавой.

Тады, пасля бою цяжкога,
Што нават салдату няўсцерп,
Ён выйграў жыццё з перамогай,
Няўжо ж праіграе цяпер!

Махлюе хвароба-хітруга,
Лягчэй тут яе заляйцаць:
Не сотня ж байцоў на хірурга,
А цэлы шпіталь для байца.

## САЛЮТ

Трэба ж было, каб маленькі сняжок
Ціха сцярушваўся, падаў...
                                І раптам
Вырваўся ў ноч за ракетнай імжой
Чысты і радасны голас гарматы.

Хоць прыпадзі ды паслухай зямлю:
Маці, ты чуеш, ці рада ты, маці?
Шлюць твае хлопцы на золку салют,
Каб пацяплела ў няпаленай хаце.

Нам бы самім на сустрэчу хутчэй,—
Носім жа ў сэрцы твае папялішчы.
Вось і спяшаем, хай сівер сячэ,
Не па чужое, сваё толькі сышчам.

## У ВАГОНЕ

Сёння штосьці ніхто не правёў.
Пакурыў ды паехаў, самотны,
У натоўпы халодных гаёў
На зялёнага снегу палотны.

Не ўгадаю, што думаць, як быць:
Ці то лёс пасміхнуўся, шчарбаты,

Ці то хто памагае забыць
Заступіўшага варту салдата.

І калі ты ідзеш не адна,
Заўладаўшы азяблай рукою,
Нехта нудна мармыча: вайна! —
Трэба ж кроплю цяпла і спакою.

Будзем зноўку пад звон маразоў
Па-пластунску прасторы прамерваць.
Недзе ж кліча шчымлівай слязой
Беспрытульная бабская вернасць.

## ВЫПАДАК НА ФРОНЦЕ

Залп захлынуўся ў залпе,
Абкружаны медсанбат.
Доктар кідае скальпель,
Хапае свой аўтамат...

А на стале — салдат.

— Ты пачакай, салдаце,
Зараз канец баёў.
Маці? Пабачыш маці.
Любоў? Прыхінеш любоў.

— Ды ты папраў хоць шыну,
Дай мне падацца ў рух...—

Хвіліна.
А праз хвіліну
Бой прынялі сам-друг.

А потым ча́йпілі ўдвух.

## НА ШТУРМ

Камандзіры наводзяць біноклі на горад,—
Там, нарэшце, за парай з вясновых далін,
Сціх вулкан, што выкідваў гаручае гора
На ўвесь свет...
Нават мы астудзіць не маглі.

Паўгадзіны на роздум: вось наша умова.
Не марудзь, угару падымайся, далонь.
А-а, ты так, агрызацца?
Другая размова:
— Батарэя, агонь!

## СОНЦА І МЫ

У сонца маладыя вочы:
Яно ўначы
Праз морак сочыць, пільна хоча
Нам памагчы.

У сонца маладыя ногі:
Каторы дзень
Яно пад браму перамогі
Між нас ідзе.

У сонца маладыя рукі:
Ва ўсе званы
Яно іграе марш разлукі
З агнём вайны.

У сонца маладое сэрца:
З чужых краёў
Малюе стрэлкай на фанерцы
Шляхі дамоў.

## З ТАМ-ТЫХ ДАТ

Гэта — у горадзе Мінску.
У сорак чацвёртым.
Ступіўшы,
Не ў дамы, дзе жылі,
А ў каменны, пустэльны разлог.
Страт,
Як летапіс кажа,
На статку валоў не папішаш.
Мушкі ў проразі
Сочаць за спінай
З нярушаных лёх.

Тыя ж дрэвы стаялі
І тыя ж слупы Камароўкі,
Што так праглі пападаць,
Каб вецер на іх не гайдаў
Нежывых,
Што жылі,
З-пад ватоўкі
Ляпілі лістоўкі,
Секачамі нажніц
Скарачалі жыццё правадам.

На рагу — дзеўчаня.
Абярэмак чырвоных вяргіняў
Дацвітаў у руках.
Я не мог не забраць іх усе.
Я не ведаў каму,
Палажыць на каторай магіле,—
Чалавека ці дома,
Што злеглі ў няспелым аўсе.

Цяжка тут ваявалі,
А сеялі!
Людзі — на тое!
Рукі зброю трымаюць,
А сэрцу б хоць міг не страляць:
Хай сабе папялішча,
Але пакрапі збажыною,—
Нельга ёй не радзіць,
Не ўтрывае няплодная зямля.

З лета ў лета, калі
У вяргінях прастор забушуе,
На барвовае полымя
Ступіць з падмурка салдат.
І гукае жывым ён,
Баец у каменнай кашулі:
— Бачыш, брат?
— Чуеш, брат?
— Помні, брат!

## ЛІПЕНЬ, 1944

Спалены дом забінтован бярозкаю,
З кантужаных дахаў гарэніць чад.
Здаровенек, Мінск!
Пасля полымя ростані
Сустрэчы на прыску я слёзна рад.

Сэрца — жывое. І роўна тухкае!
А мы — неастыўшых ад бою рук
Разняць не можам, стаім са скрухаю:
Ты ўвесь на ранах, мой бедны друг.

Першыя ўсмешкі ўладаюць плошчамі,
Праменнем адбліскваюць камяні.
Ліпы цвітуць і пахам прывошчаным
Клічуць далёка, ў юнацкія дні.

Дзесьці там брат мой, пад жвірнай наспаю,
Вока не змружваў чацвёрты год.
Паклон кладу, накрываю каскаю.
Спачынь. Я пачаў без крыві паход.

Горад юнацтва — маё юнацтва,
Верных таварышаў вечны след.
Усе, хто нам лёсы чапляў жабрацкія,
Схапіўшы торбы, паджгалі ў свет.

Выветрым, выгладзім пад бароны,
Дзе што сурочыў позірк чужы,

Саставім крушні ў заслон абароны,
Каб гора слупамі віхор не кружыў.

І, пэўна, спяём...
Хай не вельмі звонкую.
Прымаю на плечы катушкі турбот.
З расою ў золак, з праводнай зоркаю
Цягну цераз час тэлефонны дрот.

## ЗНАКІ ПАМЯЦІ

Горад беліць фасады, размыцца гатовы
Знакі памяці ў цэгле з тых часаў, калі
Пачалі ад зямлі падымацца галовы,
А ўгіналі іх нізка, ніжэй не маглі.

Стала меншаць знаёмых...
З дамовак знікалі,
Раставалі ў завулках, чужэлі сябры.
Хто адзін заставаўся, разводзіў рукамі,
Як малое, ўпусціўшы за ветрам шары.

Перабыць,
перажыць,
перастрэць гэту ростань!
Рада блізка была: паглядзі, пашукай
І адновіш знаёмства, паджывіш сяброўства
На падрыве чыгункі, ў прарыве блакад.

Следам шнырылі каты нясвойскай гадоўлі,
Веру ў сонца
высмальваў з вачніц прайдзісвет.
Муляр парыць зямлю, з болю кончыўся дойлід,
Дом канаў, ды агонь абабіў і жыве.

Майстар фарбаю пырсне, і ў колерах свежых
Выйдзе мур векавы на прастор навальніц.
Памяць многа мацней за даўнейшыя вежы.
Памяць лепш не чапаць.
Памяць горай баліць.

# РГК[1]

Мой доктар абвясціў
Лацінаю з-пад Зэльвы,
Што выбраў я ў жыцці
Усе свае рэзервы.

Хоць чужамоўны тон
Быў у яго мяшанцы,
У ёй і маладзён
Не мог бы ашукацца.

А ў піску маладых,
Рухавенькіх дакторак
Мой лінгвістычны слых
Лавіў і сэнс гаворак.

Усе, найбольш адна,
Спецыяліст па нервах,
Дзяўблі: няма прынад
Вяртаць назад рэзервы.

Спрачаліся, ўсяляк
Ценілі сэрца выбрык...
Мне стаў абед не ўсмак,
Хоць пахла юшкай рыбнай.

Як ні шыфруй прысуд —
Лацінай ці верлібрам,
Тут не дадасць і цуд,
Калі ўсё з гакам выбраў.

Я пакланіўся ім:
«Ці вер вам, ці не вер вам,
А слухай і затым
Старайся сам рэзерваў».

І з роднага кутка
У ціш і сон палатак
Я клікнуў РГК,
Як робяць наастатак.

---

[1] РГК — Рэзервы Галоўнага Камандавання.

Тады ў шпітальны схоў
Разнасцежылі дзверы
Надзея і Любоў
З галоўсястрою Верай.

Цяпер-то я дажду,
Чым сэрцу падгаіцца!
Прыму пад шум дажджу
Мікстуры не з крыніцы.

Туманы паганю
Грыбное, сівай масці,
Мне ручку ля агню
Дасць немаўлёнак — Шчасце.

Боль, не мазоль вачэй,—
У ход пайшлі рэзервы,
І стаў бурчаць мякчэй
Мой доктар малаверны.

## СЯБРУ З ВАЙНЫ

На досвітку, з аўтамата,
Поблізу ад Агню,
Што некалі быў Салдатам,
Я ціха вам пазваню.

Чуеце, засвістала!
Гэта на мёрзлы шлях
Медная кропля ўпала
З горлейка жураўля.

Махніце ж і вы рукою,
Вайсковых спраў чалавек,
Вясне, што сустрэлі двое
Каля чатырох рэк.

Былі чатыры дзяржавы,
І ў кожнай рака свая:

Нёман, Да́ўгава, Влтава
І лепшая з рэк —
Вілля.

Рвала масты разводдзе,
Крыгаў раўлі гурты.
Двое, на злой нягодзе,
Нейк перайшлі «на ты».

У трыццаць пяць —
адзінокі,
У дваццаць пяць —
удава.
Шчасце іх сном глыбокім
Спіць у вайны ў равах.

...Парна раслі аблокі,
Млела расці трава...

І двое, невінаватых,
Пайшлі да Агню,
таго,
Што некалі быў Салдатам.
— Шчасліва! — уздыхнуў Агонь.

Дождж пакрапіў ціхуткі.
Пагрэла рука руку.
Вусны сказалі:
— Суткі.
І ўбачымся ў цягніку.

...Вырваўся з небакраю
Жорава першы крык...
Не кожны з дваіх трапляе
Сесці на свой цягнік.

## НАД ВОЛГАЙ

Тут я стаўляў вярбовы кол,
Няўжо з яго пайшлі прысады?
Тут біўся наш стралковы полк
На подступах да Сталінграда.

Тут на руках маіх сканаў
Камбат, вясковы рускі хлопец:
Няўзнак асколачак дагнаў,
І ўпаў ён на каменны поплаў.

Сказаў: «Чакай, крыху пабудзь!» —
І, вочы мружачы ад болю,
Прасіў ён песню пра вярбу
Пра тую, што стаяла ў полі.

І дрэва выжыла — вярба!
Такое цяглае стварэнне:
Прыткні ў зямлю і больш не дбай,
Адразу схопіцца карэннем.

Як мог, для друга развінаў
Я песні з матчынае хусткі.
Над ім — вярба, відаць, яна
Шуміць яму па-беларуску.

# З нарачанскае хвалі

1945—1978

## РЭПЛІКА

З прычыны паэтычных замахаў выплеснуць на Піншчыну палавіну Каспійскага мора і перанесці ў Беларусь гару Казбек.

Калісьці даўно, пад хлапечы азарт,
Зірнуўшы, як спеюць паўднёвыя зоры,
Я так жа намерваўся, тое ж казаў,
Але ў дачыненні да Чорнага мора.

Я столькі не гроб, я быў трохі сціплей:
Зачэрпаў у пляшку,— даволі на высеў,
Зародзіць, дык будзем і самі ў сядле,
Дый мору няўзнак, не паменшае ў місе.

Я вёз тую кроплю і верыў амаль:
Ліні — і ў лугах пабягуць хваляняты,
Гукнуць караблі, і, адолеўшы даль,
У ветразях свет зашуміць каля хаты!

І я, прызнаюся, абходжваў Эльбрус:
Гарышча якая,— уся ў гарнастаях!
Паехаць паедзе — ужо ўгавару,—
Няма дзе паставіць, жылплошча не тая.

Прылепіш дзе-небудзь на Лысай гары,
А там жа кватэры мясцовых вядзьмарак,
Адразу прапішацца, чорт пабяры,
Той самы, які прылятаў да Тамары.

Няхай не князёўны, а цёзкі яе,
Тамары і ў нас неблагія з аблічча,

І ў кожнай пад вокнамі хлопцаў стае:
Анёл ты ці дэман, а крылле пасмычуць.

Як бачыш, парушыцца клімат, фальклор,
Сядзі, вывучай — акадэмікам клопат:
Дарвуцца да свежых руін і пячор,
Давеку не вылезці з розных раскопаў.

А што за карысць перабоўтваць ваду?
Жыві, як і жыў на здароўіца, Каспій!
Тым больш, мы за Пінскам каўшоў чараду
Пасём на асушцы, нагачваем наспы.

Не, лепш не чапаць супакою глыбінь,
Трывожыць шаломы вяршынь снегавыя.
Нам дадзена ўсё — даглядай і любі! —
Вяснянкі спявай, падхапі каламыю.

Навошта ж дзівосы ў людзей адбіраць?
Хай ззяюць марамі, сінеюць хрыбтамі!
У нас і свайго ніштавата дабра,
Работы на ўнукаў і праўнукаў стане.

## АГЛЕДЗІНЫ РАДЗІМЫ

Устань нацямку. Цераз горад здалёк
Прыбой прышуміць у світальнай прасторы:
Гаі Белавежы, дубы Налібок
Вяслуюць галлём...
Гэта — першае мора.

Нацешся з баброў, за грыбамі спачні,
А жнівень махне загарэлай рукою,—
На крыллі камбайнаў, па хвалі пшаніц
Плыве ураджай...
Гэта мора другое.

А моры палескае гарывады,
А моры крыніц — здаравей, суайчыннік! —
А моры, што пеша прыйшлі ў гарады
На ўцеху дзіцяці, душы на спачынак!

Зямля залатая!
Другое ў нябёс,
Хай космас не просіць,
не хочам, не возьмем.
Ты — вечнае мора, ідзеш нападрост, —
Ад нас, ручаёў, у сутоках завозна.

Ты — мора жывое, людскі акіян,
За працай — упарты, са зброяю — грозны,
І свеціць далёка турбота твая
У лёс юнакоў і ў птушыныя гнёзды.

Хай месяц выпадкам не ўздыме павек,
Хай зоры прыснýць — акіян застанецца!
І будзе жывы, пакуль жыў чалавек,
У кроку імкнення, у скрыпчыным сэрцы.

## ПЕРШАЯ ПРАХОДКА ПА БЕРАЗЕ

Рыпіць праз гады турыстычны паром,
І ўсім дай кавалачак возера Рыца —
Шашлык па-абхазску з грузінскім віном...
А ў вас — што, пытаюць, шчупак ды юшыца!

Вандроўны імпэт мне знаёмы здавён,
Натупаўся пад экзатычнай паходняй.
І вось наша дзіва: грыміць з-за акон:
Ударыць у бубен, пазвоніць званком,
І хвалі з шамкамі на шыях
наўкол
Заскачуць...
А месяц падкіне падкоў,
І ўся заблішчыць, загарыцца бязодня!

Тут кожны захопіцца, стане захопнік.

А юшка? Давайце згатуем кацёл
Патройнай, рыбацкай. І можна — мачанку.
Як стомяцца лыжкі, глядзець павядзём...
Найлепш даручыць гэту місію Танку.

Пра бунт рыбакоў, пра свой першы астрог
Казаў мне калісьці.
І Нарачы імя
Пачуў я тады...
У яго на радзіме
Да гэтага дзіва ступіў на парог.

Паўстанцкія вогнішчы ў лесе гулі,
Народная памяць свяціла гасцінна.
З пашанай вязуць для кастроў вугалі
Далёкія людзі ў другія краіны.

У сэрцы ўзбудзілася прага вясла...
Дык вось дзе яна, тая дзіўная сіла,
Што спеўнае сонца на шчыт падняла
І ветрам вандровак жывіла Максіма.

Шкада, не злажылі ні рунаў, ні саг
Рыбак у чаўне, смалакур на выгары,
Але хто ні зойдзе да возера Нарач —
І сэрца, і песню дастане ў пасаг.

Абняўшыся з хваляй, дыхнуўшы пітва
Мядовае хвоі, ігрыстае мовы,
Папросіцца з вуснаў найлепшае слова,
Што сам не трапляў і дружбак не чуваў.

## ЗАПРАШЭННЕ НА ВОЗЕРА НАРАЧ

Хто быў на Байдарах, хадзіў на Эльбрусе,
Рукой дакранаўся алтайскіх снягоў,—
Збярыцеся ў гэты куток Беларусі,
Я шлях вам паказваць заўсёды гатоў.

Я бачыў не раз, як буруны ўставалі
І з мора спяшаліся ў порт караблі,
Мне месяц сцяжыну прасвечваў на хвалі,
І ў снежні сухумскія ружы цвілі.

У гэтай красе б'ецца сэрца маё!
Таму вось і клічу сяброў і суседзяў:
Пагосцім у Мінску, на Нарач паедзем,
Усмак наблукаем і ўсмак папяём!

Давайце агледзім наш добры прастор,
Бары на Палессі, наднёманскі поплаў,
У люстра зірнём палачанскіх азёр,
Паслухаем песні над пожняю цёплай.

Няхай сабе тут не зрабілася гор
І высахла мора старое да кроплі,
Але калі громам расколе абшар,
Збяруцца цяжкія ліловыя хмары,—
Упоравень з морам тады, не на жарт,
Да зор ускалышацца возера Нарач.

І вырвецца з бору паўсотні вятроў,
Забомкаюць сосны, лясныя званіцы,
І белая кнігаўка, як альбатрос,
На шпаркім крыле прынясе навальніцу.

Памкнуцца ўзляцець ад зямлі ветракі,
Наўзавад жыта́ пабягуць ад нягоды,
Зажмурацца, глянуўшы з берага ў воды,
І рынуцца з круч стрымгалоў васількі.

А пойдуць удаль грукатаць перуны,
Расправяцца ветразі, высахнуць снасці,—
Адзін за адным павяслуюць чаўны,
Закінуць у хвалі рыбацкае шчасце.

Спакойна іх возера будзе гайдаць,
І стане такое яно, адшумеўшы,
Што іншаму здасца — і ў лыжцы вада
Наўрад ці бывае калі спакайнейшай.

Празрыстае — можна каменне злічыць,
Блакітнае — неба у ім палавіна,
Багатае — рыба лускою блішчыць,
Магутнае — слава ад бацькі да сына.

З касою ішлі на паноў бунтары,
Калі ж заявіўся нядаўні наш вораг,—

Пры беразе ўспыхнулі мсціўцаў кастры,
Шугнула свінцом партызанскае мора.

А сёння тут важыцца мірны улоў.
Няхай бы і ўсюды!
Не,— горка і крыўдна —
На жоўтыя твары заморскіх лаўцоў
Імглою апаў папялок рэактыўны.

Нядоўга пакруціцца д'ябальскі чад!
Наш колас цяжэе, і горан іскруе.
Стаяць рыбакі з нарачанскіх брыгад,
Сваё працавітае мора вартуюць.

Сябры мы намоцна, работы не зганіш,
Адстойвалі разам наўкола аблонь.
Ад'едуся часам — не чую расстання,
А возера ўсплясне і сціснe далонь.

Адчуй гэта ўсё і ты скажаш, таварыш,
Святлейшага лёсу і ты б не хацеў,—
Хадзіў бы на тоні па возеры Нарач,
І золак страчаў, і душою мужнеў.

## ЛЕТНІЯ НАКІДЫ

1

Сады з румянкай белаю,
Палеткі з нівай спелаю
Сінечу п'юць нагбом.
І столькі ў хмарах чысціні,
І столькі ў марах вышыні,
Што мы з табой пяём.

2

Шляхі мае вандроўныя,
Турботай лета поўныя!

Зірнеш —
не налюбуешся,
Заснеш —
у сне дзівуешся,
Патрапіў сама раз:
На белы грыб — па верасе,
На рыбіну — па беразе,
А потым на папас!

3

За вёскаю за Купаю,
Дзе тоўкся чорт са ступаю
У даўнія гады,
Дажджы, як коні, тупалі
І рвалі пад Лынтупамі
Маланак павады.

Лілося перагонамі,
Святлела над адхонамі,
Сціхала пакрысе,
І ўсё далей за хатамі
Грымела перакатамі,—
Змагліся хмары ўсе!

І раніца — ў адведзіны —
Аж слепіць сінявой,—
Дарма, што дождж праседзела
У сукні пад сасной.

Якраз як ты са мной!

4

Ізноў па сінім верасе
Ідзём у хвойны дзень,
І верасень намерыўся
Сарваць табе прамень.

Цішком адкрасці ў сонейка
Для кос тваіх густых
Адзін, хоць самы тоненькі,
Абручык залаты.

І хораша, і молада
Ішлося ў той глушы,
І сонечнае золата
Смяялася ў душы.

## НАД НАРАЧЧУ

Стаіць на ўскраіне мой дом
Пры самым полі.
Сінеюць хвалі за акном,
Шумяць тапалі.

На агароджу да зямлі
Упалі промні:
Устаў у засені галін
Маленькі помнік.

І нечаканае зусім
Гучыць паданне,
Нібы пахована пад ім
Чыёсь каханне.

Але выплаквае свой жаль
Душа жывая,
І чайкаю над кіпнем хваль
Яна рыдае.

А каб сабраў на берагах
Жывых і паўшых
І насыпаць пачаў курган
Каханням нашым.

Усім, што суняла жарства
На кроку ў шчасце,
Вайной забітым напавал,
Ад ветру згаслым;

Тым, што зняверанай рукой
Сябе забілі
Ці абавязак верны свой
З другім забылі?

Жыццё па-рознаму мяло,
Ды след аднакаў:
Па кожным, як бы ні было,
А нехта плакаў.

І грозіць слёзаў акіян
Заліць планету,
А ненасыпаны курган
Стаць цудам свету.

Але трымае гэты жах
У супакоі
Дзіця, што ў маці на руках,
Малой рукою.

# Эпічныя старонкі

## БАЛАДА ПРА ВІХОР

Гайсаў па горадзе віхор
На сотні белых грыў,
Свістаў мне ў твар: «Даволі мёрз,
Давай дамоў, стары!»
Я думаў, жарты,— ён васцёр,
Мы з ім крыху сябры.

Але пісаць сябе ў дзядках,
Не ведаю — каму!
Відаць, на старасць наракаць
Да твару больш яму.
Дзівак! Круціў бы дзе вятрак,
Нашто без толку дзьмуць.

Бо колькі — лепей не пытай! —
Аблётаў вышыні,
Абвеяў хлопцаў на франтах,
Аббег марэй і ніў!
А колькі ботаў ён стаптаў,
Вартуючы граніц!

І вось злуе, нібы пачаў
З зямлі выкручваць вось,
Б'е па хрыбтах і па вачах,
Пранізвае наскрозь.
І ў дом, дзе ўспыхнула свяча,
Я стукнуў да кагось.

Насустрач выйшаў гаспадар,
Ён не здзівіўся, не.
— Віхура, брат, заходзь, сядай,—
Снег абабіў з мяне: —
Пакроім хлеб, нагрэем чай,
І трохі адпачнеш.

Мы першы бачыліся раз,
А блізкімі — былі!
Час падгартоўваў поплеч нас
І на адной зямлі,
Не астуджаў, а браў пад прас,
Намерваў шынялі.

Гарт мацаваўся ад хады —
Па тры баі на дзень!
Твар абскрабі гады ў рады,
Чупрыну паднядзель,
А лазня траціцца, тады
І чыстае надзень.

На снезе, выпіўшы глыток,
Шапталі ў рукаво:
«Я запрашу цябе, браток,
У дом, у цёплы, ў свой».
І выплываў паўзверх франтоў,
Нібыта ў дымны створ,
Шчаслівы дом, дзе ёсць святло,
Дзе з крана б'е вада,
Дзе для бяседы за сталом
Нічога не шкада.
І чарку ўзяць, і песню ўзняць
Па дружбе не наўда.

Ды дзе ж тых мараў дружбакі?
Іх не сабраць ніяк:
Хто пад зямлёй, хто без рукі,
Хто скача на кіях.
А сам я — ў хатцы ля ракі,
Хоць і была свая.

Туды ў завеі снегавой
Спяшаўся нацямку,
З дарогі бег у першы мой

Пасляваенны кут:
Хацеў пабачыцца з раднёй,
А трапіў к сваяку.

Вада была ў нас за квартал,
Мароз трашчаў са шпар,
Дый грубку зляпаў так партач —
Палю, а з рота — пар.
І не пазнаць было ката —
Ён пры сабаку спаў.

Але свяціўся ўжо кіёск,
Агеньчык ледзь жывы,
Праз гурмы даставаў кіёк
Да шыльцаў муравы.
Бяру цывільны свой паёк,—
Лягчэй за франтавы!

Мы жыць збіраліся яшчэ,
І скрозь былі відны,
На сэрца жаль, на сум вачэй
Тырчалі каміны,
А ўжо грaзіў вайны ашчэр,
Халоднае вайны.

І той віхор, як напамін,
Мяне асцерагаў:
Гатовы сотні розных мін
Сарвацца з ланцуга,
Глядзі, шырэй сябруй з людзьмі,
Мацуйся як мага.

Тады, за слабенькім чайком,
За бедным абрусом
Сядзеў я з новым дружбаком,
Нібы даўно знаём:
Салдацкай дружбы вечны дом
Нас абдараў цяплом.

Зазваны ў госці да сяброў,
З кім зруб адзін рублю,
Буджу ўспаміны, зноў і зноў
На іх сябе лаўлю:
А так, як некалі зайшоў,
Цяпер я ці зраблю?

Калі няма ў акне агню
І на замку ўваход,
Ці будзе там шукаць радню
Азглелы пешаход?
Як хто,— а я душу спыню
І клікну там-той год.

Мне добра думаць уначы,
Дадому ідучы,
Што ў кішані ў мяне, лічы,
Да ўсіх дзвярэй ключы,
І мноства знойдзецца прычын,
Каб скварак напячы.

Равуць натоўпы снежных зім,
Завеі кураць дым,
А дом, адкрыты для гасцін,
На шчасце не адзін,
І хлеба-солі стане ўсім
У горадзе маім.

*22.XII.77*

## ЛЕГЕНДА ПРА МУЗЫКУ

Ходзіць казка лёгкім крокам,
Так даўно, што не відно
Ані вокан, ні вытокаў,
Дзе снавалася радно.

Не сягоння, за прыгонам
Падрастаў той сірата.
Цяжка жыў, бацькоў ягоных
Бог дачасна забрытаў.

У сявеньку клаў сякеру,
І жытцо ў яго расло
Таўшчынёю па асверу,
Хоць бяры сячы сцябло.

У ахвоту шыў ён боты,
Мог удала падагнаць:
Ні хлюпоты, ні слізготы
Не баялася нага.

Глянеш: малец-падшывалец,
А на скрыпку і на спеў,
Каб сагнаць з душы закалец,
Ён сапраўдны талент меў.

Мог іграць, прыйшоўшы ў госці,
Ад відна і да цямна,
На каго быў хтосьці ў злосці,—
Адпускалася яна.

У прыпары на папары
Ён папасвае каня:
Мары ўзносяцца пад хмары —
Глыбіня, высачыня!

Кожны колас мае голас,
А спяваюць, хоць танцуй!
Вус пры вусе і няўпролаз
Ні касцу тут, ні жанцу.

Неяк рана на Івана
Выбег першы ў дзень прамень,
Быў прысланы хлоп ад пана,
Ён дудзеў, як авадзень.

У маёнтак зазывае,
Там якраз ідзе папас,
А хлапчына спакмячае:
«Амбарас, ды не для нас!
Каб камення стала меней,
Дзе я сошкай калупаў,
Мо прыйшло б насенне ў сені...
Не! Падман рыхтуе пан».

Стаў у хатцы прыбірацца...
Не пайдзі, дык павядуць,
Было б хвацка, каб на працу,
Ды хутчэй што на бяду.

Пры парадзе ў панскім садзе
Раскашуецца банкет.
— Ну, хадзі бліжэй, пазаддзе!
Грай, каб чуў увесь павет.—

Пан таўсматы чарку ўсватаў,
Выпіў,— злосць на ліхвяра:
— А якое ў пана свята,
Трэба ж знаць, каб заіграць.

Мо дзіцёнак-прывядзёнак!
Не квась, пане, малачка:
Пэўна, выгарне з пялёнак
Байстручка твая дачка...

— Даць у косці ягамосцю! —
Пан міргае гайдукам,
Але тыя штосьці ў млосці,—
Бізуна не рве рука.

А як схопяць, будзе пропадзь!
Хоць яны, як бараны,
Сілы хопіць, горш праштропяць,
Чым зубамі з бараны.

Ён — скрыпулю з-пад кашулі!
І смыком калі павёў,
Гулі панскія паснулі,
А ўсіх пчол з вуллёў павёў.

Вызваў ён са стайні коней,
Што служылі пад сядло,
Хвоі — з лесу, жыта з гоняў,—
Што было — усё сышло.

Скрозь наўкола ў панства гола,
Нібы ў дом ударыў гром.
Падкасіў хлапчына кволы
Панскі род сваёй ігрой.

Ён другіх музыкаў клікаў,
Дзецюкоў збіраў з такоў,
І па ўсёй зямлі вялікай
Разлягаўся кліч смыкоў.

І сялянам не пагана
Пры музыкавай ігры:
Мужыкі жылі без пана,
Можа, дзень, а можа, тры.

Кожны воляй абагрэты,—
Ці рабі, ці не рабі:
Хочаш, панскі жні палетак,
Вепра бі, гай церабі.

Рэха музыку насіла
У прасторы без граніц,
Радакоў паіла сілай,
Чужаніц складала ніц.

Толькі мала панства спала,
Слаба моцы меў хлапец,—
Падупаў, рука апала,
І прыйшоў ігры канец.

Плач, народзе, волі годзе!
Зноў гарапнік засвістаў.
Пан пахолкаў б'е па мордзе:
— Дзе той грайка, свалата!

Стаў юнак у адранцвенні:
«Граў як лепш, а людзям горш...
І гібенняў тых не меней,
А што — боль, дык многа больш.
Тут мяне на ветры спетраць,
Пусцяць пылам на аблонь...»

У далонь схапіў паветра,
Сціснуў, дзьмухнуў —
выйшаў конь!

Не чакаўшы, што, як будзе,
На сядзельца сеў і знік.
Ставяць людзі крыж на грудзе:
— Не іначай, чараўнік! —

І пытацца ўсе абвыклі
Год пры годзе, дзень пры дні:
Ці не бачыў хто музыкі
Са смыком і на кані?

Пра дзівосныя прыгоды
Чуў, як быў я малады.
Абы сыдуцца, заўсёды
Перасварацца дзяды.

— Ён пайшоў зялёны з вёскі,—
Гэтак дзед казаў Васіль,—
А вярнуўся Каліноўскім,
Кастусём...

— Ды не хлусі!
Зваць хлапца таго Сямёнам,—
Запярэчыў дзед Панкрат,—
А вярнуўся ён Будзённым,
Мы пазналі акурат.

Праўда, я кажу не смехам,
Знае ўся мая раўня:
Ён тады на Польшчу ехаў
І каваў у нас каня.

— Што ён, дзеду, мусіць, вечны? —
Галавой стары кіўнуў:
— Не скажу, што ён канечне,
Можа, сын яго ці ўнук.

...Ходзіць казка блізка вокан,
Зноў снуе сваё радно,
Ані крокаў, ні вытокаў
Не відно і не чутно.

*15.XII.77*

## МАНАЛОГ

Адвольны працяг паэмы Аркадзя Куляшова ў памяць сяброў-паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенкі

1

З надвечара, з надростані дарог
Дазволь мне працягнуць твой маналог,
Дзе ў плачы па сябрах, праз болю метастазы,
Чуў на твае пытанні іх адказы.

Якое ж права мае хто другі
Пульс вершаў аднаўляць?
Ну, як якое права?
А даплаціць нясплатныя даўгі,
Дапраявіць нябачныя праявы?

Я да сваіх правоў дадаць хачу,
Што ў шэрагу названае кагорты —
Хай будзе ўсё вядома чытачу,—
Было не трое, быў-такі чацвёрты.

Дыхнуў і ён рамантыкі сівой,—
Сяброў перасягаў на мала ўзростам
І падзяляў у шмат чым іх настрой,
Ды трэба ж так! —
Усіх правёў у ростань...

2

Усіх траіх ужо няма на свеце,
А я гляджу і бачу ўсіх траіх:
Ідуць яны, ускраінная квецень
Цярусіцца ў садочках веснавых.

Здружыўшыся яшчэ на школьнай лаўцы
У Амсціслáве, горадзе былін,
Яны ў сталіцу разам прыбылі
І прынялі мянушку — амсціслáўцы.

Не помню зараз хто, востраязыкі,
Падкрэсліў повязь, хочучы пакпіць:

Магчыма, Нікановіч ды ў Хадыкі[1]
Было прыдумак розных не купіць.

І я тады, згадаем да выпадку,
За клопат з маладзейшымі трыма
Мянушку неўзабаве атрымаў
І змушаны падаць яе адгадку.

Калі на вечарынах або ў свята
На людзях мы хадзілі ўчатырох,
Услед казалі: «Амсціслáўскі тата
Пястунчыкаў выводзіць у гарох».

Так пачалі падсмейвацца, пытацца:
«А дзе ваш «тата»? «Дзе твае «сыны»?
Я сам да іх і да мяне яны
Звярталіся, паўжартам, «па-своянку».

І гэта нават стала падабацца:
У дваццаць год ды велічаюць бацькам!

3

У бэзавым двары, за пераездам,
Дзе з крытыкам я жыў акно ў акно,
Гасцілі амсцісла́ўцы. Колькі ўлезла,
Чынілі спрэчкі, спалі за спіной.
Ды хто зважае, цесна там ці мулка,
Калі не маеш лепшага прытулку.

Затое вершаў чы́тана — трымайся!
І заўтра збыць іх, на прахарч душы,
Спяшаліся камечаныя майкі
І першыя ў жыцці капелюшы.

Не толькі ў іх:
Адзіны ў Мінску рэктар
Меў капялюш, меў модны педагог,
Насіў Купала, ускладаў Зарэцкі[2],
Але пра іх асобны маналог.

---

[1] Мікола Нікановіч, Уладзімір Хадыка маладыя ў той час пісьменнікі.

[2] Міхась Зарэцкі — вядомы празаік.

Дык з раніцы ішлі на раздабыткі,
Не снедаўшы — не дбалі пра запас!
Ды звычай існаваў тады нябрыдкі:
Прыняўшы верш, выпісвалі аванс.

А калі так — няхай жыве, хто выдаў!
Ізноў святочна памалёван свет:
Уподбега ў сталоўку інвалідаў —
На снеданне, вячэру і абед.

Смакуючы ўсе стравы ва ўяўленні,
Падмёўшы хлеб, пакуль меню дадуць,
Кілішак выключалі, як брыду,
Не без аглядкі, праўда, на кішэні.

Стол та́к быў міл, без чаркі традыцыйнай,
Што многім сонца засціла пасля,
Сябры пілі гарэлку, як рыцыну,
Няўсмак, дзеля дарослацці, маўляў.

Змарыўшыся, прыстаўшы меркаваць,
Што заказаць, каб страў не менш за пяць,
Змітрок, нарэшце, вырашаў: «Бясспрэчна,
Спыніцца давядзецца на яечні».

4

Хутчэй у ноч, на звонніцу-нястомніцу,
Накідаць мары, хоць на чарнавік,
Пакуль трамваем вуліца пазвоніцца
І прынясе газету паштавік.

Які быў друк? Тры тоўстыя часопісы,
Танчэйшых, з літкуткамі, два ці тры,
Дадаткі да газет...
Каб не хацеў, захопішся:
Пішы, перакладай, будзь сэрцам на пяры.

Магчыма, я здалёку перабольшваю,
Перасвятляю постаці, аднак
Пераўзбуйніць даробак іх — не горшае,
Таго ж даробку — кніжыца адна!

Адна, адна... Ці па адной на кожнага!
А колькі б атрымалася тамоў,

Каб разгарнуць Калюгу і Дарожнага[1],
Не вырасшых таксама з юнакоў.

І вось як ні дзялі таго, што зроблена
Усімі намі, на адсутных тых,—
Гісторыя не ўгнута і не згорблена
Пад ношкаю, што будучы ў жывых
Пакінулі б...

А ці былі б вы шчасныя
У сівым веку, з лысінай і без?
Былі і ёсць вы неад'емнай часткаю
Таго, што думаў, з чым дружэў і чэз.

Ці ўмеў сказаць? Уголас гаварыў усё,
Трымаў радзіме слова напашэў.
І ведаю, што б з вамі ні тварылася,
Не збіліся б на недастойны шэпт.

Але са шчылін лезлі завадатары,—
Ну хоць ты дэзінфекцыю пакліч! —
Любы радок перакруціць аматары,
Нам і «сваяцтвам», ох як дапяклі.

Праз ласку гэтай крытыкі і цкованкі
Непаўнамоцны «бацька» і «сыны»
У стрыгунах ужо былі падкованы,
Хадзілі ў вінаватых без віны.

5

Аркадзь рабіў над Свіслаччу размін,
Змітрок і я пайшлі на бераг Кіі,
А Юлі быў заўлітам на Тамі —
Ці на Туры — заняткі неблагія.

Крыху пазней сустрэліся ў Маскве,—
Сюды выпадкам з'ехалася трое.
Ружовым цветам цвіў арбацкі сквер,
А з захаду пацягвала вайною.

---

[1] Лукаш Калюга, Сяргей Дарожны — маладыя пісьменнікі.

Сябры, як бы нічога не было,
Пісалі, меркавалі пра вучобу,
Чаўны іх па рэдакцыях нясло,
І быў той самы беспрытульны побыт.

Ды гэта не чыніла перашкод!
Дзён дзесяць пагартаўшы томік шэры,
Адзін з іх, як сапраўдны паліглот,
Пачытваць стаў мне Дантэ Аліг'еры.

А я сядзеў на гранках, не пісаў,
Было ранейшых вершаў аж задосыць.
Шчымела мне, як на душы пісяг,
Што болей зерня даць магло калоссе.

Якраз жнівамі ліпень палавеў.
Ах, як бы добра ў жыта дзе пад Мінскам!
Ды ў шумным парку граўся паланез...
«Давайце пагаворым аб Стравінскім», —

Быў сказ, як забарончы ўзмах рукі, —
Цераз настрой не прабівацца ўпролам.
Так ход размоў змянялі юнакі,
Цікавасць адбіваючы назолам.

Круціўся там, ну, ён, відаць, не ў лік, —
Хаваўся ў цень дый так быў не прыкмечан,
Наконт пісання — вельмі невялік,
Наконт душы — нябуйны чалавечак.

Так, сапраўды: з ваеннае пары,
Калі стаў надзяваць чужую збрую,
Ён выйшаў за мяжой у дактары
І з поспехам у друку дактаруе.

Як прылажыць на чалавечы лёс,
Што — дробязь ці буйное, важыць болей?
Чакай хутчэй ад дробнага пагроз,
Яно кусае, поўзаючы доле.

А гром грымеў, дарогі мёў віхор,
Лес мачтавы рыпеў, згінаўся ў стане.
І наўздагон, як быстраногі хорт,
Ужо ляцела новае расстанне.

6

Я ўсё пытаюся:
Няўжо з Аркадзем
Хаця б за шклянкай чаю не прысядзем?

Няўжо вяду ягоны маналог
У памяць страты горкіх маладзёнаў,
Як той, каму зімой зглумілі стог,
А сена ж для вясны было шчаджона?

Не думаў я, што пры тваёй труне
Прыйду стаяць і тоненька заплачу!..
І будзе сінь світаць, і будзе рунь рунець,
Перарастаць удачу і няўдачу.

Калі б нам ведаць, дзе дарогі крыж,
А з ім ператварэнне у бязмежжа?
...Апошні раз вясной дыхнуў Нясвіж,
Адкуль вазіў ты сок бяроз прывежных.

З табой за парк хадзілі, па аер,
Шукаючы карэньчыкаў салодкіх.
Вясна цяпло давала напавер
І не пускала з жытняе паводкі.

Дый мы адтуль не рваліся...
Хутчэй
Рабілі выгляд, верыцца нібыта,
Што сэрцы ў нас пагояцца ямчэй,
Надыхаўшыся ўсмак красою жыта.

7

Як зараз нашы повязі назваць?
Пра гэта лепей скажа іншы хтосьці.
Мацней за ўсё зблізкалі нас, відаць,
Галіны тыя, з саду маладосці,
Што, як сказаў ты, ссечаны былі
І без пары зляцелі ў пустазелле.

Балела доўга, але на камлі
Другія парасткі зазелянелі.

Іх стала большаць. Шчырасцю ў вачах
Усцешыўшы, будзілі боль прыгадак...
І повязь наша — ў самы цёплы час! —
Тым, самым першым, патыхала садам.

Ён зноў над намі лісцем зашаптаў
Яшчэ ў вайну...
Пад тэлеграфнай люстрай
Мне прыкурыць даў нейкі капітан
І з «Калі ласка!» — кінуўся насустрач.

— Аркадзь?
— Ты з фронту?
— Так, а больш адкуль?
...Як бы не расставаліся ніколі,
Ідзём, вясёлыя, ратуе лёс ад куль,
Шляхі дамоў заднеліся паволі.

Двух землякоў прывеціла Масква.
Я «на паэму» тут жа быў зазваны
І хутка за героем вандраваў,
Ад роднае галінкі адарваным.

8

Сяброўства — быццам вымавіць пара...
А як і дзе найлепей прыступіцца?
Каб сябраваць, ад сябра мусіш браць,
Аднак жа і самому не скупіцца.

Вядома, ў нас быць не магло сцяжын,
Размераных пароўну ў падарожжы.
Вось абяліў ён вершык мой адзін,
Які быў закрануў неасцярожна.
А прызнавацца ўголас да памылак
Не больш прыемна, чым глынуць абмылак.

Інакш не змог, рабіў як найшчадрэй:
Адкінуў і падняў, зноў выправіў у вырай.
Дый без таго не прымыкаў дзвярэй,
Чакаў яго мой дом з душою шчырай.

Прыходзіў ён, нёс думкі позірк востры,
І ў крылле часу веяла сяброўства.

9

Усё — з «Апошняй кнігі» вершаў, ад
Зязюлі, што ў радку закукавала,
Што б ні намыў натхнення вадаспад,
Перад усім на вочы мне трапляла.

Парады часта адмаўляў суздром,
Ці, перабраўшы варыянтаў сотні,—
Нязначны рух пяром: і сонца ў дом,
І ў верш прамень закідвала залётны.

Злічыўшы ўвогуле, гады са два
Марнелі над паперай невылазна.
Загучна гэта творчасцю назваць,
Але рабіць — папараблялі разам.

Па трое сутак запар — калатня
За эпізод, які пасля ў сцэнарый
Не ўвойдзе ці яго не зможа зняць
Хтось, разумовы люмпен-пралетарый.

Ды тут бы налажыўся і мядзведзь,
Як дугі гнуць з душэўнаю аддачай:
Спачатку свет сабою абагрэць,
Каб выкладацца спрэс і без астачы.

Казаў аднойчы, каб адужаць млосць —
Адзін артыкул не хацеў пісацца:
«Бунт розуму, а калі розум ёсць,
Тады нашто без толку бунтавацца!»

Рабіў усё, хоць думаў больш пра верш,
Хоць быў сябрамі дзень напакаваны,
А як пазнаеш, дзе тут разбярэш,
Хто з іх сапраўдны, хто — ўсяго так званы.

І ён пра космас казкі выдумляў,
Злаваў, што я знарок не разумею.
Не навучыў у шахматы гуляць,
А прыахвоціў трохі да хакею.

Прыехаўшы з чужыны караблём,
Ён гаварыў:

— І дзіўна, і не дзіўна:
Калі мне ўспаміналася радзіма,
Я бачыў вас і ваш зычлівы дом.

10

Адкуль было чакаць, што прыйдуць дні
І перашэпча нешта цётцы цётка...
Высмейваў ён, расказваючы, плёткі.
Пасля паехаў. Стаў радзей званіць.

Але прыйшоў аднойчы, без званка —
З «Хамуціусам»[1]:
— Пачытай, дарэчы...
Я любаваўся ёмкасцю радка,
А ён курыў, нібы засмучан нечым.

Ужо згары глядзеў на свой узлёт,
Узніклі сумнявання адгалоскі:
У творы не названы быў народ,
Які ўздымаў на бітву Каліноўскі.

Бо аўтар, поўны горкаю парой,
Безмеры горды краем і героем.
Лічыў: само ўжо вывела пяро —
Імя людзей і полымя настрою.

І класік так: зарад свае душы
Паслаўшы ў Лабановіча навылет,
Настаўніка з палескае глушы
Забыўся апісаць знадворны выгляд.

Знайшлося выйсце! Ён павесялеў,
Даваў сабе за дробязі праборку.
Гаворка ў быт пабегла пры стале,
На жаль, ужо апошняя гаворка.

Я б не сказаў, што сцежкі развялі,
А проста не прыйшло патрэбнай хвалі.
У доме поруч, як і ўсе, жылі,
Як жыхары, што вершаў не складалі.

---

[1] Назва апошняй паэмы А. Куляшова.

11

Успомнім нарачанскія бары:
Вядуць рыжкі пад хвойныя скляпенні.
Ты не таіўся, часта гаварыў
Пра захапленні, больш пра засмучэнні.

Ці шмат было іх? Не сказаць каб шмат,
Але ці многа трэба для звышчулых!
Ужо хінула сэрца на прагулы,
Усё вастрэй юнацкі рупіў сад.

Здавалася, куды ні ступіць крок,
Па-над душой, нібыта з пашч гарматных,
Біў пошчак то паблізу, то здалёк:
«Хто вінаваты, хто тут вінаваты?»

Як ні пісаўся мудра «Маналог»,
Пра скон сяброў паўней сказаць не мог,
І не адказваў камень з іхніх спратаў:
Дзе вінаваты, дзе той вінаваты?

На іх благога слова не скажу
І на людзей таксама не ківаю:
Не дадзена стаць куляю пыжу
І з высевак спячыся караваю,—
На болю іншых хто б сябе ні ўзнёс,
Як ні забіла б збажыну палова,
Нібыта ў люстры, ўсё пакажа лёс,
Адвее час усё — абавязкова.

І як ты ні дапытвайся дарма,
Калі не завязаўся струп на ране,
Адказам на дачаснае дазнанне
Уздых сяброў з-пад жвіру:
«Нас няма...
А быць маглі б, свяціць маглі б, калі б...»

Ні гуку больш з нябожчыцкіх сяліб...

Бяруць сцяну ў жалезныя ніты,
Каб папярэдзіць дом ад ранняй страты.
А іх няма, ад іх не ўчуеш ты,
Хто вінаваты. Ты невінаваты.

12

Нясвіж, прадвесня.
Дзесь аер-трава
Шамрыць на схілах, шастае ў развілах
Паміж азёр...
Ён крок ступіў на вал,
Ступіць яшчэ раз не хапіла сілы.

Няўжо грыміць? То рвецца небасхіл,
То сцягваецца швом бліскучай зваркі.
Растуць, асветлены, абрысы дзвюх магіл,
І ўміг знікаюць, недарэчна шпарка.

Няма сяброў.
А быць маглі б, калі б...
Як змеркся дзень...
Як збіўся спеў на ўсхліп!

Сцяна... Яе ў жалезныя ніты
Бяруць, ратуюць дом ад ранняй страты.
Ён праўду веку вырве з цемнаты:
Хай вінаваты — будзе вінаваты!

Цяпер бы мог сказаць і паказаць,
Ды без патрэбы гэта, зразумела.
Плыве, нібы з чужых вачэй, сляза,
А колеры — ліловы, сіні, белы.

Хутчэй ісці, не ціснe ў крок вага.
— Хмурынка! Дзе на Магілёў дарога?
Як павярнуць? Ага, за гэты гай!
...Праз момант ён не чуў ужо нічога.

Прыспешвае хаду імклівы час.
Не тут, дык там і я, вядома, злягу.
Я не сваёй ахвотаю пачаў,—
Не можа маналог застацца без працягу.

Няспынны ён, ідзе ў імя жыцця
Вялікага, не для балеснай скрухі.
Я маю пэўнасць, што яго працяг
Падымуць зноўку маладыя рукі.

*Май, 1978*

# КАМУНІСТЫ ДВАЦЦАТЫХ

*(З біяграфіі рэспублікі)*

## ЛІСТАПАД, 1918

Рудабельская валасць.
Ноччу створан рэўком.
На сцягу серп і молат
Гоняць сон з-за акон.

Што перш-наперш пачата?
Ультыматум пайшоў,
Каб нямецкім салдатам
Падавацца дамоў.

А што ў земскай управе
Акапаўся эсэр,
Дык — ці левы, ці правы —
Вымятайся цяпер.

Старшынёю рэўкома
Стаў Алесь Салавей,
Ён з Максімам Ляўковым
Падымае людзей.

Спешна пішуць адозвы:
— Слухай, вольны народ! —
Коннік вёскам павёз іх
Ад варот да варот.

Што ж за волю, за долю
Абяцае рэўком?

Вёрст за сорак і болей,
Хто канём,
хто з кійком
Рушаць людзі, —
на веру
Не клююць мужыкі.

Воласць.
Стукнулі ў дзверы
І назад — хадакі.

Аж глядзяць: незамкнута,
Хоць і рана яшчэ.
— Ну, абтрэсвайце футры,
Нешта неба цячэ.

Праўда, змоклі да ніткі,
Світкі сталі калом,
А заходзяць, хоць брыдка
Гразь наносіць у дом.

Дыму шызыя хвалі
Паплылі ў збаравой,
Як сяляне празвалі
Самы большы пакой.

Тут падбіты, падпіты
Сход старшынь выбіраў,
Лысы пісар вычытваў,
Што вайну бог паслаў.

Ні багоў, ні партрэтаў
Больш няма, на сцяне
Разапята газета,
Дзе віселі раней.

Што ж за ўлада настала,
Што хаця за яны?
Можа, зноў генералы
Ці якія паны?

Гэта ўсім абыходзіць,
Загулі талакой...
А з бакоўкі выходзяць
Салавей і Ляўкоў.

Нехта спераду глянуў,
Ледзь пазнаў цераз дым:
— Гляньце: Санька Раманаў
І Архіпаў Максім.

— Стой, якога Архіпа?
— Ды таго ж, з Кавалёў...
— І Раманаў? А хіба
Ён з пазіцый прыйшоў.—

Быццам рыба на мелях
Або ў твані густой,
На хвіліну нямее
Неспакойны натоўп.

Дзе ж за ўсё ім адказваць,—
Замалыя гады!
Нежанатыя, блазны,
Нават без барады.

Цётка Гапка не рада,
Кісла ў жменю пяе:
— Мы-то думалі — ўлада.
Адно ж хлопцы свае.

— От і добра, што хлопцы,
Любата, што свае!
Можна ўзяць па чаропцы,
Пасядзець пры стале,—
Кажа дзядзька з бяднейшых,
Смыкануўшы рукаў: —
Нам пры ўладзе ляпейшы,
Хто касой памахаў.

Што яму дазнавацца?
Без лучыны відзён
Род наш востра бядняцкі
І чаму ён жадзён.

Праказаў. У падтрымку
Галасы адылі,
Нібы ў свята, на рынку,
Завялі, ажылі.

Ды згаджаюцца ладам:
— Калі ёсць вы рэўком,
Вас, хлапчынкі, за ўладу
Покуль што прызнаём.

А далей — будзем бачыць,
Ці даверым пасля.
Мы ж дасюль у нястачы —
Нам не свеціць зямля! —

Заіскрылі махрою,
Нібы жорны куюць:
— Не дражніце зямлёю,
Замацуйце зямлю!

Салавей самакруткай
Водзіць словам услед:
— Замацуем, і хутка,—
Маем добры дэкрэт.

Як размераць, я ўмею,
Паспрабуй адстаяць!
Вось адстоіш, абсееш,
Тады будзе — твая!

Сціхлі ўсе. Недакурак
Не спускаюць з губы:
Як загон той ускураць,
Каб не дзерці чубы?

І маўчыць Рудабелка,
Сэрцы б'юць у званы.
Пераходзіць пабелка
На спіну са сцяны.

І сядзяць на падлозе,
Падпіраюць вушак...

Шмат пытаецца позірк,
І ўжо чуе душа,
Як дыктуе загадна
Чысціць край ад гірсы
Іх народная ўлада,
Хлопцы ў два галасы:

— Дзядзька Хведар з Іванам!
Недзе ў вас пад гумном
Пара стрэльбаў схавана,—
Аддалі б у рэўком.

Мы тут не на праходцы,
Вораг рве павады,
Дык і самі прыходзьце,
Калі клікнем сюды.

Вось падхвацімся ўранні,
Землі спрэс адбяром.
Паўладаў, пане Ўрангель,
Досыць, чорны барон!

### СТУДЗЕНЬ, 1919

Шлях выкоўваць з маланкі
Будзе скліканы з'езд
Свой, рабоча-сялянскі,
Прагрымеў маніфест.

Залунаў гаманою
У душы землякоў:
Беднаты гарадское,
Селавых бедакоў.

Чуў настаўнік з Дукоры
І гарбар з Капыля:
Крокі першыя з гора
Вырывае зямля.

Край спрадвеку працоўны,
Песнялюб, гаспадар,
Стане роўны між роўных,
Сам сабе уладар.

Дзеля гэтакай справы
Стрэльбы ўсе пабяруць,
І ўжо вольнай дзяржавай
Будзе жыць Беларусь.

### САКАВІК, 1919

Голад, холад і рэзрух...
Брак жалеза ў крыві,
Кроў цуркоча з жалеза,
У крыві краявід.

Ад ускрайку да ўскрайку
Ціхі Слуцак гарыць,
І спаўзаюцца шайкі
Гадаўя ў Мазыры.

Зноў жа, гад недабіты
Змову ў Гомелі звіў.
Стрэхі ў вёсцы раскрыты,
Плач у горадзе, сквіл.

...Пляжаць хвойкі і жыта
На размол, на распіл.

Пазляталася заедзь
З-пад лазы-дзеразы,
Паднаўляюць і драяць
Дзён былых абразы.

Навіваюць на колы
Зграі скарб суравы
Ад сівое іконы
Да свіное дзятвы.

...Аніхто анікому
Так не чысціў хлявы.

Дзе ні стань, усё вузка,
Дзе ні кінь, усё клін.
І пачаў беларускі
Гнаць гасцей селянін.

Будзе панству пахмелка
Ды каленам пад скат.
Падняла Рудабелка
Партызанскі атрад.

Надзвычайная тройка
Абарону вядзе.
Аблавушкі — з апойку,
Дзень і ноч у хадзе.
Сну няма перад бойкай,
А жывуць — аб вадзе!

Аб скарынцы нішчымнай,
Што не ўрэжа лямеш:

І ўкусіць немагчыма,
І глынуць не глынеш.

Сакавіцкія крупкі
Падсявае вясна.
Позна.
Сядзь каля грубкі
Ды разваж давідна...

Як трымаць абарону,
З чым ты выйдзеш на брук?
Колькі соцень патронаў
Ім падкінуў Бабруйск.

Ні байцом, ні вінтоўкай
Не памог,— больш не мог.
Як з такою гатоўкай
Бараніць свой парог?

Пэўна ж, будзе палёгка,
Панства гнаць за мяжу!
А тым часам у змроку
Дастаўаўся здалёку
Спорным крокам кажух.

Той кажушак на дзядзьку,
Хоць і немаладым,
Быў расхрыстан...
                    Не ўгнацца
Маладому за ім.

Да рэўкома прастуе,
Выцер ногі ў кутку.
Паціскае руку ён
Партызан важаку.

З-пад кашулі нядзельнай
Цягне нейкі пачок,
У анучцы вузельчык,
Наўкруга — матузок.

Вызваляе з абвязкі,
Быццам срэбраны ён,
Чуць вільготны ад змазкі
Да вінтоўкі патрон.

— Во-о! — падміргвае вейкай.
— Дзякуй,— кажа Ляўкоў,—
Толькі б лепш трохлінейку
Ды са спраўным штыком.—

Хто з рэўкомаўцаў гляне,
Кашляне:
— І ўсяго?
— А магчыма, не стане
Вам якраз аднаго? —

Дзядзька ў рукі падзьмухаў,
Скубянуў бараду:
— Хлопча, дай сюды вуха,
Накручу, не крыўдуй.

Што ты крывішся,— кажа,—
Як на конскі масол?
Ты лічы, што я важны,
Паўнамоцны пасол.

Падарунак мой бедны?
Больш не маю, шкада.
А прымай адпаведна,
Бо за мной — грамада.

А яна ж, трохлінейка,
Не цаляе сама,
Хто не выб'е капейкі,
Таму кулі дарма.

Трэба добрыя рукі
І каб вока ты меў,
Каб з вайсковай навукай
Солі торбачку з'еў.—

Распагоднеў вачыма
Партызанскі важак:
— Дзядзька! Ну, малайчына!
Куды вывеў няўзнак...

— Калі нельга па мосце,
Папаўзеш па смале,—
І пасол паўнамоцны —
Рукі ў бок, пасмялеў:

— Як зямельцы ні ўтратна,
Мусіш бойку цягнуць:
Стрэл бывае астатні,
Ён канчае вайну.

Дык патрончык вось гэты —
Не глядзі, што адзін! —
Для гарачае мэты
Прыхавай, ашчадзі.

Каб савецкую ўладу
На вякі ўсталяваць,
Можа ў цяжкіх завадах
Аднаго і не стаць.

Вось тады ім і стрэльні,
І ўсім звадам канец...
Толькі трэба, каб вельмі
Быў упраўны стралец.—

Кінуў зірк на Ляўкова:
— Не рабі абы-як,
Хай страляе талковы,
А як не — буду я.

## ПАД КРЫЛОМ ПЕРАМОГІ

Так, ці мала, ці многа
Ран зямля прыняла,
А прыйшла дапамога,
Перамога прыйшла.

Як ні бралі ў прыстрэлку
Зыркіх лёсаў віхры,
Не маглі Рудабелку
Ні схіліць, ні скарыць.

Калі полымя хвалі
Падступалі пад дом,
У бары працавалі
Выканком і райком.

Праз навалы і войны
На капцах межавых

Сцяг устояў чырвоны,—
Быў пры ім бальшавік.

Падымаецца крылле
Маладых галасоў
На зямлі, што дзялілі
Салавей і Ляўкоў;

На зямлі, што зраслася
У кавалак адзін
І страчае ў калгасе
Дні турбот і гасцін;

На зямлі ўсёй Радзімы
Аж па той далягляд,
Куды ў марах ішлі мы
Ад бацькоўскіх прысад,—

Стаў адзнакай народнай
Вечны колер жыцця
І штандар наш, нязводны,
Абдымае прасцяг,

Дзе агністыя ружы
Пад разводдзем аблок
І агністыя душы
У сыноў і дачок.

**ПАДЗЯКА**

Вока ўдалеч вандруе,
Да крыніц дападзе,
І ты поруч адчуеш
Тых далёкіх людзей.

Іх і мала і безліч
Камуністаў такіх,
Як казалі, жалезных,
Лепш сказаць — залатых.

Уставалі — не днела,
Не збіралася днець.
У руках іх запела
Волі звонкая медзь.

Супраць ветру сумленне
Неслі чыста наўздзіў,
Крок настальваў ім Ленін,
З імі ў мары гасціў.

Ад краіны дамоклаў
Адхіляючы меч,
Прымяралі, як вокны
Лепш у зрубе прасеч.

Каб і ўранку не цёмна,
Каб і ўвечар відно
І нашчадкам патомным
Паслужыла акно.

Бачу — шлях праз маланкі.
Чую — першы партз'езд.
Вось, рабоча-сялянскі.
Наш грыміць маніфест.

Што расло гаманою
У душы землякоў —
Запісаў Жылуновіч,
Змацаваў Чарвякоў.

Вы ж выводзілі ўгору,
Памаглі ёй сталець,
Зазірніце ў Дукору,
Светлы дзядзька Алесь.

Не ў заштатны і пыльны,
А ў жывы гарадок,
Зазірніце ў Капыль вы,
Мілы дзядзька Змітрок.

Ідучы вашым следам,
Я другіх не забыў,
Проста меней іх ведаў,
Меней поблізу быў.

Іх не злічыш, іх безліч
Камуністаў такіх:
Па учынках — жалезных,
Па душы — залатых.

Як былі мы ў салдатах,
І вы рушылі ў бой,
Камуністы дваццатых,
Падгартоўвалі строй.

Перад вамі, над вамі
Вецце свежае дзён,
Наша вечная памяць,
Сэрца нізкі паклон.

*1978*

## ЦАНА МУЖНАСЦІ

Пад елкамі, пад бярозамі
Памяць у кургане...

Мужнасць бывае розная,
Але ў адной цане.

1

Вырасшы па-над шыбельняй,
Смерць абагнаў з павек:
Хлопцы ў лясах не схібілі,—
Слухай, народ жыве!

А ўнізе —
вочы Марысіны...
Бывай, галубка, бывай!
Вырак панам — няпісаны,
Косы трымай, мой край!

Плошча моўчкі гукнула
За Кастусём Каліноўскім,
Аж пушча трашчыць ад гулу
Тае нямой пагалоскі.

2

Склянкі рукой матроскаю
З палубы змылі страх.
Хіліцца ў хвалі моркія,
Рушыць на дно «Вараг».

Спявалі... А песню скончылі —
Ні цурачкі на вадзе...
Японачкі вы, япончыкі,
Дзетухны мае дзе?

Маці клікнулі чаек,—
Плачце над сіняй хваляй!
Як белы свет памятае,
Нікога так не хавалі.

3

Твары з бяссоння жоўтыя,
Вочы замгляе млосць.
Пілуюць дзядзькі нажоўкаю —
І без наркозу! —
косць.

Месяц на хвойным вільчыку
Роніць слязіны з воску.
Стогны глытаюць пільшчыкі,
Каменна сядзіць Арлоўскі.

Не ўдаўся напад...
Нюхнуўшы
Чуток самагонкі злое,
Крые ў бога і ў душу,
Гада, крычыць ён, зловім.

4

Карнікаў зграя лоўчая
Паспела след асачыць.

Збітых рукой забойчаю,
Шпурляных пад цегачы,
Абуджаных і асуджаных

Скласці галовы ў твань
Вядуць...
І ранак застуджаны
Калоціць спевам:
«Паўстань!»

5

Так закладалі ў падполлі падваліны,
Гэтак спявалі і ў топках падпаленых,
Матчыны землі ратуючы з полымя,
Ставячы землі чужыя на коленкі.

Тысячы тысяч!
Грозныя, —
Свецяць і ў кургане.
За імі вялі барозны мы
Па хмарах, па цаліне:
Радасныя і ў роздуме,
У міры і на вайне.

Мужнасць бывае розная,
Але у адной цане.

*1978*

# Дзень за днём

* * *

На сонца ўсход нацэльвай зрок,
І ў дзень разнасцежыўшы дзверы,
Ступі, няхай сабе хоць крок,
А з дому ў свет, але наперад.

Тады пачне ў душы світаць,
І вырвешся за небакраі...
Навучаны перамагаць
Другой навукі не прымае.

*1979*

## ХАТКА НА ЎСКРАІНЕ ЛЕСУ

Вецер ніву пасе
На лясной паласе...
Дом па вокны ў страсе —
Пазнавай пакрысе!

Залатое святло,
Летніх золкаў жытло!
Тут маленства сплыло,
Тут юнацтва прайшло.

Аж па самы блакіт
У расе краявід,
І грыміць ад ракіт
Салаўіны сінкліт.

На жытнёвы прыбой,
Плодных долаў развой
Аддалі мы з табой,
Што было за душой.

*1979*

## З МАЛАДОЮ ПЕСНЯЙ

Рук не шчадзілі — свайму караблю
Ветразі ставіць, па золак збірацца.
Песняй і я падвясельваў зямлю,
Рэха блукала ў дубровах юнацтва.

Зноўку туды прывялі бальшакі,
Рады гаі мне, рабінаў нанеслі...
Нехта з усмешкай глядзіць з-пад рукі —
Гэта ж яна, тая самая песня,
Золак вядзе!
Не падбіў яе звод,
Ходзіць па людзях, у неба ўзнялася,
На спевакоў не скупее мой род,
Пагаласнелі, вандруючы ў часе.

Цягне чубаты дымок на зямлю,
Блішча цяпельца з дубровы юнацтва.
Хораша дыхаць! Свайму караблю
Зноў пасабляю ў дарогу збірацца.

*1979*

## ПОВЯЗЬ

Калі я думаю — краіна,
Я ўголас гавару — народ
І бачу першыя часіны
Яго жыцця, яго пуціны
У настаццё і на ўзыход.

Разважны крок, крок рызыкоўны,
Мазоль і пот на далані,
Пад цёплай поўняй колас поўны,
І раптам —
                    выбух той гвалтоўны,
Што нават сноў не даў дасніць.

З краінай, кажуць, трэба зліцца,
Ды змалку повязяў стае,
Бо ты — ёй сын, на свет з'явіцца
Ні ручаём, ні бліскавіцай,
Нічым не мог бы без яе.

Не пустабай, не без'языкі,
Да таннай славы не жадзён,
Ты не малы і не вялікі,
Але ж не надта шыты лыкам
І на зямлі крыху чуцён.

Глядзі парадку, дбай у хаце,
На касмадроме, пры таках,
Каб мець правы́ сказаць ёй:
                                                — Маці,
Рабіў усё...
                    Калі я здацен,
Дык выпраўляй на новы шлях.

*1979*

## РАВЕСНІКУ

Ты з грунтам зросся — не расхістаць,
Дарма, што чуб малады збялеў,
Што век не ў лазні цябе хвастаў
І боль яго кожны, як твой, балеў.

І час тваім вокам у свет глядзеў,
Як сажнем, табой вымяраў прастор,
Кідаў на шлях, не туды, дзе гладзей,
А скрозь, дзе слядоў не зрабіў ніхто.

Затое ў раллю, не на белы мох,
Наступнік пагоніць пшанічны клін
І ўчуе ў прысадах зямных дарог
Трывожны пошум тваіх галін.

Ён прыме ў клопат сэрца свайго
Табой няспраўджанае ў жыцці,
І не асудзіць за стус даўгоў,
А можа, паспее хоць што сплаціць.

*1979*

## ВЕК У ХАДЗЕ

Во-ох ці мне во-ох,
На балоце мох,
Хлопец па дзяўчыначцы
Се-ем гадо-оў со-ох...

*Народная песня*

Шорстка, як дзядзіна, доля нас гладзіла —
Бульба ў мундзірах, расол з агурка! —
Скінута з плечаў, пад камень пакладзена,
Не падпільнуе яна спадцішка.
Што ні было, а раблю і не кволюся,
Дай — не хачу спачываць у дабры!
З даляў абложных, з Паўночнага полюса
Клічуць на чэсць маладыя сябры.

Цэлых паўсвету у ладкі ім пляскае,
Хітра міргае ў мой бок грамада.
— І Салігорск, і дарогу Байкальскую,—
Кажуць,— той дзед (гэта я!) закладаў.
З тым і хаджу. Сама дзень распагодзіўся.
Ну, а калі панясуць за парог,
Вельмі прашу, каб не сумна праводзілі
Вось хіба з гэтаю:
«Во-ох ці мне во-ох!»

*1979*

* * *

Колькі было папаспытвана —
Хто б таго ліку дайшоў! —
Сноў маіх, матухна, блытаных,
Нудных асенніх дажджоў.

Я не сваёю ахвотаю
Жыў, дзе нягуста жылі,
Скрозь напакоўвала сотамі
Маці-эпоха вуллі.

Сажнямі, крокамі, цалямі
Згортвалі даўнюю млосць.
Помніцца, больш абяцала мне
Светлых пагод маладосць.

Чую, мая ўжо не вернецца,
Ну, але ў сына ёсць сын:
Заґрудкі з лёсам, па зернейку,
Возьмуць ужон з паласы.

Былі калішнія сходаўшы,
Чую на вуснах сваіх
Кропелькі горкае слодычы
І не абтрэсаю іх.

*1979*

# МАДОННЫ

*Аўтару карцін*
*«Партызанская мадонна»*
*і «Мадонна Біркенау»*

Са старасветчыны да нашых дзён
Майстрамі шмат пакінута мадонн,
Я — не пра ўсіх...

Даруй мне, Рафаэль,
Даруйце, Леанарда, Багдановіч,
Здабыткаў вашых словам не падновіш,—
Мой час пачаў брадзіць, шыбае ў вочы хмель.

Задумны твар мадонны партызанскай
Нам паказаў мастак...
За ёю ажылі
Мадонны ў шынялі, з угнутай каскай,
Што цягнуць раненых праз мінныя палі;
Мадонны за рулём — камбайн сярод пшаніцы,
А дзіцянё ісці не хоча з рук;
Мадонны ў цэху, там шкловалакно ільсніцца,
А грудзі знаць даюць, каб пасмактаў хлапчук...

Я мог бы шмат назваць, але нашто імёны?
Няшчасны, хто не стрэў хоць аднае мадонны.

Мадонны! Кажам мы і мацяркам сваім,
Саджаем, гордыя, іх на мастацтва лаву,
Але, перад усім і над усім,
Ёсць найсвятлейшы твар — Мадонна Біркенау.

Хоць да пятлі цягнулася далонь,
А помста мастаку прапальвала палотны,
Стрываў ён, асудзіў на бессмяротнасць
І ката, што пагнаў яе ў агонь.

*1979*

## ДВА КАЛАСЫ

1

Я — колас,
Сеяны ў сорак другім,
З апошняй жмені кінуты ў разлогі
Незааранымя —
тут, у баі даўгім,
Гарматы працавалі як нарогі.

Я рос і тросся,
Каб галодны рот
Маё жыццё
Не абязвечыў хіжа.
Дзесятак зерняў спеліў на завод,
Каб новы колас
У налецці выжыў.

Я верыў:
Стану ніваю шумець!
Сталь сталі пераесць-такі вантробы.
Мяне падыме,
Запыніўшы смерць,
Кроў воіна майго,
Пот хлебароба.

Я вырас на крыві.
Яна ж — і кроў твая,
Наступнага калена беларусе,
Лічы, што я —
Чацвёрты твой сваяк,
Што ў бітву
Жытнім коласам вярнуўся.

2

Я — колас,
Вырасшы праз трыццаць пяць
Гадоў,
Што без спачынку лета ў лета,
Былі ў заслоне,
Каб не падпускаць
Крысо пажараў
Пад будынак свету.

Шумлю тым шумам я,—
Жывая плоць
Таго зярняці
І яго трываласць.
Да росту прагі не перабароць
На даляглядзе ўсклубленым навалам.

Я чуюся,
як роўны між людзей.
Я — колас,
З зернем залатое пробы.
Дзеля мяне змагалі сухавей
Пот воіна,
Кроў хлебароба.

Калі ж на дол
Я лустай упаду,
Схіліся, дружа, нізка,
Не лянуйся!
Пачуеш ты:
І голас,
І хаду
Чацвёртага,
Што коласам вярнуўся.

*1979*

## ДАБРЫДЗЕНЬ, РАДЗІМА

З бліскучай трубою, з дажджом на вакзале
Мы ў стэп маладзейшых сваіх выпраўлялі.

Бацькі, з непрывычкі, ад ранняе чаркі
У гонар ад'езду
смалілі цыгаркі.

Квяціста было ад сукенак жаночых,
Але пад хусцінкі хаваліся вочы.

Сяброўкі хлапцоў, праўда, румзалі трошкі.
А следам усмешка, прытупвае ножка.

Багаж са слязьмі варушылі матулі —
Варэнне ці ёсць, ці паклалі кашулі...

Нябачна ў натоўпе хадзіла жанчына,
Што праўду таіць, не з сухімі вачыма.

Азёрнай вадою, смаловым паветрам
У сэрцы лілася яна непрыкметна,

Вучыла хадзіць і вяла ў бездарожжах,
З маленства ў душы выкалошвала збожжа.

Паправіць няўдачу, пахваліць за ўдачы,
Ты з ёю шырока і чуеш і бачыш.

А кінешся ў мары, яна, залатая,
Вятрамі імкненняў цябе акрыляе.

Куды б ні ад'ехаўся — дзіўнае дзіва! —
Няма ў нас расстання...
— Дабрыдзень, радзіма!

*1979*

## ЗНОЎ ПРА САЛДАТА

Аднойчы на нямецкім рынку,
Сярод міжвольных гандляроў,
Стаяў і слухаў ён катрынку —
«Разлука» гралася...
Дамоў,
Дамоў, вось зараз жа, салдату!
Катрыншчык жаласна пяе...
За думкай думка: знойдзе хату
Ці толькі попел ад яе?

Дый тут не цукар, ёсць гаркоты,
Але прыйшоў на гадаў звод.
Разбіць — было рукам работы,
Зрабіць людзьмі — не менш турбот.

Дзіцёнка ўбачыў...
Задуменны,
Каля малога поплеч стаў...
Вось гэтак друг яго каменны
Пасля ўзышоў на п'едэстал.

Каб адхіліць зямлі калецтва
Не на сягоння, на пяцьсот
Гадоў наперад,
чалавецтва
Бяззбройным зробіць самалёт,

Стакратна выкляты за бомбы,
Хоць вінен тут зусім не ён,
Не тыя, што насілі ромбы
Замест адмененых пагон.

Быў час: прыкметы навальніцы
Хавалі ў друз парадных спраў
І меркавалі пагадзіцца
З тым, хто за горла даставаў.
Усе хадзілі пад загадам:
Чакаць, страляць не пачынаць.

...Вайна шугнула вадаспадам,
Размыла гаць, угнула раць...

Вось і злажыўся трохлінейкай,
Які ў яе ні даўні век,
На грозны танк — з бутэлькай нейкай,
Грудзьмі на доты —
ч а л а в е к!

І ворагаў машыны сталі,
Іх колы рушылі назад.
Прыкідвайце, з якое сталі
Быў несталёвы наш салдат.

Спаў, дзе б ні сеў,
у дождж, у шэрань.
Аднак жа гідзіўся ваяк,
Калі прыстройваліся ў шэраг
Крычаць «ура» пасля атак.

У дом вярнуўся з-пад Берліна,
Трафеяў надта не валок,
Цукерчын парачку для сына
Ды вось прадзёрты шынялёк.

Не васкрасаў, вядома, з мёртвых,
Не інвалід — яму не ўстыд! —
У кроў праліўшую кагорту
За кроў прылічан, не за спрыт.

А без яго хіба ж бы здолеў
Пераламаць паход на ўздым
Праслаўлены гартоўнай воляй,
Гартоўным прозвішчам сваім?

Зірні і пазнаéш салдата!
Гады, успёрся на кіёк,
Ды ў працы, чарку п'е на свята,
У кожнай справе важыць клёк.

Калгаснік ён або рабочы —
На той жа крой растуць сыны! —
Ён сам вайне глядзеў у вочы,
А вочы страшныя ў вайны!

Такіх ужо не вельмі многа.
Шануйма звычай дарагі:
Ім саступаць чаргу, дарогу
І зазываць на пірагі.

Шкада, што меней, моцна меней
Іх чую, як хацеў бы чуць,
Бо да мясцін заспакаення
Нясуць кагосьці ды нясуць.

І тым, чый гонар марна дзьмецца,
Не шкодзіць шапянуць крадком:
Стаяць ты стой на першым месцы,
Але за ім, былым байцом.

*1979*

## НАБЫТКІ ДУШЫ

Французскі голас плыў праз адзіноту,
Спяваў пра сум...
Я слухаў, смуткаваў:
Ды ён жа — свой! Дарэмна я на потым
Сяброўства гэта доўга адкладаў.

Пара часцей, пакуль зямля жывая,
З людзьмі спяваць, паліць сустрэч лаўжы
І чуць, што ў лёс твой раптам прыбывае
З далёкіх лёсаў кропелька душы.

*1979*

## УСЁ ЗРАЗУМЕЛА

Хто не вучыў кітайскай мовы,
Па гуку зразумее словы:

Ч у н ь - ц я н ь — вясна:
Тут шум дажджоў
І плюскат кропель з капяжоў.

Д а - ч ж а н — вайна:
Тут посвіст куль,
Ляцяць куды і б'юць адкуль.

Л і - х а й — ліхі, б а й - м і — карміць,
Ж а й - п і н — то мір паміж людзьмі,

А д з і — зямля, а д у н — усход...

Відаць, не так далёк заход,
Народ каб разумеў народ.

*1979*

## НАРАЧАНСКІЯ ГРЫБНІКІ

*І. Ф. Клімаву*

Дружа, давай адпачнём на пяньку,
Можна і трэба зрабіць па глытку.
Хай пра дзяўчат граюць маладзікі,

Мы — ўжо дзядзькі, пагудзім пра бычкі.

Хоць я ў зямлянцы з табой не сядзеў,
Рук пры агеньчыку разам не грэў,
Але гаворыш, і чую цяпло
Часу, дзе жыў, што ў дарозе вяло.

Бачу, перш-наперш зусім хлапчука,
Калі з-пад Слуцка хадзіў у ЧК,
Як табе маці ўсыпала ўсяляк,
Што да чэкістаў наняўся, лайдак.

Бачу дарогі ваенных трывог,
Лес партызан прывячаў і сцярог.

Вы абжывалі свой бор, быццам дом,
Школкі былі, быў падпольны абком.

Памяць паслушна паслабіла лейцы,
Мінск прыгадалі, прайшлі па Вілейцы.

Колькі турбот за плячыма — гара!
А на спачын і дасюль не пара.

Дружа, паходзіш яшчэ па ляску,
Зробім, вядома, яшчэ па глытку.

Просіцца ў кошык удалы грыбок,
Вось не нарвацца б цяпер на жанок!

Сіняя Нарач іграе, шуміць...
Хай сабе жонка крыху пакрычыць!

З лесу бадзёрыя крочаць дзядзькі:
— Вось яны — мы, а вось нашы грыбкі!

*1979*

# ЗА ДАЎНІМ РУКАПІСАМ

Страціўшы процьму высілкаў,
прабіў у падвале дзверы я,
Не меней прыклаўшы рупнасці,
знайшоў у мурах паперыны:
Дзённікі, манускрыпты,
пакінутыя прапрадзедам,
Усё, што было дапраўды
і што для красы прыкладзена,

Пра тыя часы нясветлыя,
з паўцáркамі, паўвяльможамі,
Хоць з дрэва жыцця абтрэсены,
імёны вядомы кожнаму,
Так густа імі рашчынена
турбот чалавечых месіва...

Паслухайце, калі ласка,—
казка галлё развесіла.

Жыў чалавек незаможны,
поглядаў незалежных,
Востра выбліскваў словам,
бачыў далёка, свежа:
Смешнае — у нясмешным, добрае — у нядобрым,
Смеласць — у баязліўцы,
а слабіну — ў харобрым.
Каб праўдзе свяцілі вочы,
мог крыўду з паўсвету выбіць,
І страх не любіў няшчырасці:
лепей лязо пад кіпець,
Чым нешта цярпець надзьмутае,
нібы гумовы шарык —
Пакрасавалася, луснула...
І рэха няма ў абшарах.

Хоць піць і есці ставала,
і ў свірне было на мліва.
Здалося нейк чалавеку,
што ён не зусім шчаслівы:
Дамок — слепаваты, цесны,
скварка з няпоўнай чаркай,

А ў сябра — аж пяць харомін,
стаеннікі, гаспадарка.
Яны ж начыналі разам,
хадзілі ў лапленых портках,
Ды глянь, як угору скочыў,
а розум не надта порсткі...
Карціць і карціць чалавеку:
чаму гэтак жыць не можа?
І ён галаву схіляе прад сябруком-вяльможам.
Гадзіць таму пачынае, спяшае паднесці крэсла,
Б'е ў ладкі пад час з'яўлення,
каб свечкі і шыбы трэсла.
І след у след патрапляе, і робіць усё таксама:
Бачком — калі ў дзверы храма,
баском — калі ў дзверы крамы.
Пасля трэніроўкі спіны
хрыбет выгінаўся гнутка, гнутка,
Ён моўкнуў, абы загаўкаў
любімы патронаў цюцька.
І жонку хапіў такую —
упоравень дранай кошцы,
Але радня патрону —
стаў з ім на сваяцкай дошцы.
Бакалам віна за гэта прывечаны неўзабаве,
Аблашчаны і дапушчаны сесці поруч на лаве,
Не чуў падхмелены поспехам:
віно патыхае воцатам,
Аддаў за міску сачыўкі гонар і першародства.

Вось гэтак уздзёрся ўгору:
даміна — высок і ёмак,
Вязуць вярблюды паклажу,
кумыс — аж са ста даёнак.
Ён сам — амаль што вяльможа,
мацней чым патрон ягоны,
Ды цэліць яшчэ падняцца,
абы як набраць разгону!
Злаўчыўся, зваліў ён сябра
і наступіў абцасам,
Пасля пакаціў другога,
калі падсачыў сам-насам.
А некалі ж доле збітыя, будучы юнакамі,
З ім разам, дзе рунь ні вызірне,
радасна сустракалі.

Як жа яму напомніць: ахамяніся, хлопча!
Ён песціць пушок на лысіне,
а лёсы людскія топча.
Адразу ж усё забыта:
хто збіў і тыя, што збіты,
Продаюць дрыжыкі іншыя,
калі ён зірне сярдзіта.
Заслугі яго распісваюць адборныя халуі.
Ён лёгка рай абяцае, бо сам амаль у раі.
Ходзіць за агароджай, з німбам,
пакуль без сведкаў,
Мерыцца ў даўгалецце, бярэ пад язык таблетку.
Сабе і ўсім утлумачвае,
нібы ён адзін адменны,
І плюшчыць вочы, што ў
свеце здараюцца перамены.

Чакайце, ужо агоркла
расчытваць старыя кнігі!
Вокам і крокам у даўнім
не вельмі цікава нігаць.
Пра што, хутчэй адкажыце, новая казка будзе?
Ды ўсё пра адно і тое ж,
як людзі растуць у людзі:
Шумам сплывае дробнае,
буйнейшае нараджаецца,—
Дзеля ўсяго для гэтага
прапрадзеды спавядаюцца,
Колькі ім каштавала самім сабой заставацца,
На пік узышоўшы горны,
дзе сэрцу найболей працы.

Я аднавіў у вершах,
нехта зайграе на скрыпцы
Усё для нас пераказанае
ў знойдзеным манускрыпце.

*1979*

## З НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

Жыцця ў нас — на адну панюшку!
Каб шлях пыліў даўжэй на чуць.
Знайдзі ў бары траву-мінушку,
Нюхнуў —
і хворасці мінуць.

Калі сябры патравяць ніву
Ці гора смыча касмылі,
Спяшай знайсці траву-забыву,
Папі — і крыўды адышлі.

А як расстанне ступіць блізка,—
Няма абранніцы твае,
Сарві ў садку траву-любістак,
Глынеш —
і сэрца зноў пяе.

У знахароў мінушку тую
Мой прадзед некалі дастаў
І адагнаў гарачку злую,—
Жыў і касіў сабе да ста.

Травы-забывы слёзна маці
У варажбіткі здабыла —
Карове даць, каб па цяляці,
Асірацеўшы, не раўла.

Да трыццаці міналі хлопцы,—
Ледзь не зарос імхом парог,—
А выйсці замуж нашай цётцы
Любістак хутка дапамог.

І я за ім усе даліны
Перахадзіў, перагарнуў,—
Парастрывожваў успаміны,
А сэрцу стратаў не вярнуў.

Як мы дарады ні шукаем
Ад нечаканых перагас,—
Не час мінае, мы мінаем,
Час лёгка рушыцца без нас.

*1979*

## КАМУЧКА

Было сыноў у паляшучкі —
Не падлічу, хоць бот здыму!
Адзін мянушку меў — Камучка,
Што б ні спаткаў, пытаў: «Каму?»

Пачнуць стаўляць стагі на пойме —
— Каму? — бяжы, яму скажы.
Мукой закрасяць цэбар пойла —
— Каму? — хоць пальцам пакажы.

Паўгода выседзеўшы з ручкай,
У вершык веры я няйму,
Варушыцца ў душы Камучка:
Зрабіць — зрабіў, але каму?

Каму дадасць хоць кроплю веку,
Каму ўрадлівым зробіць глей,
Каму ў жыццё паставіць веху,
Каму паможа стаць святлей?

Нікому?
Кінь у печ, за дзверцы,
І ў пошук зноў — уцех і мук.
Я дзякую табе ад сэрца,
Камучка, мілы паляшук.

*1979*

## АБЫЯКАВАСЦЬ

Адкуль бярэцца гэты накіп?
Але вісіць жа над душой
Цень...
Таўстаскуры, абыякі,
Не сябра і не вораг твой.

Той вылівак, што раўнадушнасць
Кладзе ў гняздо, штодня, крадком:

Натугі менш, а больш паслушны,—
Без шкарлупы — бялок з жаўтком.

Так дажыве да куранянці —
З пушка да кволага пяра...
Не стане рубам, ціха ў штаце,
І да таго ж — ён чыйсьці брат.

А мы з табой не вінаваты,
Каб гэткім ціўкаць і клявацць?

Прызнацца трэба наастатак,
Каб горшай кары не прыждаць.

*1979*

## НА ДОСВІТКУ

Хутка пачынаецца сезон
Сходаў, кампліментаў і падвохаў,
Дзе, сабе рыхтуючы разгон,
Людзі ў грудзі стукаюць эпохай.

Зноўку завінецца драбяза,
Замяшаўшы творык на мякіне,
Тонка і рахманенька ірзаць,
Можа, хто прыхільна вокам кіне.

А ты з сябрам сядзеш пры кастры,
Адубеўшы з вудай недзе ў Глуску,
Хай сабе не перагаварыць,
Толькі паўздыхаць, па-беларуску.

*1979*

## СУСТРЭЧА З ВЕГЕТАРЫЯНЦАМ

Мне зноў пячонку грыз
З прыхваткаю павучай
Маленькі вершапіс,
Што ў крытыцы падвучан.

Хаця б крытыкаваў,
А то жыгаў, як скочка,
Пакуль я з рукава
Не вытрас галубочка.

Ён мне аб жонцы плёў,
Мальвіне ці Мар'яне,
Што праз яе любоў
Стаў вегетарыянец.

Казаць-то ён казаў
І еў салату ў жонкі,
А камяні шпурляў
Па мне, з мае пячонкі.

*1979*

## МАЯ НОША

Жывуць сабе людзі,
бясед і парадаў акраса,—
У пору — на сходы,
узносы — па норме і ў тэрмін.
А мне што рабіць?
Спусташаю душэўную касу,
Штодня раздаю залатыя засекі да зерня.
І — мала, як мала!
За час, што ўстае за гарамі.
Спыняліся сэрцы, вялікія сэрцы згаралі.
Нясу і сваё, падкідаю на вогнішча ўдачы,
Каб нашаму кроку
прастор асветліць даастачы.

*1979*

## ГАЛАЛЁДЗІЦА

Скрутны час —
                    галалёдзіца —
Налятае няўчасна...
Станеш-глянеш — нагодзіцца
Нехта, зняты з начальства.

Нехта, звяўшы адразу,
Абліняўшы адразу,
Затаіўшы абразу,
Як дайшло да адказу.

Аж занадта ласкавы,
Засалодка уважны,
Бо няма пад ім лавы,
Дзе ён быў недасяжны.

А пабыўшы на кручы,—
Як ні стане —
                    ўсё нізка,
Дый хадзіць не навучан
Як належыць па слізкім.

Несці ношку даводзіцца,
Падабацца начальству.
Слізкі час — галалёдзіца,
Пакаўзнуўся — не жалься!

*1979*

## ВАНДРОЎНІКУ

*Л. Я.*

Калі дазволіць прэстыж
І калі будзе не цяжка,
Дык прыхапіце ў Парыж
І беларускую пляшку.

Тут не бальзам — яго зам,
Але, здаецца, дастойны,
Так што і ў гонар Нотр-Дам
Тост падымайце спакойна.

*1979*

## НІБЫТА САЛІСТКА

Аднатонна, штодзённа
Крача з даху варона...

Уяўляе, дурона,
Што спявае надзённа,
І што гэтак прыгожа
Ніхто ў свеце не можа.

А ці пройме іронія
Хоць патомства вароніна?

*1979*

## СУМНЫ ЖАРТ

Няўкрасна красіць час,
Хоць і фарбуе смела
Рудых і чорных — нас! —
На шэра і на бела.

А ўсіх, хто сам зліняў,
Стаў лысы, як палена,
Людская дабрыня
Падхваліць: ім балела.

Яны падхопяць спеў,
Маўляў, згубілі кудлы
За лёс людзей і дрэў,
За глупства і за мудрасць.

Бліскучыя ілбы!
Хто да дзяўчат не дурань,
Не супраць дурнем быць,
Ды з буйнай шавялюрай.

*1979*

## ДАЛЕЧ ДНЕЕ

Пакуль дазнацца не ўдаецца,
Адкуль той жар падземных рэк,
Ніяк не можа чалавецтва
На доўгі век выпісваць чэк.

Шумне мароз — і кроў застыне,
Шугне агонь — вада згарыць,
Усе набыткі залатыя,
Што больш ніколі не набыць.

А людзі, быццам пеўні, грозяць,
Кроў з носа пусцяць хоць каму,
І самі, хто сядзіць на возе,
Спрэс падуладныя ярму.

Ану,— хто ўпрогся ў залатое
Або ў ярмо масонскіх лож,
Хто ў ёрмы злыганы вайною,—
Спыніце хоць маленькі дождж!

Хіба ж утаймавалі вы іх,
Разбой вятроў, сутычкі зор?..
Як што народжана ў стыхіях,
Так і хварэе на адзёр.

Хваліць сябе — ганю спакусу,
У працы помніцца заўжды:
Адна хвіліна землятрусу —
Зямлі турбота на гады.

І ўсё, што маеш, што ты ўмееш —
Агонь газнічкі: цьмеў і знік.
А шлях чакае, далеч днее
І зелянее пастаўнік.

*1979*

## ЗВЫЧАЙНЫ ЦУД

А ў нас — што хвіліна гатова машына!
Калі каму здасца — не так яно шмат,
Дык гэта ў былой, саламянай, краіны
З драўлянымі коньмі на вільчыку хат.

Не, я не дзіўлюся: з набатнай званіцы
У Смольным ударылі: — Мы не рабы!
Я гэтаму звону паспеў прычасціцца
І з ім усе цуды рабіў ды рабіў.

*1979*

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Вясна за вясной адплывае
Не толькі ў цябе аднаго,
Чаго ж ты сабе пажадаеш
І ўспомніш сягоння каго?

Пакуль яшчэ дужыцца трохі,
Выходжу, да вахты гатоў.
Раскрылены ветразь эпохі
На мачту ўзвіваецца зноў.

*1979*

## ГАРТАВАННЕ СВЯТЛОМ

Хмары сышлі, пашматаныя ў мэтлахі,
Стала падсушвацца крылле вятруг.
Пара бярэзін, прыбраўшыся ў светлае,
Зміргвае з веек дажджынкі на луг.

Так, праз навалы, ад болю не стогнучы,
Неслі святло мы, каб свет не заспаў.
Вось і агеньчык вышугвае ў вогнішча,
Вось ужо ў гарт вырастае запал.

*1980*

## РАДЗІМЕ

Папаходжваў з табой па грыбах, па чарніцах,
Папапёкся ў жніво, на сяўбе папамок.
Пахі першых грымот, подых свежае гліцы
І — на вуснах юнацтва нязброджаны сок.

Для ўсіх чыста вушэй
дзьмуць фальшыва на флейце,
Склаўшы рукі на чэраўцы, ціха драмаць —
Ні да чога!
Папраўдзе мяне зразумейце,—
Так шчыруючы, век правякуеш дарма.

Меч і полымя секлі нам голас і воблік,
Паспявай загаіць, пагасіць паспявай!
Я — паўстаўшы з нізін,
я — ўзляцеўшы за воблак,
І Кастусь Каліноўскі, і Бацька Мінай.

Я гайдаўся з пятлёю на горле гаручым,
Астываў, расстраляны, загрэбены ў мох,
Але, верачы змалку ў тваю неўміручасць,
Не зламаўся, не ўмёр, перабыў, перамог.

Паміраць за цябе — жыць заўсёды з табою,
З тым, хто трактар вядзе на ўпацелай зямлі,

Мог бы з хлопцамі солі здабыць у забоі,
Балазе з далані мазалі не сышлі.

Толькі рупіць, карціць клопат добра знаёмы,
Што вялікія продкі далі на завод:
Алавок у руцэ маёй робіцца ломам,
Мне ў наступнае час — дарабляй пераход!

Б'ю пароду, нялёгка, а маю і ўцеху:
Б'юць насустрач — танчэе між намі заслон,
І гучнее сустрэчы грымучае рэха,
Толькі ўдарым па разу — і хлыне святло!

Свеціць сонца ці хмыліцца месяц двурога —
Шлях ляжыць, у граніт знітаваны з жарствы.
Каб выпадкам я змоўк, ты народзіш другога,
Змоўкні ты хоць на міг — стану я нежывы.

*1980*

## КРОПЛЯ ЖЫВІЦЫ

Парны, шэра-блакітны,
Змокшы да ніткі дзень.
Сцелецца на ракіты
Ліўня цыбаты цень.

— Досыць! —
гукае ніва: —
Больш не прыму, ані! —
Спелы барок маўкліва
Жмурыцца з вышыні.

Як ні было б пагодна,
Вобмаль яму відна:
Бачыце, пад смяротнай
Падсочкай
уся сасна!

З вольнай зялёнай вахты
Прыме працоўны шлях,

Жыць яна пойдзе ў шахты,
Плаваць на караблях.

Перш чым упасці ніцма,
Нам аддаюць ствалы
Кроплі густой жывіцы,
Кубкі тугой смалы.

Сэрцу яна вяртае
Бляск маладых вачэй,
Скрыпка званчэй спявае,
Фарбы гучаць танчэй.

Часам майстры падсочкі
Выпусцяць з рук слязу:
Скоціцца міма бочкі,
Схаваецца ў дзеразу!

Некалі з гэтай кроплі
З'явіцца ў хвоі сын —
Жоўтым і вельмі цёплым
Вокам зірне бурштын.

Стане ў жанок уборам
І нашапоча ўсім,
Як мы дружылі з борам,
Як я тужыў па ім!

*1980*

## ПОШТА ДРЭЎ

Клён да бярозы шле шпака,
А граб да ліпы — салаўя...
Хто б ад цябе прынёс адказ
На кліч лістоў маіх штодня.

Я ж толькі гэтым і жыву,
Цяплю надзеі вугалёк,
Каб павярнула галаву
І пасміхнулася здалёк.

Хаджу, зайздрошчу пошце дрэў...
Каб мы былі з сям'і такой,
Тады б я лісцем зашумеў,
А дрозд прынёс бы пошум твой.

*1980*

## НЕ АДЧЫНЯЙЦЕ РАЮ

Сніцца мне: паміраю
І на багоў крычу:
— Не адчыняйце раю,
Я вам траву стапчу.

Лепей у пекла, згодзен —
Цёпла, стае кабет.
Толькі не ў гэтым годзе,—
Нешта трывожны свет.

Хтосьці калоціць буру,
Як жа быць без мяне?
Трэба зварыць мікстуру,
Хворы няхай глыне.

Можа, паразумнее,
Можа быць, дуба дасць.
Словам, на ліхадзея
Нейкую знойдзем снасць.

Вось чаму не спяшаю
Скручваць турботы ў жмут.
Не адчыняйце раю,
Я не смуткую тут.

Хай не заўсёды ўтульна,
Звады каля вачэй,
Але ў людскім завуллі
Вечны ручай цячэ.

*1980*

## УСМЕШКА ЛЁСУ

Такою отмечен я долей бедовой:
Была уже мать на последней неделе,
Сгребала сенцо на опушке еловой —
Минута пришла — далеко до постели...

*А. Твардоўскі*

І ў бабкі мае не прымалі радзіны,
Крыху пастагнала за кустам крушыны,
І — хлопчык... Гулялі без чарак хрысціны;
У міску з гарэлкаю хлеба ўкрышылі
Ды лыжкамі сёрбалі...
Скварак, аладак —
Кішэнь не дазволіла, гэта не ўтоім.
Так бацьку майго і з паўтузіна дзядзек
У свет выпраўлялі без лішніх запоін.

А колькі ўзаралі, а колькі скасілі!
Ганялі плыты, ветракі будавалі...
Удзячны душой, хоць не роўны па сіле,
Я чарку, за ўсіх іх, паўней наліваю.

*1980*

## РАГАЧЫЦЕ, АЛІМПІЙЦЫ!

На Белай Алімпіядзе ў Лейк-Плэсідзе
спартсменаў сялілі ў будынку будучай турмы.

*З газет*

Рагочуць алімпійскія багі,
Рвуць бокі ўсе — ад Зеўса да Гермеса:
Праз ласку нейчай левае нагі —
Быў смех звышгамерычнага замесу.

Найбагацейшы край назапрашаў
З усіх краін майстроў найбольш адменных.
Няхай параскашуецца душа,
Пабачыць спрыт спартсменаў і спартсменак.

Але, на жаль, там гэткі вецер дзьме,
Каб стаў тлусцейшы з долара прыварак:
Прымаюць алімпійцаў у турме
Бадай што афіцыйныя жандары.

Тады мне прыгадаўся Монт-Вернон,
Маёнтак прэзідэнта Вашынгтона:
А як бы ён пакіраваў стырном? —
Так думаў я пры помніку ягоным.

У гульнях шмат трапляецца мазіл,
Але жыццё не ходзіць самапасам,
Буйнее ў кроку, пэўна ж, разам з ім
Буйнець павінны людзі...
А тым часам
Рагочуць алімпійскія багі,
Хоць аніводзін з Бахусам не ўпіўся.
Павінны ж быць і ў глупства берагі,
Дык, значыць, рагачыце, алімпійцы.

Калі дадзела вам гара Алімп,
У Лужніках, а хочаце — ў Крылацкім
Прапішам, павядзём у цень маскоўскіх ліп.
Падумайце, ёсць сэнс перасяляцца!

*1980*

## НА АДЫХОД,

**пакуль што прэзідэнту,**
**Дж. Картэру**

Прывод гудзе.
Пакуль што прэзідэнт
Дае ў цапы ваеннай малатарні
Жыццё людзей...
У жорсткім руху прэнт, —
Пакуе склад заморская збраярня.

Збраярня, так... А як назваць інакш
Мясціну, дзе майструюць прорву зброі?
Рване — і можа мілы шарык наш
Рассыпацца, не будзе больш Зямлёю.

Папусцішся — пачнуць наноў В'етнам,
Закладзена абойма правакацый...
Што ж, хлопцы міру! Вам, як і дзядам,
Дзе-небудзь ды патрэбна абстраляцца.

Казаць так — мне баліць, былому ваяку,
Для маці сын — сівы, а ўсё дзіцятка,
Ды спраў, што мы страчаем на вяку,
Не парабіць у беленькіх пальчатках.

Я збраяроў здавён сачыць пачаў:
Адзін быў — трохі пораху панюхаў.
Быў генерал — пагрозы сек з пляча,
А трэці — бомбу шпурлянуў з-за вуха.

Перадапошні — вось! Бліжэй хадзем,
Прыцэнімся: каму тут заядацца?
На хрэсьбінах яго назвалі — Джэймс.
Імя — дарма, а хроснік што за цаца?

Танцуе на шарнірах. Вочы ўверх
Заводзіць. Як пацягнеш за шпагацік,
Рукамі сплясквае. Каб зарабіць давер,
Да скуры распранаецца ў сенаце.

Я б не сказаў, што на язык васцёр,
Хоць не прылічан і да гурту скромных,
Ды ўжо ж не нахапаўся з неба зор,
І не з такіх, каму стаўляюць помнік.

Каб мой памфлет без солі не злысеў,
З лупіны трэба вылузаць арэшак,
Хай курчыцца на белай паласе
Той, хто цкуе, і разам той, што брэша.

Хацеў бы імі не гнюсіць радкоў.
Паэт казаў: «Дай, Джым, на шчасце лапу...»[1]

---

[1] Радок з верша С. Ясеніна «Сабаку Качалава».

Дык то ж быў Джым! А гэты не з сяброў.
Здароўкацца хай цягне іншым лапу.

Паўстанні ў сэрцах рвуцца праз людзей,
Трасуць планету выбухі свабоды...
Чаму ж маўчыце, звяўшы прэзідэнт,
Ці не занылі косці на нягоду?

Каб угібаць у жменю Белы дом,
Хадзіць па коўзкім трэба прылаўчыцца.
І ён хадзіў, размахваў кулаком,
Не так ступіў — і паламаў ключыцу.

Што гаварыць, паломка без пары...
Хоць драбяза,— руцэ няма размаху,
Як ні стаўляюць шыну дактары...
Не хочацца, а трэба злазіць з даху!

*1980*

## У АДНЫМ ДОМЕ

Наведаў я дружбацкі дом,
Знаёмы ад бярна,
Ён так заліты быў святлом,
Што шклела ўся сцяна.

Раней тут ззяла поўня мар,
Без бра і ліхтароў...
А быццам той жа гаспадар
І тая ж плынь размоў.

Далонню захінуўшы лоб,
Зніякавеў я, сціх:
Акрас-акрас, аздоб-аздоб,
Ды холад вее з іх.

Гукнуў я...
Пошчак паўтараў,
Нёс покліч мой дарма:

Вісеў на сцэнцы футарал,
А флейты ў ім няма.

Затое ружы там былі
Навязаны ў пуках,
Ім сэрца не падвесяліць —
Падзеўся недзе пах.

Хай так, але віна стае!
Дый гэта ж толькі цвель:
Стаяць бутэлькі на стале,
У іх не бродзіць хмель.

Не апушчу, аднак, руку,
Я мушу падысці!
Вунь той гадзіннік, у кутку,
Завесці і пусціць.

Пушчу і ведаю:
                    адно
Адлічваць час пачне:
У кветкі — пах,
                    хмель — у віно,
У дом жыццё ўдыхне.

І я адказ прыняць гатоў,
Каб дыхаў лёгка дом.
А чый ён, мой ці дружбакоў.
Як-небудзь разбяром.

*1980*

## ДРОБНЕНЬКІ ЧАЛАВЕЧАК

Лёсам крыху прыкмечан
І ад яго дароў
Дробненькі чалавечак
Капае шырозны роў.

Як ён стаў землякопам,
Ён жа амаль мастак?

Станеш, як зойдзе клопат,
Нельга яму прыстаць.

Ходзіць наўкола моладзь,
Не накуры смалы,—
Кожны прыкмеціць: голы,
Нехта гукне: малы!

Трэба абавязкова,
Каб не згубіць вянца,
Адгарадзіцца ровам
І куравам ядлаўца.

Бедны, аж змок ад поту,—
Стала глыбей на штык.
Робіць адну работу,
Ад людскіх работ адвык.

А што, калі б ён, бядача,
Не шкадаваўшы рук,
Старацца пачаў іначай —
Стаў насыпаць гару?

Пэўна, да рэшты дзён бы
Узняў на пагорку храм,
Каб з вокан яго відзён быў
Нашчадак, калі не сам.

*1980*

## ШАНУЙЦЕ ЛОКЦІ

Здаецца, ты ўжо на покуці —
Тосты, ялей, вянкі!
І раптам: упруцца локці,
Вострыя, пад бакі.

Дыхаць робіцца цяжка.
Крыўдна: чаму ж, за што ж?
У спіну б'е без прамашкі,
Хоць без ляза, а нож.

Ты смелы, спрактыкаваны —
Клаў праз агонь масты,—
Звянеш, нібы ад раны,
З горкае прыкраты.

Паўвека, ў завеях,
ношку
Цягнуў, каб жыў навасёл...
За гэта хіба падножку,
Да часу спіхаць у дол?

З усмешкай, у добрым клопаце
Кідаю ў талаку:
Людзі: шануйце локці,
Трымайце іх пры баку!

*1980*

## ЖАНГЛЁР

Барадаценькі жанглёр
Выпінаецца на дроціку:
Сам дабёр, зіхціць убор
Пацвікованай аброцькаю.

Сыпле трукаў вадаспад
Пад рыканне цырка львінае:
Крок наперад, крок назад —
Ловіць шарыкі за спінаю.

Скок управа — з памялом!
Скок улева — веер злоўлены!
Выбух воплескаў, паклон
Ён кладзе, як напал зломаны.

А міне выставы час,
Не прамовіць слова людскага,
Што ні сказ, то напаказ,
Нібы семкамі палусквае.

Жоўты плашчык, ён — каўбой,
Лакіраваныя боцікі,
Навакол яго канвой —
Дзеўкі ходзяць проста процьмаю.

І не тужся, не ўсачыць,
Што ў душы яго прыгорнута.
Чый ты, хлопча? Ды нічый!
Так сказаць, істота зборная.

Ці ж не цягне, хоць калі,
Стаць на цвёрдым барадатага?
Дзе ж узяць тае зямлі —
Не чутна яму пад пятамі.

А ў паветры ён васцёр,
Не спрабуйце пабароць яго.
Барадаценькі жанглёр
Выпінаецца на дроціку.

*1980*

## ПАРАЗМАЎЛЯЙ СА МНОЙ, ЗЯМЛЯ!

1

Заходжу ў прошласць.
Размаўляй
Са мною на цяслярскай мове
Будоў,
што ты ўзняла, зямля,
І стрэсці ўжо напагатове.

* * *

З машком на даху ветракі,
Нібы перакурыць прыселі,
Глядзяць маўчком, як жабракі,
Дапушчаныя на вяселле.

Ні іх мукі, ні му́кі іх
Нікому больш не пажадаем,
Хоць праца крылаў замашных
Жывіла часам караваем.

Не думай, сённяшні хлапец,
За продка больш адукаваны,
Што на загоне рос блінец,
А ўздоўж разор цякла смятана.

* * *

За вёскай тлее моцны зруб —
Кавальскі мех, яшчэ начынне.
Была тут кузня, быў і клуб,
Дзе ўсмак гаворыцца мужчынам.

Хай языкі спагоняць сверб!
Каваль куе, не кіне слова,
З-пад рук выходзяць нож і серп,
А калі трэба, і падкова.

Тады ён сядзе пакурыць,
Падсыпле жару для гаворкі.
...Мы чуем, як ні дзьмуць вятры,
Кавадла звон і пах махоркі.

* * *

А́ вось — маленькая царква
З аблі́ччам цёткі багамольнай,
Што ад жалезнага цвіка
Не ўчула болю ў целе смольным.

Быў цесля, гэтак збудаваў.
На мазалі яго крывавым
Мінск паўставаў, расла Масква,
Цуд шырыўся на ўсе дзяржавы.

Але не кузня і не млын
Зрываюць з губ хвалу і песню...
Я ў твар заглядваю малым —
А хто з іх выб'ецца на цеслю!

2

Заходжу ў сёння.
Размаўляй
Са мною на каменнай мове
Муроў,
што ты ўзняла, зямля,
І змесці ўжо напагатове.

* * *

Пакуль да іх, зірнём на ўзлёт,
Якраз паспелі на хрысціны:
Растуць —
з аблічча і з выгод —
Харашуны, да хмар даміны.

А вось завулачак... У ім
Не размінуцца дзвюм фурманкам,
І ўбачыцца вачам тваім
З высокім ганкам мураванка.

Суцішвай крок, сачы пільней,
Уява дасць узнагароду:
Як век назад, з акна зірне
Той, хто зваў сонца для народу.

Яму відаць уся аблонь —
Шпіль залаты ў сінечы недзе.
А зграбны мур! Хоць на далонь
Пастаў ды пакажы суседзям.

У меру шкла, ажурных брам,
Святло пагоднае не меркне...
Жывым дакорам будзе нам
Баракаў гурт на пяць паверхаў.

А гэты — ён крылаты гмах!
Навуку ўзлёту вывеў дойлід.
Не прачытаць таго ў тамах,
Яго душа жыве ў будоўлях.

3

Заходжу ў заўтра...
Размаўляй
Са мною на смалістай мове
Бароў,
што жывіш ты, зямля,
І спілаваць напагатове.

* * *

Падняўшы кубачкі смалы
З перадсмяротнае падсочкі,
П'юць гора гонкія ствалы,
Гатовыя падацца ўпрочкі.

«Спрадвечнай долі не мінеш,
Чыя б рука ні пілавала,—
Мне чуецца,—
нас мала, мала,
Нас з кожным годам менш і менш.

Не так і шмат ужо ў грыбы
Табе хадзіць пад нашым дахам.
Мы хутка перастанем быць
Зямлі зялёнай апранахай...»

І чуе кожны неглухі,
Хто трэба нам,
каб жыць і дыхаць.
Рыхтуй насенне і плугі,
Зямля, стань пушчаў парадзіхай.

Патрэбен век, каб вырас бор,
Хадзі пры дрэўцах асцярожна:

Замахвацца на ўвесь тапор —
І нам і ім баліць...
Няможна.

Калі ж піла кране лясы,
Ты верхавіны і галіны
Кастрамі ўпокат не касі,
А пазбірай да пілавіны.

Іх стане ў печ і для папер,
А ў подлеску прыбудзе веку.

Бары свой клопат і давер
Шумяць на вуха чалавеку.

4

Заходжу ў вечнасць...
Размаўляй
Са мною на люстранай мове
Азёр —
вачэй тваіх,— зямля,
Што сплюшчыцца напагатове.

* * *

Як на вачах мялее Друць,
Як горка зарастае Кромань!
Няўжо ж дрыгвою заплывуць
Дрысвяты, Мястра, Нарач, Нёман?

Дзе хвалі ўзяць умыць душу,
Надыхацца красы іх светлай?
А чым я полымя згашу,
Што зырка рвецца на планету?

З часоў якіх — не прыгадаць! —
Трывала добрае суседства:
Тады — зямля, агонь, вада
На свет зазвалі чалавецтва.

Ды вось агонь хады набраў,
Вада ў глыбіні ападае,
Не жывіць рыб, не поіць траў,
І глеба петрае, ўсыхае.

Гады нягод і перагас...
Агонь буяў ад зыркай сілы:
Крыжамі адзначалі нас
І на грудзях і на магілах.

Пагроза заступае шлях.
Няўжо абараніцца нечым
Вытоку мудрасці, разваг,
Вясёлай думцы чалавечай!

Я сэрцу гавару: — Шукай,
Злаўчыся, выстаўляй заслоны,
Каб лес шумеў, плыла рака
Магутна і безабаронна.

*1980*

## РАЗВІТАННЕ З НАРАЧЧУ

Пенныя камякі...
На даляглядзе хвалі
Коцяцца, праз вякі,
Сінія, не злінялі.

Чайкі нясуць пасты,
Слізкі абсеўшы камень,
Шастаюць чараты
Шаблямі-шчупакамі.

По́дсалаўую раўня —
Дрозд-пасвісцёл растане...
І цішыня, цішыня,
Смольная, але густая.

З вечнаю мовай хвой,
Непадуладны скрусе,
Ціха іду ў спакой
Тут.
      Пасярод Беларусі.

Толькі не спачываць
Сыну ў нагах у маці,—
Стане, кім скажа стаць,
Каб ёй мацней трымацца.

Сонца глядзіць з паўдня,
З лодак стаўляюць снасці...

Плешчацца цішыня,
Дзесьці куецца шчасце.

*1980*

## НЕЎМІРУЧАЕ СЛОВА

Мы землі наносім на карты,
Да зор заглядаем штодня,
А нас даганяюць інфаркты,
Інсульты збіваюць з каня.

Тады, паджурбоціўшы міну,
Тлумачаць канец дактары,
Нясуць сталяры дамавіну,
Пякуць некралог друкары.

І нехта, напэўна, паплача,
А нехта ўсміхнецца крадком.
Аднак за няўдачай і ўдача
Заходзіла ў дом часцяком.

Як быццам нябыту адмова,
На ростанях нашых дарог
Гарыць неўміручае слова,
Што — верылі! — свеціць, як бог.

І хто гэта слова ўпацёмку
З-пад сэрца свайго нарадзіў,
Нядарам адзначаць патомкі,
Піў чарку і лусту саліў.

*1980*

* * *

Усім часам радня,
Народжан не на дзень я,
Але цярплю штодня
Другое нараджэнне.

Пакуль ты сны гартаў,
Свет на паўлокця вырас,
І сёння светлым стаў
Туманны ўчора вырыс.

Аб гэтым і жыву
З непагасальнай верай.

Угнуўшы галаву,
Не зазірнеш наперад.

*1980*

## ЛЮТЫ

На сонцы ўзбляскі лужын,
І хвоя дыша ў дом...
Ці не пара нам, дружа?
Пачнём?
Давай пачнём!

Хадзем вясёнку слухаць.
Але, кажу, але...
Хай выюць завірухі —
Не век жа ім шалець!

*1981*

## НАПРАДВЕСНІ

Дзень нараджэння летняга сонца:
Сонца — на лета, зіма на мароз.
Срэбным дубцом пад акно леснічоўцы
Гоніць пушыстых каткоў вербалоз.

Станем хмурынамі, прыйдзем дажджамі,
Жыта нальём,— абяцаюць снягі,
Выганім парасткі, спляснем лістамі,—
Шэпчуць ляшчыны з надрэчнай смугі.

Шпак з вераб'ямі завёўся на грушы,—
Хатку адбіў, ён ім гонар саб'е.

На валтузню заклапочаных птушак
Вылез мурлыка — практычны суб'ект.

Што ні пабачыш, пра што загаворыш —
Думак хапае на цэлую ноч...
А пералсыў гэту хісткую пору,
І не агледзішся — ў новую кроч.

Светлы настрой, быццам дораць абноўку,
Быццам ты ў першы збіраешся клас.
Мусіць, душа нараджаецца зноўку
Кожнай вясной, абнаўляючы нас.

*1981*

## БЯРОЗА Ў САКАВІКУ

Хоць не вельмі малады,
Крышку нецвярозы,
Не забыў я праз гады
Пазнаваць бярозы.
Ведаў я, на мой парог
Ступіць без падману,
А прыйшла яна — не мог
Надзівіцца — занач!
Без аздоб і без акрас
Выстраена чыста:
Белым-белая кара
З прадчуваннем лісту.
П'е святло, святлу жадна,
Промень грае ў воку.
Падстаўляй збанок, вясна,
Паспытаем соку!

*1981*

## САКАВІЦКІЯ НАСТРОІ

Дзякуй хмары, што дождж вядзе!
Пэўна, ўдача мая, няйначай:
Чуе тлум неглухіх людзей.
Нехта плача, папраўдзе плача.

А ці плач гэта?
                    Сакавік
Так не ўмее.
                    Наўзбоч сцяжыны,
Нібы ўкопаны, чаравік
Стаў, дашукваючыся прычыны.

Плачуць тыя, хто змёрз і змок,
Што на бруку жыць не прывыклі.
Гэта — пробуе галасок
Малады валасок травінкі.

Дзякуй хмары, што дождж прайшоў,
У каменні прамыў дупліну,
Каб прыняў у сябе рышток
Толькі вылюдзелую зяліну.

Не жартуйце з яе турбот,
Паспрабуйце расці ў граніце.
Калі ласка, шаноўны бот,
Не краніцеся, не стапчыце.

*1981*

## КАЛАСАВЫ

На золку — святочны настрой,
На зёлках — паветра настой,
І плешча пад гай белакоры
Ячменю вусатае мора.

Між роснага пер'я травы
Глядзіце вы — каласавы!

Малы, але ўжо надзіманы
З лісцінкай на шапцы крамянай.

Дзень добры, мой першы грыбок!
А там хто? Малодшы браток!
Даволі стыдацца, чаго ж?
У кош, галубочак, у кош.

І ўсе засмучэнні — набок,—
Пагналі з туманам вятры
Над гаем у белай кары.

*1981*

## ПЕРАД ВЫРАЕМ

На пагоду
Біў водар
Пажніўнага сонца.
Я пайшоў
Да буслоў,
Што, нібы на масоўцы,
Пахаджалі цыбатыя
Перад адлётам
За вясковымі хатамі,
За пераплотам.

Белым-бела — ад пер'я
І чорна — ад крыл,
Быццам нехта
Бярозу на луг акарыў,
А ў бяросту
Чырвоных дадаў вугалёў
Ад каліны
З пунсовым ад ягад галлём.

То была не аздоба
Асенніх галін,
А чырвоныя дзюбы і боты
Птушын.

Выбiралiся статкi
Далёка за свет,
Апраналiся хораша,
Цёпла
Як след.

Нам казалi-калiсьцi,
Як быў я малы,—
Нездарма так
Злятаюцца ўвосень буслы,
Аглядае iх
Важны адзiн эскулап
I бракуе адразу
Таго, што аслаб,
Каб дарогаю выраю
Не замiнаў,
Каб лепш дома,
Пры хаце ў каго зiмаваў.

Падыходзiць знаёмы,
Калiшнi салдат,
I таксама гаворыць:
— Закончан агляд!
Паабстуквалi ўжо маладых
Дактары
I даведкi даюць
На вандроўку ўгары.
Што паробiш! —

У смутку нядаўнi пiлот: —
Нам з табою
Ужо не паказаны лёт.
З трактарыстам
Прысядзеш хiба за рулём.
Ну, дык, можа, за вырай
Кульнём?
Правядзём.

Вырай зняўся,
Мяцелiцай густа замёў
Вербы,
Неба,
Атаву прыжоўклых лугоў.

Дым над хатаю
Выгнуўся:
— Будуць блінцамі карміць!
Дым за выраем
Выбраўся,
Хоць яго доле займі.

Крокі тры ад зімы.

*1981*

## ПАДАРОЖНЫ

Па бездарожжы, па белай Сібіры
Беглі завеі, у плечы білі.
Больш чым трывожна і асцярожна
Трэцюю ноч праставаў падарожны,
Блытаў сляды ён, скрыжоўваў сцяжыны,
Нібы які паляўнічы ласіны.

Сіверы ў твар яму вылі, свісталі,
Рыпаў мароз на падносках са сталі.
Пастку абыдзе, за ёю — другая,
Колькі наперадзе іх, не ўгадаеш!
Голле тапырыць тайга рагамі,
Не карацее дарога даўгая.

Дымам цягнула ад сёлаў таёжных...
Дзе ўжо там грэцца! —
Спяшаў падарожны.
Дзе ўжо там есці!
Падумаць страшна:
Мала прайшоў ён за дзень учарашні.
А ўжо ж, напэўна, шамкамі звоніць,
Дыхае ў карак злая пагоня.

Звер не крануў, не парваў яго ў пушчы,
Компас не зблытаў — месяц відушчы.
Кепска, калі сустракаліся людзі,—
Жартамі роспытаў іх не адбудзеш.

Вочы не спалі, сэрца трывала,
Ды ўсё шчымела, прасіла прывалу.

Крок надужаючы, недзе пад ранак
Выбіўся ён на дазор партызанаў.
Вымавіў хрыпла:
— У нас белякі...
Вейкі прыплюшчыў:
— У світцы... браткі.

Дзе — паказаў.
Параспорвалі ніткі,
Ліст прачыталі, дастаўшы са світкі.

Лапак наслалі ў зялёнай палатцы,
Спірту ўлілі:
— Маеш час адаспацца!

Але з паўдня — абвясцілі трывогу...
Вось і ўвесь сон перад новай дарогай!

Бой узгарэўся. Куляй варожай —
Першай!
быў знізаны той падарожны,
Што пакрыжоўваў, заблытваў сцяжыны,
Нібы які паляўнічы ласіны.

Як я спакой неспакойны парушу,
Як памяну тую светлую душу!

*1981*

## ПАЛАЧАНКА

Біў у званы марозны горад.
У рукі дзьмуў...
Нам падала
Дзяўчына з салаўіным горлам
Клубок з напрадзенага шкла.

У цэхах, не ў свяшчэнных месцах
Тварыўся гэты цуд...
І так,
Што не таўчэцца шкло, а тчэцца,
Мы ўсе дазналіся няўзнак.

Бліскучы, як убор на чайцы,
Яна са шкла насіла шаль...
Няўжо ж у гэтай палачанцы
Жыве прабабчына душа?

Тае, што князю Ўладзімеру
У воз падклала «гарбуза»[1].
Быў іншы дзень, не тая мера,
Другая доля і сляза.

Князёўна, трохі нам сваячка.
Род перад зводам? Гонар — прэч:
Пайшла за нелюба гардзячка,
Каб адхіліць агонь і меч.

Пайшла ў прымус, у лёс нялёгкі:
Напой рабыніча, разуй,
Ляж поруч...
Сэрца б'ецца ў локаць.
Спыні яго, аддай лязу.

Чым па драбку штодня ламацца,
Пускай за раз жыццё на злом!
І сын яе, хлапчук, за маці
На бацьку кінуўся з нажом.

Тады, сасланая ў Заслаўе,
Хоць кару князь шукаў люцей,
Без марнаслоўя, марнатраўя
Жыла ў пашане ад людзей.

Пакуль дабег да палачанак
Святлейшы ўдзел —
век трушчыў век.
Чужы чужога сек паўпанак
І свой свайго таксама сек,

---

[1] Падкласці гарбуза — адмовіць жаніху. Ад старога звычаю: у выпадку нязгоды сватам клалі гарбуз.

Што ж тычыцца галоў мужычых —
Хто імі гоняў не гнаіў!
Назад не вернеш, не пазычыш
У вечнасці —
зірнуць на іх.

Пазнаць.
Схіліцца тым, чые мы
Прапраўнукі, і покліч даць,
Каб змрок пясчаны, дол іх немы
Пачуў:
Мы сталь, а не руда.

...Я рад быў слухаць маладую
Ткачыху з сіняе Дзвіны.
Нягуста час красунь гадуе,
Дый паінакшалі яны.

Такой ужо не ўсватаць гвалтам,
Сама накіне хамута.
Як ні магуцен, як ні ўдал ты,
А пабяжыш наўскапыта.

Ёсць прыгажосці ў нашым краі,—
Умей да сэрца прыгарнуць,
І ўсё ж ткі я хлапцам нараю:
Часцей наведвайце Дзвіну!

*1981*

## НАЛІБОЦКАЯ ПУШЧА

Цёплы, абжыты зруб.
Дах лісцяны, высокі.
Так і злятае з губ —
Налібокі!

З ледавіковай імжы
Ты, мая пушча, ўстала.
Што пад табой ляжыць,
Лепей бы не ляжала.

Мечам цягнуўся кат
Сэрца тваё знявечыць.
Рваўся праз мур блакад
Ранены твой разведчык.

І адкаціўся шквал —
Не падтаптаць залатую!
Хто тут гаспадараваў,
Той тут гаспадаруе.

Сотня дзятлiных дзюб,—
Лёскат — аж пад аблокі.
Жоўтага воску дуб.
Восень у Налібоках.

Усперлася на ствалы
Неба блакітным мостам.
Падае з лістам ростань:
— Курлы!

Гэта ўсяго, што ўчуем
Дуб вартавы і я...
Горка, але віншуем:
Хай будзе добры шлях!

Перад вялікім борам,
Згублены і малы,
Асірацелы жораў
Тым, што ляцяць за мора,
Кідаю ўслед:
— Курлы!

Час прабіў — адляцелі.
Лёгка дамы мяняць:
Ім жа не браць пасцелі,
Не ў галаве сяўня.

Скінулі з крылля слоўца —
Даўні, расстайны гук...
Смутны, пад куст ядлоўца,
Ляжа стары барсук.

Мне ж з тым птушыным словам
Перабываць зіму.

Веру на сонца йму
І на капыт ласёвы.

Скрозь харашун лясны
Снег праграбе...
Травіцу
Знойдзе, і да вясны
Будзе чым перабіцца.

Веру ў вясновы гром,
Веру: не так далёка
Юшка з ляным дымком,
Дожджык у Налібоках.

Светлага хараства —
Дзіва! —
каб не адчулі.
Хто тут перадняваў,
Пэўна ж, і падначуе.

Мусіць, я аднялюб,
Скнара недальнавокі:
Дай мне абраць зямлю,
Я ўхаплю Налібокі.

*1981*

## У ДАРОГУ

Калі ты ад плыні
У твань пакіруеш,
Табе не даруюць
І сам не даруеш.

Калі ж ты намерыўся
З часу ўцячы,
Дык лепей адразу
Сябе засячы.

Разбойнік ты ёсць
Ці святая істота,—
Не будзе звароту,
Не будзе звароту!

*1981*

## ПОКЛІЧ

Лёс на многае ў свеце
                                        прыплюшчвае млявыя вочы,
А павінен
            грымець,
            у званы калаціць,
            папяліць.
Ні сабой, ні раўнёй —
                                        лёгкай доляй я не заклапочан:
Мы — дарма!
За сваё папаходжвалі, папажылі.
Плача босы дзіцёнак
                                        з парэпанай сонцам пустэльні.
Не магу памагчы і маўчаць не магу —
                                        не ўтрываць!
Гэта беднай планеты
                                        апошні наследнік, насельнік,
Хоча ўбачыць,
                              як блішча ручай, як расце сон-трава.
На пачатак нягоды б'е біла ў касмічную рэйку.
Экіпажы ў кабінах, у сховах абслуга ракет.
Лёс прачнецца вось-вось...
                                        Варухнуцца прымглёныя вейкі.
Кара блісне вачыма.
                                        Ці чуеш ты, свет?

*1981*

## ЗАЎТРА І Я

Прыме душу жытное,
Позірк — нехта з буслоў,
Голас пярэйдзе ў хвоі,
На тэлеграф ствалоў,—
І ўжо не будзе мною
Тое, што мной было.

Але не знікну разам,
Як вастрыня з ляза.
Сціплая, як са стразаў,

Ёсць за плячмі казна.
Слухайце з недаказаў,
Што я хацеў сказаць.

Можаце ўчуць затое
Свету бяззбройны дол:
Горла сваё зарою
Апаласне шчыгол,
І чабары пад роем
Добрых гудлівых пчол.

*1981*

## КУПАЛА НА ВОЛЗЕ

Зноўку Волгу нейкі чорт падпальвае,
Стэп гарыць, у твар палын гарчыць.
Нада мною — вочы развітальныя,
І рука з біклажкай на плячы.

Не сястры, не брата міласэрнага,—
Той прыйшоў, хто ў бой мяне правёў.
Даў вады, гаючае, асвернае,
Даў цяньку ад восеньскіх гаёў.

Чарку на́пал — густа горам хмелена,
Пайка хлеба — напал і яе,
Ну, а колькі куль мне ў грудзі цэліла,
Ён прыняў усе, да аднае.

Не згубіў я дотыку бацькоўскага,
З перамогай выплыўшы на плёс:
Да зялёнай вуліцы маскоўскае,
Да паэта ў сад яе данёс.

Хто на душах часу добра знаецца,
Не сыходзіць з вечнасці пастоў,
Непрыкметна дні ў вякі гартаюцца:
Сто гадоў.
А потым —
Сто па сто.

*1982*

## НАПЯРЭДАДНІ НАРАДЖЭННЯ

Можно жить, работать можно дружно.
*Ул. Маякоўскі*

Колісь размаўлялі папярэднікі —
Класік і сучаснік у Маскве,—
Потым сталі плошчамі суседнімі,
Вось і мы прыйшлі на мінскі сквер.

Ціхенька снуецца калыханка,
Росны пыл ад шызай муравы...
Дзядзька Янка?
Рана, дзядзька Янка,
З горадам вітаецеся Вы.

Як для нараджэння — завысокі.
Не, дарма. Вялікі ў рост ідзе
На вачах:
Єтупіў — і за аблокі,
Крытык хай шукае на градзе.

Вось адно...
Я б не сказаў — няўмеючы,
Тут з майстрамі гліны не жартуй,—

Апранулі Вас пад Марцінкевіча...
Колькі ж год такому халату!

Што ты зробіш?! Творчая фантазія,
Вам жа лёгка гэта зразумець:
Шчыравалі, постаць не абразілі —
Зірк відзён, Ваш крок чуцён праз медзь.

Можа, пройдзем? Помніце, як некалі
Да сясцёр Вас павяла душа.
Вузкай сцежкай, беднай падарэйкаю
Бегла магілёўская шаша.

Тут і вызваленне ў зыркай кіпені
Мінск без Вас прыняў з штыка ў байца,
І ад ча́саў тых, ад бою ў ліпені,
Цепліць абеліскі Трасцянца.

Спакушаць не буду Вас вандроўкаю
На канвеер ці на каласы.

Паднялі мы шмат, а доля — роўная.
Ваша доля ўсюды і ва ўсім.

Справам рук і думак нашых радыя,
Стаўшы на высокім рубяжы,
Мы нязграбна вершамі дакладвалі,
Вы маглі б дастойна далажыць.

Мінскім морам з хваляю няшыбкаю
Прасвятліць, прасвежыць можна зрок.
Не кажу пра аўта і падшыпнікі,
Глянулі хаця б Вы на метро.

Вунь за морам наш гадзіннік цікае —
Чуеце? Нішто сабе майстры!
А пры доме ў Вас салоўкі ціўкаюць,
Проста хоць у оперу бяры.

Лічаць спевакоў цяпер абоймамі,
Лепш салістаў па адным лічыць.
Як гавораць, пражылі паболей мы,
Ды пражыць не значыць пе, ражыць.

Творым нешта, трохі лаўры дзелячы:
Аднаму — пабольш, другому менш.
Што б шугнуць, калі на сцэне дзеячы
Класіку пускаюць пад лямеш.

Час ідзе. Мы многа перасілілі.
На пагорку выбудаван дом,
Слаўна тут гасцюецца з Расіяю,
З Пушкіным гаворым, з Кабзаром.

З намі Вы — пагодай і нягодаю —
Што ні год, глыбей кладзецца след.
Шырыцца
народная,
нязводная,
Вечная трапа —
з Радзімы ў свет.

Слова не канчаецца бяседнае,—
Золак, пачакай яшчэ, не дней.
Мусіць, пойдзем Коласа праведаем,
Што ён робіць, у яго шумней.

Дзе натоўпы ў дзверы праціскаюцца,
Хто да крам, а хто ў музычны храм,
Стаў Якуб, —
хай рынак не ўсміхаецца, —
Ён магутны пострах махлярам,
Што гандлююць словам
і чарэснямю...

Поруч — дзед Талаш і з ім Сымон —
Абдараюць горад ранняй песняю,
Што пачаў на Нёмне плытагон.

Вось бы так умець валодаць душамі,
Каб і ўвысь і ўглыбіню — да дна.
Вы — ў хадзе!
Ніхто Вас не падужае,
Пажадайце ж дужасці сынам!

*1981*

# Перамагаючы непераможнае

## *Хвіліна маўчання*

### ВЕЛІМІРУ ХЛЕБНІКАВУ,
**«старшыні земнай кулі»**

З борам расці душой
Ці па газоннай мерцы?
Сэрца не чуюць бой
Тыя, хто цалкам сэрца.

Хмарай умыюць твар,
Дасць ручніка ім золак:
І падымай папар,
Чысты разлог вясёлак.

*1981*

### МІКАЛАЮ ВАВІЛАВУ,
**акадэміку**

Раслі ў знаходках незлічоных
Гамалагічныя рады,
І творца гэтага закону
Стаяў на глобусе заўжды.

Раслін, зялёных іншаземцаў,
З усёй зямлі зазваў у дом,

Ды іх стрымаў у цёмных сенцах
Адзін нясветлы аграном.

Пайшлі...
Хто ўпрочкі — зараз вылаў! —
А хто — шукаць другой страхі.
Пайшлі, каго рагамі вілаў
Чапнулі быццам за грахі.

А век не зблудзіць у аблудзе!
Той думкі ўзяўшы навады,
Па ўсёй планеце твораць людзі
Гамалагічныя рады
Душы здабыткаў...

Пры нагодзе
Уцешна падзяліцца ўсім:
Чаго няма ў адным народзе,
Напэўна, знойдзецца ў другім.

Так і гарыць свяцільнік вечны,—
Запален раз і не пагас:
Палае розум чалавечы
Праз нас — у час і зноў — у нас.

*1981*

## МІХАІЛУ БЛЕЙМАНУ,
**кінапаэту**

Ноч мінае, нікнуць суразмоўнікі,
Клопат іх разводзіць на пасты,
Толькі Вы і я, ідзём, вандроўнікі,
З свету ў свет праз часу бор густы.
Добры голас.
Слухаю, выслухваю
Час і лёс...
Даруйце, пераб'ю:
Як шкада, за кіназавірухаю
Не паспеў сказаць, што Вас люблю.

Зычу я, з парога той няміласці,
Што і Вам згасіла бляск вачэй,
Маладым у людзі выйсці, вырасці,
Сэрцам з Вас...
А можна і вышэй.

*1979*

## НАЧНОМУ ГОСЦЮ,

**колішняму знаёмаму**

Чаго ён ходзіць?
Быццам бы благае,
Каб я што ўспомніў ці пра што забыў.
Зямля мая! Кажы хутчэй, сырая,
Чаму з цябе ўстаюць да суднае трубы?

Так — ноч у ноч.
Стаіць каля парога,
Блішчаць гадоў і славы касмылі.
А мне прысніць бы тога, маладога,
У светлы час, калі мы ўсе былі
Падлеткамі, а потым юнакамі...
Пачаўшы век, спяшаючы расці,
Як лёгка спалася!
Не гнёў на плечы камень,
Што, мусіць, горб намуляў у жыцці
І выціскае з жвіру. •

Не!
Не падымаўся ў вырай
Яшчэ ніхто прысыпаны пяском
І сам дзвярэй не адчыняў у дом.

А ён — ідзе...
Як быццам зноў благае,
Каб я што ўспомніў ці пра што забыў.
Зямля мая!
Пільней глядзі, сырая,
Каго ўзяла, пільнуй да суднае трубы.

*1976*

## ЖЫХАРУ НЬЮ-ЙОРКА,
**невядомаму**

Хто б ні дабіў — ці рак, ці лёс,
З начы прыйшоў, вяртай да ночы.
Пад марш кладуцца ў сіняпёс
Людапрадаўца і даносчык.

І гэткі ж самы рытуал
Спраўляюць над магілай поруч
Таго, чый розум ратаваў
І хворы свет і колас хворы.

*1968*
*Арлінгтонскія могілкі*

## НАДВЯЧОРАК

Кожны дзень бяжым, складаем планы,
І ў прыпар турбот, як незнарок,
Шумам хвой паведуць Бараўляны,
Шызы невылечны халадок.

Поруч ходзяць шчасце і напасці,
Колькі б ты даброт ні нараджаў,
Пакладуць, калі пара пакласці,
Без нажа або пасля нажа.

Золак мой, няўжо ты звечарыўся!
Быццам з хмары, мокрыя гракі
Сыплюцца ў асінавае лісце,
Цяжкія, як гліны камякі.

## ДАМОЎ

Ад сясцёр,
Міласэрных братоў
Забяры мяне, божа, дамоў!

Не зважаю, ці быў ты, ці ёсць,—
Недагледзеў на небе, аднак:
Я прыйшоў, як няклі̇каны госць,
Ды зажыўся на свеце няўзнак.

Вось як зойдзецца сэрца ў крыві,
Хоць бяры і самохаць парві
Нітку дзён маіх, кончык малы,
Што застаўся ля самай іглы.

## ХВІЛІНА РОЗДУМУ

Жыццё — на спад...
Парасцярушваў,
Што ад радні меў у сяўні.
Не зазірнуў людзям у душы,
А ім свае не расчыніў.

Праз мітусню прагненняў дробных —
Стаць на святло, ступіць ямчэй! —
Застаўся непраросшым подзвіг
І крок не бачным для вачэй.

Навошта жыў, чаго прыходзіў?
Кілішак піў і скварку еў...
Майстроў на гэта —
аж па годзе,
І кожны — леў, хоць стаў у хлеў.

Паволі гаснуць недагаркі,
Жыццё наўзбоч пайшло, відаць.
Нячэпаныя стынуць скваркі,
Кілішкі поўныя стаяць.

Было ж сяброўак-аднаднёвак,
Было ж сяброў, шкада, не тых...
Вось так яно, без падмалёвак
Пад нейкі густ, пад танны рыхт.

## З ВАЕННЫХ ВЯТРОЎ

Дзень абветрае над палянай,
Дзе, параненьі, я ўпаду.
І, каб кроў не забіла з раны,
Імя матчына прыкладу.
Прыўздымуся, з тугою гляну:
Добры край мой, мой светлы дом!
І, навекі замоўкшы, стану
Ціхім воблакам над кастром.

## ПРАДЧУВАННЕ

Я сасніў дубовы крыж,
Свежы крыж у голым полі.
Каля наспы ты стаіш
І вятрак. Нікога болей.

Пырхнуў жаўранак з нябёс,
Сеў і ў дзюбцы песню студзіць.
Як каму намераў лёс —
Не адбудзе, не прыбудзе.

Чалавек быў. Дрэвам стаў.
Твар змяніў. Забыў трывогі.
Рукі крыжам распрастаў
Напаўкроку, аднаногі.

Шчабятнуў, падбег спявак
Віць гняздзечка пры магіле.
Часу жорсткага вятрак
Памаленьку зрушыў крылле.

Пачало карэнне траў
Дол аплетаць, браць на просвы,
Ды я столькі паміраў,
Што як-небудзь зноў васкросну.

Вось хіба, калі мой кут
Дасць на змену спеў гучнейшы,—
Стану помнікам пакут
І далёкіх і тутэйшых.

## РАЗВІТАЛЬНАЕ СЛОВА СЯБРУ

1

Адчуваеш: поблізу цягаецца
Ведзьма касавокая з касой,
Падпільнуе недзе перад раніцай
І духі заціcне... Вось і ўсё.

Злоснікі, вядома, будуць радыя:
«Ну, нарэшце, дуба даў стары!»
Па якому закапаць разраду,—
Пабягуць параіцца сябры.

Потым загс адпусціць шчодрым росчыркам
Тры аршыны роднае зямлі.
Скупавата мераеце, хлопчыкі,
Мы ж для вас паўсвету здабылі.

Тут пачнуць — ужо наперад ведаеш! —
Біць у грудзі, памяць абяцаць...
Гэтую нясмешную камедыю
Ад пачатку бачыш да канца.

Трохі пройдуць вуліцамі, плошчамі
Ды на грузавік — абы хутчэй!
Так вось і залічаць у нябожчыкі,
Можа, найжывейшага з людзей.

Лёсы не жылі з табой у злагадзе,
Войны выціскалі пот і кроў,
Нават слова, што з маленства дадзена,
Прашаптаў, да гуку не давёў.

Ці не шмат гаворак для знябытага!
Выбачайце, мусіць, перабраў!
Ты ж і сам такое самакрытыкі,
Каб не хвор, дальбог бы, не стрываў.

2

Аб'яднанымі намаганнямі
І мікробаў, і дактароў,
Перахвалены,
недаганены,
Выціскаешся ў земны схоў.

Надарыў цябе бог жанчынаю,
Толькі веку даць не ўгадаў:
І забраць яе — немагчыма!
І пакінуць яе — шкада!

Стаіце: дзве гары гаручыя,
Дакранешся — агніска б'е.
І з табой яна горка мучыцца,
І наплачацца без цябе.

3

Па зямлі нахадзіўся,
Паўзіраўся на неба,
Да крыніц прылажыўся,
Наспытваўся хлеба,
І ўжо блізка дарога,
Дзе не трэба нічога:
Ні хваін санцабокіх,
Ні дзяўчат сінявокіх.

Не журыся, мой дружа,
Над смутным канцом!
Страпяніся і мужна
Лясні ў свет кулаком:
Трэба, як яшчэ трэба!
Скіба смачнага хлеба,
Стужка яснага неба,
Шум хваін санцабокіх,
Смех дзяўчат сінявокіх!

## ПАЯДЫНАК

Не дваццаць год, пад гром гармат,
Рыпеў злавесны вочап,
Апошні раз, паўдня назад
Глядзеў я смерці ў вочы.

Скрывіўшы ўбок бяззубы рот,
Прыйшла ва ўсеўзбраенні,
Дастала сэрца праз рабро
І зашчаміла ў жмені.

Я клікнуў вецер, жыта, гром,
Мы ў твар ёй пазіраем,—

Чый будзе верх?
Затросся дом,
Грыміць дзвярмі старая.

Знікае...
Грозіць па даўгі
Вярнуцца без адкладу.
Ну, што ж!
Ці сам скручу рагі,
Ці людзі знойдуць раду.

## МАЛОДШЫМ СЯБРАМ

Нехта ўжаліцца: заўтра, можа,
Не падымемся...
Што за дыхт!
Смерць не ў страх мне, а падарожжа,
Толькі б голас мой не аціх.

Як на вежы цяжкі гадзіннік
Кліча звонам падзей узлёт,

Хай бы слова маё хадзіла,
Не ўпыняючыся, з роду ў род.

Пераведвала, абуджала,
Падымала, у свет вяло...

Як мне гэтага не ставала,
Хоць бы з вас каму прыбыло.

*1960—1980*

## *Чатырохрадкоўі*

* * *

Нам любы покліч хмельнай весняй брагі.
Прыслухайся да ўладнай прагі —
жыць!
Яна гучыць натхнёна
Ў нас, і ў клёнах,
І ў крыку перапёлкі на мяжы.

* * *

Істота благае:
На Поўдзень!
На Поўдзень!
А розум наўкола глядзіць праз магічнае шкелка,
Паверне на Поўнач, як соладка душу ні пойце,
Калі туды свеціць суровае ісціны стрэлка.

* * *

Калі са мною цераз стол
Нячутна чокнулася песня,—
Бор зашумеў, дыхнуў прастор
І ў цёплым доме стала цесна.

* * *

Любіў рабіць, умеў змагацца,
Пра гэта памяць не міне.
Народ мой — рыцар цяжкай працы,
Так напісалі да мяне.

* * *

Я з тым жыву!
Яшчэ задоўга,
Як роўным стаць у строй байцоў,
Свой стаж —
у горнах і лядоўнях —
Па волі партыі прайшоў.

* * *

Жыццё ідзе,
Няспынны час:
І сіла ў нас,
І праўда ў нас.

* * *

Дакрануўся нядбала — узяў і пабіў...
Што казаць, вінават —
не навучаны дбаласці.
На руках не насіў, але гэтак любіў,
Што снягі раставалі, вярба развівалася.

* * *

Рэчы падаюць, валяцца з рук.
Раз за разам вастрэй адчуваю,
Што ён кажа, бязлітасны рух,
Той, што хутка адсюль адбывае.

* * *

Коні капытамі вуліцу насеклі.
Вецер колкай беллю твар абцярушыў.
Раптам — стала светла,
і ў завейным пекле
Бліснулі праз хмары зорак спарышы.

*1970—1980*

# Па дарогах Купалы

Пакідаў гняздо бусел,
Свае пожні і сосны...
*Янка Купала*

* * *

Скрычаліся, просячы рады, гудкі,
І зарыва мкне, абганяючы думкі...
А кнігі глядзяць і сяброў падарункі,
І клічуць пачатыя чарнавікі.

Ён грозіць бамбёжцы:
— Нічога, нябога! —

Зірнуў на гадзіннік:
— Гатовы ў дарогу?

— А клункі? — спытала Бянігна з парога.
Купала бярэ са стала алаўкі:
— Хоць самі б у сані...
Каб як у Ляўкі.

— Я дому прыгледжу...
— Што думаць аб ім!
Не будзем старцамі, заробіцца нешта...
Бянігна упарта стаіць на сваім:
— Навошта старую мяне павязеш ты!

— Адну не пакіну...
— Гаворыш дарма!
Ты сядзь каля маці, ўкусі чаго-небудзь,
Сунічкі ўдаліся, варыла сама...
Дай божа, каб мы не жадны былі хлебу.

— Чакае машына...
— Не з гэткіх я пань,
Усе не пасядзем, дый вы ж ненадоўга...

А шлях не на дзень быў...
З Масквы на Казань,
У цёмныя ночы бяссоння над Волгай.

— Паедзем жа, мамка! —
Да шчок хвартушок
Яна прыціскае:
— Я — клопат нявелькі...
І больш не кажы, не прасі, Янучок.
Чаго я за свет? Мне бліжэй у зямельку.
Цярпелі мы з ёю, яшчэ пацярплю...

І змоўкла...
Становіцца ён на калені,
Цалуе руку і цалуе зямлю,
Прымаючы матчына блаславенне.

Ізноў, засланяючы сына сабой,
Адна застаецца ў пакінутай хаце
З адвечнаю,
                многавяковай тугой,
Адвечная,
                многавяковая маці.

І ўжо не галіны шумяць з-за акон,
А тлум галасоў,ператвораны ў попел...
І полымя, крыкі і слёзы вакол
У душу ўліліся да кроплі, да кроплі.

Народжана жыць і павінна гарэць
І сэрца, як слова, і слова, як сэрца,
Няхай на апошняй мяжы разарвецца —
На бок перад ім адступаецца смерць!

Ён едзе за Мінскам. Бярозы стаяць,
Ад полымя твар засланіўшы, ад болю.

Бянігна прыперлася ў браме з тапаляй,
Не чуе, не бачыць,— сама не свая,—
Паветра дзяўбаюць злавесныя птахі,
Нячысцікі быццам спраўляюць гульню...
З каменных плячэй
                гмахі
                        ссоўваюць дахі
І нікнуць пад зыркай заслонай агню.

Гарачы вятрыска хусціну зрывае,
Упрочкі з дамоўкі пажар выганяе...
За сынам, на шлях! Паспяшае ўдвая,
Нясе яна жару гаршчок у прыполе,
Пад вецер становіцца, сыпле вуголле,
І плача, і паліць няжатае поле
Купалава маці, старая жняя.

* * *

А Орша дрыжыць пад агнём з пераправ,
Дзе хваля ледзь-ледзь галаву падымала...
Па жоўтых прыступках сышоў да Дняпра,
Прысеў і задумаўся...
Горна Купалу...

Уночы прыехаў, не спаў даўдна...
Бунтуецца плынь прад сухімі вачыма:
І тут ужо злыбеда-дзеўка —
вайна
Свой доўгі, распусны падол замачыла.

І крокі...
Пазнаў, пагукаў бы здалёк,
Ды сэрца нібыта заціснулі ў лубе.
Рвануўся насустрач:
— Адтуль, Каласок?
Здалі?
Падымім, пагаруем, Якубе.—

Нагнуўся, зачэрпаў пяску на далонь,
На дол ручаінка бяжыць залатая...
Напэўна, вось так, за аблонню аблонь,
Радзімы зямля ад яго адплывае!

Адныімі губамі:
— Цярусіцца жвір
На века труны мне...—
Суровее Колас,
Смутнее:

— А ты, сіраціна, жыві![1]
Прыждаўшы зіміцы, мы станем на полаз...—
Па беразе дрот сувязіст пацягнуў,
У садзе акопы капае пяхота.
Купала зірнуў:
— Запыняюць вайну...
І нам бы пара да яе на работу.—

Байца абдымае, адвітвае сад,
Пруточак рабіны, разгатую грушку...
Забраць бы ў сувой трапяткі далягляд,
Разлогі і пушчы ў Дняпро абгарнуўшы.

Нашто тое што!
Калі ён ува ўсім
І ўсё гэта ў ім неадлучна, навечна —
Садок, гадаваны пры доме сваім,
І сад, што падрос у душы чалавечай.

Падступіць чужынец — усходзіцца гром,
Вада перасохне ў крыніцах багатых,
І пырснуць зярняты свінцовым дажджом,
І яблык у жмені ўзарвецца гранатай.

* * *

Дзеці, фурманкі...
У бежанства зноў
Едзе Купала.
І бачыць Купала —
Сіняе войска расцвіўшых званкоў
Выйшла з лугоў.
І яно адступала!
Сінія хвалі і злева, і справа...
Жонцы азваўся:
— Зірні, Ўладзіслава! —

[1] Радок Я. Купалы.

А ўжо званочкі звіняць, як званы:
— Ты на каго гэта нас пакідаеш? —
...З бомбамі ў дзюбах ляцяць груганы.
Кветкі ўміраюць, а звон —
не сціхае!

Водгулле — следам.
Мацней і мацней
Звоняць званочкі — трываць немагчыма!
Як на адправу, склікаюць людзей.
Стала і плачам зайшлася жанчына.

Стаў і Купала.
Без шапкі, з кійком.
Як пераступіш? — Мяжа Беларусі!
Цешыць:
— Сястрыца, ты вернешся ў дом! —
Думцы ж трывожна:
— А сам я вярнуся?

* * *

Пазіраючы з гмахаў высокіх,
Ніў прасторамі, плынямі рэк
Гаварыў з намі заўтрашні век.
Пры яго карабельных вытоках,
Рады працай,
жыў той чалавек,
Без каго б заспяваць не маглі
Ані ўцехі свае, ні тугі.

Як на золку, у чэрвеньскі дзень,
На мяжы загрымелі гарматы,
І сыпнулі чужыя салдаты,
Несучы за плячмі па бядзе,—
Адвітаўшыся з роднаю хатай,
Падняліся на трубы вайны
Беларускай краіны сыны.

У цывільным, яшчэ не ў зялёным,
З трохлінейкамі на рамянях,

Пачалі небрукаваны шлях
У калоны,
пасля ў эшалоны,
А пасля ў курганы на франтах.
Гэткім часам падаўся за свет —
Першы з першых — народны паэт.

За гармату, натужачы плечы,
Як за плуг, стаў работнік палёў,
З ім рабілі, хто з кузняў прыйшоў,—
З гэтых рук подзвіг рос чалавечы.
Ступіш побач і — трапіў дамоў,
Стане светла... За громам, за дымам
Цэлы свет... І завецца — Радзіма!

Гэткі зрок са́ма ў час набылі —
Франтавымі байцамі, ляснымі,—
Калі ісціны, што прапіснымі
Сталі зараз, тады ажылі,
І ў атакі мы рушылі з імі.
Іх калісьці, з нябойных дарог,
Наш падняў Чалавек.
Гэты — мог.

Браўся прыцемак сіні, калі
Мне знаёмая ў трубку сказала:
«Слухай, зараз прыехаў Купала...
Дзе? Ў «Маскве»...
І прасіў, каб прыйшлі».
Гэта хоць бы каго ўсхвалявала:
Толькі-толькі абнашчыўся лёсам —
Зноў блуканне жане на калёсы.

А ў Маскве стала пуста навокал.
Прыхаваўся пад вулічны брук
Чалавечы ўстрывожаны рух.
Небяспека заштор̃вала вокны
Па загаду, дакладна ў пару.
І Купала глядзеў у Ахотны,
Першы раз на бяседзе — самотны.

Ён далёка...
Хай дыхае ў твар
Дробны клопат:
гараж і прапіска,

А ён чуе ўсё віскат над Мінскам,
Бомбаў выбухі, енкі ахвяр,
Бачыць горад, засыпаны прыскам...
І да скону, відаць,
не забыць
Слоў шчымлівых, ягонай журбы:

«Слепіць зноў ліхалецце імжою,
Край раўняе вайны барана,
Бічам скуру дзяруць са сцягна
Акупанты...
Пад царскай рукою
Роднай мовай маглі хоць стагнаць.
Праўда, ўпотай, дый то калі збоку
Не сачыла належнае вока.

О, не спеўнай, лагоднай струной
У наступных сугуччах зайдуся,
Не!
Нязнаны ваяк з Беларусі,
Я парушу вякоў супакой,
З акрываўленым сцягам варвуся,
Пажыццёвы прымаючы бой,
Каб народ не ўмываўся крывёй.

Сцеражыся разменьваць святло,
Нават маючы цэлае сонца...»
Ён устаў.
«Ураздроб, на чырвонцы,
Толькі пусціш — было і сплыло,
Патанула, як блешня ў палонцы.
І хоць сонца нялёгка прыдбаць,
Трэба цалкам яго аддаваць.

Дык палем свае сонцы, палем!
Хто з якім нарадзіўся:
жывыя,
Знепакоеныя, зіхаткія,
Гневам поўныя супраць ярэм».
Змоўк. Як быццам шукаў агнявыя
Словы,
каб на цяжкім перавозе
На шляхі пасвяціць перамозе.

Вольным гоманам хвоек высокіх[1]
Нам шумеў непакораны край.
Я ўжо ў войску...
«Ваюй, не гуляй,
Каб ні духу брыды той, ні кроку! —
Наказаў мне, бацькоўскі «бывай»
Даў на ростань...
Ды сэрца Купалы
Поруч білася, не пакідала.

Як шугала праменнем яно!
З Падмаскоўя, з пагоркаў казанскіх
Падкідала агонь партызанскі
У кастры беларускіх сыноў.
Хлопцы білі па кодле паганскім
І, сціскаючы горла навале,
З грозных пелюсцяў край вырывалі.

* * *

Ходзіць Купала: акно і парог.
Столік,
званочкі не стоўпяцца ў слоік.
Першы,
направа ад сходаў,
пакоік,
Той,
дзе любіў працаваць,
нумарок.

Лёс гэты, час гэты ўсё збунтаваў!
Зноўку на меч перакута арала,
Льюцца паводкі агню і металу,—
Тут і юнак ці міне перавал...

А на стале, як тады на шашы,
Звоняць званочкі...
Яны пад бамбёжкай

---

[1] Радок Я. Купалы.

Беглі, кульгалі на збітыя ножкі,
Следам за ім, за патокай машын.

Сінія...
Выбеглі на курганы...
Вочы зямлі...
Пазірае, сырая!
Вочы дзядоў яго праз дзірваны,
Сінім зацвіўшы, маўчком дакараюць.

Ходзіць Купала: чатыры сцяны...
Толькі ўсяго — пасля цэлага краю!

З'ехаць куды... Падалей ад муроў.
Не, чаго добрага, ўвяжуцца сведкі...
Ставіць віно, накрывае сурвэткай,
Зараз пакліча на раду сяброў.

Як для вайны — ніштаваты прыпас,
Можна б згуляць і вяселле Паўлінкі...
Раптам спыніўся:
— А можа, памінкі? —
І зазлаваў:
— Не на час амбарас! —

Думкі раяцца, патрэбен чакан...
Стаў над паперамі пры этажэрцы:
Звонам звініць, пакідаючы сэрца,
Чысты, высокі запеў «Партызан».

* * *

Загаварыў ён, смуткуючы, курачы:
— Роўныя слёзы — што ў Слуцку, што ў
Суражы.

Літа і піта ўжо горычы ўволю,
Чутка за чуткаю сунецца ў двор:
Гэты забіты, а той вунь памёр,—
А ён — жывенькі! Пагульвае воін,
Весел і дуж, як з вады градавое.

Загадзя смуткамі не ахінайцеся,
З дзейкамі-чуткамі лепш размінайцеся.

Так і мяне пагалоска хавала —
Згінуў хлапец на другі дзень вайны,
Лётчык, мой цёзка... Было гаманы:
Чутка сказала — разбіўся Купала.

Калі аплакан,— дацягнеш да старасці,
Значыць, з Дняпром яшчэ зробім па чарачцы! —

Сумна сябрам і самому нявесела,—
Іскры жартоўнай не высекла крэсіва...
Як жа там, дома? Вастрэй яшчэ ўспомнілі...

— Што ж у вас, хлопцы, кілішкі няпоўныя?
Каб не паслаблі, не прытупелі,
Вып'ем за шаблі ды партупеі.—

Змоўк і глядзіць на сяброў, выпрабоўвае,—
Не адгукаецца слоўца жартоўнае.
Мусіць, на жорсткіх дарогах абветрала...
Ён пачынае тады запаветнае:

— Кроіла сэрца, ці сэрца жывіла,
Лепш не пытайцеся ў песні мае...
Калі пачнеш, а дружбак запяе,—
Песня твая пераступіць магілу.—

Падаюць гулкія кроплі маўчання...
Ён падышоў на паўкрок да расстання:

— Кроў аддай, але ты не ў страце,
Толькі б слову было ў радку,
Як дзіцяці,
На ўлонні маці
Закалыханаму ў цяньку.

* * *

Рэдзенькі лес, паўгадзіны прывалу,
Зводку чытае пад елкай баец.
Цераз плячо заглядаю:
Купала!

Не!
Гэта воку святла не стае.

Чорная рамка армейскай газеты.
Рэзкі, набліжаны болем партрэт.
Паведамленне аб смерці паэта,
А хіба можа памерці паэт?

Каб жа гукнулі, хоць думкай паклікалі,
Што небяспекай дыхнула на спеў,
Я б падхапіў вас, Іван Дамінікавіч,
Я ж бы і з фронту дабегчы паспеў.

Хай бы лічылі тады дэзерцірам,
Я ж не ад танкаў падаўся назад!
Штандараносца са смертнага выраю
Адратаваўшы, не вінен салдат.

Але ж не горшыя хлопцы стаялі
Поруч з бядою... Душу б аддалі,
Каб не пакінуў ён нас на купалле,
Не пастаяўшы на роднай зямлі.

Не благаславіўшы ні сэрца, ні зброі,
Не адказаўшы нікому пяра,
Тога, агністага,
вырваў якое
З вечнасці крылаў рукой песняра.

Выйшаў на сходы — за мараю ўгору!
Ён уявіў за вайной, за бядой
Ўсю Беларусь, неаб'ятну, як мора[1],—
Рушыў насустрач і раптам — на дол!

Мёртвай пятлёй, калі лучыць пілот
Сіняе неба з крывавым палеткам,
Стаўся ягоны апошні ўзыход,
Страшны палёт па-над лесвічнай клеткай.

---

[1] Радок Я. Купалы.

* * *

Вырвуся з болю,
суцішу заплачкі,
За далягляды сягну і зірну:
Варта сяброў...
У жалобе спявачка
Польныя кветкі кладзе на труну.

Сінія...
Сёстры тым сінім,
з радзімы,
Што ўсё званілі, не моўклі ў душы,
Што пазіралі краіны вачыма,
Не адарваўшыся з мінскай шашы.

Нібы прарочылі страшнае дзіва,—
Гора адно не прыходзіць у дом...
Трэба ж, як сталася!
Той жа гадзінай,
Тым жа спякотлівым чэрвеньскім днём,

Разам абоіх жвіры прыгарнулі,
Хлеб напалам і жыццё напалам:
Не пераўжыў ні на хвілю матулю,
Маці яго пераўжыць не магла.

З мутнай слязою падступнага жалю
Танную хва́лу над маці лілі
Тыя, што сыну дабра не жадалі
Ні на зямлі, ні спакою ў зямлі.

А партызанка, што ўпотай Купалу
Воддаль кахала,
з таполі яго
Беднай нябожчыцы лісцік сарвала,
Горад згарэў —
не было больш чаго.

Ператужыўшы пры тых дамавінах,
Іншая маці — мая і твая —
Салютавала на рэйках краіна
Сыну, што паліць пабедны маяк.

Ён у дарозе, выходзіць на строму,
Сочыць, як досвіткі цепліць народ,

І па кастрах партызанскіх
дадому
Значыць шчаслівы і хуткі зварот.

Чуеш, салдаце? Гарматы павезлі.
Пражэктары скрыжавалі мячы.
Штандараносец войскаў паэзіі
Перад палкамі.
І сцяг на плячы.

* * *

Як толькі аціхнуць марозы
І пойдзе грымець крыгаход —
Над шпаркай ракою Бярозай
Знаёмы гукне параход.

Я з Мінска, з праспекта Купалы
Убачу, пачую здалёк
Тугія зялёныя хвалі
І доўгі зазыўны гудок.

Вандроўка —
Як радасна гэта!
Хвіліна, не болей, на збор.
І вось, нібы ў дом да паэта,
Па сходцах ступаю на борт.

Плывём у расцвіўшае вецце,
Нясе, падымае вада,
І хораша сэрцу жывецца,
І воку далёка відаць.

Тужэй падпяражуць абшары
Пояс надбярэжных бароў,
Ужо не за хваляй, за марай
«Купала» ідзе на Дняпро.

І тут грамада маладая
Рукою аблок дастае,

Купалавы вершы чытае,
Купалавы песні пяе.

І дома гараць і за светам
Высвечваюць, як маякі,
І новыя словы паэтам,
І новыя рэкам шляхі.

* * *

Поруч быў, а стаў, мае сябры,
Звонкай песняй, грознай бліскавіцай,
Белым параходам на Дняпры,
Самай спеўнай вуліцай сталіцы.

Станьце ў ратны шэраг, песняры!

*1962—1968*

Каб стаў наўкола стэп сухі.
Аўсы, не могучы дыхнуць,
Далоні на грудзях складуць,
Кусцістая пшаніца
Пажоўкне, зляжа ніцма...
Каб Сухавей з вачамі быў,
Ніколі б гэтак не зрабіў!
На Сухавей ідзі вайной!
Лесаахоўнай паласой
У часе паабводзь палі,
Каб там і яблыні цвілі,
Расла акацыя, бружмель,
Раскашаваўся пышны хмель.
Няхай на варту стане дуб,
Падняўшы кучаравы чуб:
Ён можа, ён умее
Збіць пыху Сухавею.

Калі дыхне мядком з садоў,
Павее квеценню з лугоў,
Дык ведай: там ад рання
На працу стаў Мядзвянік.
Ён знае абавязак* свой,
Нясе пылок ад хвой да хвой,
З расліны на расліну,
З травіны на травіну,
Каб завязалі завязь
Антонаўка і вішня.

Мядзвянік гоніць заедзь
З жывёліны увішна,
Калі ж сустрэнецца з пчалой,
Ён дапамогу дасць малой,
Пад крыльца падтрымае,
Пот з рыльца абдзімае:
— Ляці хутчэй
У свой вулéй,
Назбірвай мёд
На цэлы год.

Каб шмат нажаць, раней пасей,
Закінь зярняты проста ў глей.
А як жа ступіш на разлог,

А як жа выбеліш нарог?
Вада стаіць...
Чакай пары,
Бо ў полі грузнуць трактары.

Вось тут ляціць праз далягляд
Упраўны вецер Вадахват,
Шумлівы, белабрысы,
Матне шырозным крыссем —
На ўзгорках пасушэе,
У долах патўжэе,
І зататахкае матор,
І пара ўздымецца з разор,
І ляжа чорным хібам
Адгорнутая скіба.
Як брыгадзір, паважны грак
За дзень натупаецца ўсмак:
Ідзе за сіненькім дымком,
Барозны мерае крылом,
Чарвям рыхтуе згубу
І чхае на ўсю дзюбу.

Апошні вецер Пераност —
Не вельмі пэўны мае ўзрост,
Не дзед, аднак не маладзён,
Парадак вельмі любіць ён.
Прыхільны да прыхатніх спраў,
Усюды мёў бы, падчышчаў:
Устане, ўспорацца чуць свет,
Лісты з дарог зграбе ў кювет,
Паабмятае крыллем
Ад пылу чарнабыльнік,
Бярозавы гасцінец
Завесіць павуціннем,
Каб сонцу, што да нас прыйшло,
Уцешна, хораша было.

Паводле гутарак старых,
Быў чалавек ён, а ў вятры
Патрапіў за ахвоту
Да розных чутак-сплётак:
Пачуе што — памчаў, панёс,
Таму й празваны Пераност.
Калі пачне ён завываць,

Гаворaць, можна разабраць,
Чым устрывожан шчыры бор,
Дзе абзываецца тапор,
Што жораў кнігаўцы сказаў,
Што бусел чаплі клекатаў.
Хто чым дыхнуў, хто чым жыве,
Раскажа гэты ветравей.

Гадаць не будзем, так ці не,
Гаворкі зараз не ў цане,
Прыслухвайся, хто не глухі...

А Пераност ужо другі
Знайшоў сабе занятак
У лесе і пры хатах:
Натросшы ў клёнаў і ялін
Зярнят крылатых з верхавін,
Нясе за трыдзевяць зямель,
У пухкую кладзе пасцель.
Каб адужалі дрэўцы,
Каб цешыліся сэрцы,
Калі там зашуміць здалёк
Зялёны хвойнік ці гаёк.

## ЧЫМ СКОНЧЫЛАСЯ ГЭТА ДЗІЎНАЯ СУСТРЭЧА

Доўга Міхалка пісаў. Самлела,
Моцна зайшлася ў яго рука.
Самы старэйшы і самы белы
Мароз прамаўляе да хлапчука:

— Заключым умову, Міхалка Бабок!
Будзем жыць згодна з табой, галубок.
Калі мы ўздумаем дзьмуць і марозіць...
Зараз падскочаць сюды Вятры

І папярэдзяць вас аб пагрозе,
Падкажуць надвор'е тваёй сястры.

— Вельмі дзякую за турботу!
А ці не час вам, дзядзькі, за работу? —
Насця зайшла.
Усхапіліся госці.
Быццам збянтэжыліся чагосьці
Вятры кудлатыя,
Снягі пухнатыя,
Дажджы цыбатыя.

Кажа дзяўчына:
— Я ведаць вас ведаю,
А не здаралася стрэць за бяседаю.
Вы, Маразы, не зрабілі масты,
Не ўмацавалі як след балаты,
Нельга стагі перавезці на фермы,
Дзякуй не скажа жывёла цяпер вам.

Вось і Снягі сабе бібікі б'юць,
Кураць па хатах, на працу не йдуць.
Людзі шчыты пастаўлялі на полі,
Каб затрымаць вас,
Мець вільгаці ўволю.
Лес для будоўляў ляжыць напілованы,
А да чыгункі шляхі не тралёваны —
Снегу няма...
Я пытаю ў Вятроў:
Можа, падгоніце вы гультаёў?
Метэастанцыя зводку зладжыла:
«Будзе мароз немаленькае сілы...»
Мы абвясцілі, а дзе ж той мароз?

Тут абазваўся віхор Пераное:
— Не пачынай ты, дзяўчына, з дакораў,
Трохі нам крыўда, трохі нам сорам.
Справа сюды прывяла такая:
Нешта зводкі твае кульгаюць.
«Сягоння — дождж!» — абвяшчае радыё,
А сонца небам бясхмарным радуе.
«Дзень без ападкаў!» — грыміць перадача.
А дзень той з раніцы слёзна плача.

— Не трэба пазніцца, прыходзьце ў часе,—
Так Пераносу гаворыць Насця.—
Нашто ганарыцца: мы, бачыш, стыхіі!
У чалавека рукі даўгія,
А ў нашых людзей асабліва дужыя:
Ужо спадарожнік зямлю абкружвае,
Паслалі ракету мы ў той прастор,
Куды не падымецца з вас ніхто.
Яшчэ гадок —
і ўзляцім на Месяц,
Тады не будзеце куламесіць:
Знізу і зверху пачнём загадваць,
Каб вы працавалі дружней, брыгадамі —
Вецер з дажджом,
а мароз са снегам.
Улегцы не будзе ніводзін бегаць,
А хто не захоча зводкі трымацца,
Пазбавім адразу права на працу.

На гэтым і скончылася размова...
На месяца пайшлі
Маразы суровыя,
Вятры кудлатыя,
Снягі пухнатыя,
Дажджы цыбатыя.

Пайшлі таксама, правёўшы насланцаў,
Міхалка ў школу, а Насця —
на станцыю.

## ХТО РОБІЦЬ ПАГОДУ

На станцыі дзяўчына
З блакітнымі вачыма,
З даўжэзнаю касою,
Харошая сабою,

Камандуе дажджамі,
Сябруе са снягамі,
А на вятры наводзіць страх —
У Насці тэхніка ў руках!

У неба пусціць шар-пілот
І вызначае ветру ход,
Барометра бліскучы дыск
Пакажа ёй паветра ціск,
Тэмпературу добра
Запісвае тэрмограф.
Дзяўчыне служыць вельмі шмат
Прыбораў дзіўных і прылад.

Яна прасочыць рух аблок,
У глебе змерае цяпло,
Увечары і ўранні
Запіша назіранні,
Дзе ўсхватваюцца хмары,
Адкуль чакаць прыпару
З агністай небяспекай
Для працы чалавека.

Чакаюць вестак аграном,
Пілот,
          вадзіцель за рулём,
У белым кіцелі марак,
Вучоны,
          школьнік
                    і рыбак:
— Давайце неадкладна,
Ды каб было дакладна!
Бо трэба знаць
                    і трэба ўмець,
Каго, калі і як сустрэць.

У Насці шмат сябровак,
Бялявых, чарнабровых,
А ў тых сябровак ёсць сябры,
Усе — бывалыя майстры,
Яны-то зладзіць здужаюць
З вятроў шкадлівых ружаю,
Патайныя іх плыні
Прыкмецяць і запыняць.

Пасты хлапцоў,
                    пасты дзяўчат
Абнялі вартай далягляд,
Пагоду ўдзень і ўночы
І робяць,
            і прарочаць.
Яны сягоння ўсёй зямлі
Шырока вестку падалі:
— Ідзе Вясна! Ідзе Вясна!
Усе ўставайце давідна!

*1959*

# Хада ў часе

## ВЯРНУСЯ ВЕТРАМ

Калі паглыне мяне шлях няблізкі
У край курганаў і абеліскаў,
Адбіць навалу над родным домам
Вярнуся громам.
А звянуць травы, асмягнуць вусны,—
Дажджом вярнуся.

Калі ж нашчадкам не будзе трэба
Ні збройны выбух, ні бохан хлеба,
У час іх зорны, час запаветны
Вярнуся ветрам.
Калі дзе знойдзем, слязу асушым,
Калі прыгаслі, раздзьмуем душы.

Нідзе не дзенуся з Беларусі,
Кім пажадаю, тым і вярнуся,—
Жыло, жыве і жыць застанецца
Тут маё сэрца!

*1985*

## НАВАГОДНІЯ НАТАТКІ

1

Нарадзіўся гадок...
                    Прыгарні
І ў цяпло — выграецца няхай:
У ім завязь на доўгія дні,
Лісце ў ім... А калі яшчэ май!

Вось як стане на ногі, надзень
Лёгкі плашч і ў лясы выпускай,
І з пупышак, дзе тоіцца дзень,
Першай стрэлкі зялёнай чакай.

2

Рве лісток за лістком каляндар,
А падымеш — з паперчыны той
Рыне ў свет, абзавецца пажар,
Задыміць над тваёю душой.

Вязкі смуткаў, бярэмы трывог
На плячах, на руках у зямлі.
Чалавек так па-д'ябальску ўлёг,
Каб яго ў небыццё загнялі.

Ды навалам не ўстаць, не раўці,
Падганяю работу сваю
І заместа юнацкіх шасці
У чатыры гадзіны ўстаю.

3

Наша справа — грыміць ні грыміць —
Кроч,— ад праўды не збочвай ані.
Стрэнеш радасць, усмешкай прымі
І слязіны слязой не міні.

Узгараецца ў лямпе святло,
Сон дагледжан, бяжыць ад вачэй,
Узлятае на аркуш далонь,
І чуцён маразок між плячэй.

Тут на ўсё хутка будзе адказ,
Нездарма даражэй за жыццё
Першы міг нараджэння радка,
Першы крок у душы настаццё.

*1984*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег!
Пакруціцца і падае...
Рупіць воку на нябіты шлях.
Можа, прабяжымся за прысадамі
З кажушком юнацтва на плячах.

Ты яшчэ да белі не прывучаны,
Паглядзі ў прымружку, з-пад рукі,—
Белым-бела высветлілі Случчыну
Белым-белыя беразакі.

Як яны гайдаюцца, зыбаюцца,
Сцелючы зіму на паплавах!
...Смутак абазвацца не забавіўся,
Што і ў нас пад снегам галава.

*1984*

## ЗАКЛІКАННЕ МАРОЗУ

Новы год, а дождж ідзе,
Новы год, а халепа:
У мароза ў барадзе
Жоўтыя падпаліны.

Як жа, бедны чалавек,
З гэтым я абвыкнуся?

Снег!
Каб стаў паўней засек,
З хмар на руні высыпся.
Маразок!
Мацуй лядок,
Каб, як люстра, выкуўся.

І мне з коўзанкі тае
Радасць немаленькая.
Часу, шкода, не стае,
Ён адмеран жменькаю.

Я з усімі дзень пасу,
Быць люблю з малодшымі,
Хто пільнуецца красунь,
Кліча ў ранне змокшае:
— Дзеду! Чарачку падсунь,
Не сядзі наводшыбе.

*1984*

## ТРЫЗНЕННЕ

Спалатнеў за месяц, пахудаў.
Снег ляціць, завея кліча ў двор ісці.
Стаў каля акна...
Ды не, відаць!..
На плячах дрыготка млявай хворасці.

Трызніцца гарачай галаве:
З лёгкіх змрокаў, літаральна [redacted] інею
Сфармаваўся снежны чалавек,
Паўстрашыдла, літаральна сіняе.

Шапку абабіў, падняў каўнер
І растаў сярод натоўпу ў горадзе.
...Хворы бачыць цень свой на акне,
Высвечаны снежаньскімі ўзорамі.

*1984*

# ОДА ЗОРЦЫ КАНОПУС[1]

Ці спяваюць пеўні ў інкубатарах
Так, як задзіракі-таптуны,
Што ад Беларусі да экватара
Тры разы на ноч былі чутны.

Колькі іхніх спеваў папаслухаў я!
Сэрцу гэтак хораша было
Падпяваць, калі пад завірухаю
Моцна спала ўсё маё сяло.

Наўкруга заслона змрокаў цягнецца,
Ні агню, ні полаза нідзе,
А ўсё роўна падганяюць раніцу
Певуны. І ноч на схіл ідзе.

Незнаёмую з гадзіннікам, з машынаю,
Па якой адлічваць можна час,
Што змушае галаву птушыную
Загарлаць апоўначы якраз.

Круціцца сямейка надпланетная...
У сузор'і Кіль, між іншых зор,
Ёсць Канопус-зорка, пракаветная,
Вось яна і будзіць пеўняў хор.

Як жыве, адна ці, можа, паркаю.
Не дазнаўся. Здолеў адшукаць:
Каб паліць святло такое яркасці,
Трэба нашых сонцаў тысяч пяць.

Гэтакай валодаючы сілаю,—
Зоркі ў нас, дарэчы, не відно —
Не адну натхняе птушку мілую,—
Цэлыя краіны певуноў.

Толькі ўздымецца ў гадзіну звычную,
У прасторы гляне навакол,

---

[1] Па бліскучасці Канопус — альфа ў сузор'і Кіль — другая пасля Сірыуса. Узыходзіць апоўначы, і гэта абвяшчаюць пеўні.

І зямля заграе пераклічкаю
Грабяністых дужых спевакоў.

Я чапаю часы старажытныя.
Што рабіць! І помню, і люблю:
З песняй певуна амаль забытаю
Запрашаю ранак на зямлю.

Не таму, каб нараскязваць казачак,
Я з дасвецця ўзяўся за пяро,
Я пішу, адказваць абавязаны
Перад чалавекам і парой.

Многа летаў, праз адсутнасць пеўніка,
З вераб'ямі разам я ўстаю...
Нешта на пакошах, на іржэўніках
Непрыветна стала, не ўтаю.

Вісне гром ракетны за пагоркамі,
А душа яшчэ пажыць жадна́.
О зямля! Няўжо ты станеш зоркаю,
На якой ні нас, ні певуна.

Не хачу такога развітаннейка!
Трэба ўсім падбаць, адвагу мець.
Людзі, паўставайце раным-ранелька,
Людзі, засыпайце жвірам смерць!

Толькі б не заспаць, а стаць на глобусе!
Пазіраю ў неба зноў і зноў
І прашу далёкую Канопус я
Абудзіць у часе певуноў.

*1984*

## СПАВЯДАЛЬНАЕ СЛОВА

Ёсць бабры і бабры:
Найкаштоўнейшы — з лёгкай сівінкай.
Ёсць сябры і сябры:

Найдарожшы — з душой,
не замкнутай у душным прыскрынку.
Чуе сум твой без жальбы
і радасць тваю прадчувае,
Што пад снегам расце,
цягне вус дзераза баравая.

Ты стаіш на шляху,
Пакідаючы родныя ганкі,
Светлы, слабы крыху,
Нібы ў свет завітаў на світанку,
Але ты абдарованы
Дружбай такою мужчынскай,
Што ў расстанні з дубровамі
Чуеш —
шумяць яны блізка.

Сэрцы вечных сяброў
не адлучаны ў ростані ровам,
Да такіх я звяртаю
сваё спавядальнае слова.

Выбачайце, сябры,
што збыткуюся болей, чым трэба,
П'ю з лясных ручаёў,
з кубка перадсвітальнага неба.
П'ю з разводдзя пшаніц
і са спеўнага шчэбету птаства...
Не судзіце, сябры, за такое маё выпівацтва.

Хто са мною сівеў
і хто цвет развінуў на выросце,
Не шкадуйце, сябры,
падліваць мне пітва, маладосці.
Я прымаю ў сябе,
падрыхтуйся прыняць, пераемнік,
Усю шчодрую сілу прастораў
зямных і надземных.

За здароўе планеты!
Каб вечна свяцілі ёй вочы,—
Мой святочны глыток,
хай ёй будзе для ўсіх уратоўчы.

*1984*

## ПТУШКІ І ДУМКІ

Лясныя птушкі мне ляцяць насустрач.
Я пазнаю шчыглоў і канаплянак.
Яны калісьці, у маленстве цёплым,
Займалі паўсцяны пад абразамі,
У клетках драцяных, пры самых вокнах.

Спявалі рана, і спявалі ўвечар,
І раптам — сціхлі... Быццам бы прачулі,
Што ў іх тандэнтным і непрафесійным
Майстэрстве
ёсць найноўшыя вышыні.

А знаўцы добрых песень разважалі:
— Вось так бы людзям! Набылі б адвагу,
Пачуўшы новы спеў, у часе змоўкнуць,
Ці, паднавіўшы ўмельства, абазвацца,
Або навек у цёмны кут забіцца,
Маўчаць і слухаць там, без зайздрасці і жалю,
Спеў маладых, гарляк пасеребрыўшых,
Харалы сталых, поўных спеўнай сілы.

Што ж, знаўцы — знаўцамі, іх трэба слухаць.

Тым часам птушкі моўчкі сумавалі.
Мне нараканні чуліся: навошта
Карміць, паіць і песціць марнатраўца,
Калі ён стаў ніякі не спява́ка.

Я вокны расчыніў у дзень вясновы:
— Шчасліва! Можа, знойдзецца крыніца,
Якая вам ажывіць звонкі голас.
Як пырхнулі яны, як узвіліся!
Умомант зніклі, быццам след маланкі
Ці пошчак па-над морскаю сінечай...
Спяшаліся, відаць, хутчэй навучыцца
Таму, што вабіла іх, лепшым падалося.

Праз нейкі час — зіма. Захаладала...
Вярнуліся да родных стрэшак птушкі,
Знябытыя, кранулі шыбу дзюбкай,
А самі мелі выгляд незайздросны.
Напэўна, колькі ні цягнулі гамаў,

Ніхто не палічыў іх за салістаў,
Не даў вады і не пасыпаў зерня.

Ну, як не пашкадуеш небаракаў!
Дружылі ж некалі, хвалілі ранкі.
Ляціце ў дом!
Тут пакрысе, у выгодзе,
Яны адважыліся, сталі ціха ціўкаць,
Настройваць галасы...
І заспявалі,
Зашчабяталі зноў, і зноў па-свойску,
Не выробляючы каленцаў навамодных,
А так, як у гняздзечку чулі ў маці.

Пасля дарог, ужо ў прыстойным веку
Мне думаецца: я тады не птушак
Не здолеў утрымаць каля сябе, а думкі,
Свае, народжаныя ўласным сэрцам.
Я не ўмеў
Іх падахвоціць заспяваць па-свойму
І ў вырай выпусціў без дай прычыны.

Вось і дасюль дратуе цяжкі клопат,
Ці на карысць нам перавучваць душы
Па тым, на што зірнуўшы знізу ўгору,
Уявіш ты нязвыклыя абшары,
Дзе павін хвост дзівосы распусцілі
І слепяць, рассыпаючы бліпічынкі?
А можа, лепш пільней зірнуць наўкола
На ўсё, што сэрцу руціць неадольна
Ад першых дзён, калі ў цябе ўваходзіць
І дым кастра, і мілы голас маці
Мацуецца ў грудзях, каб разрасціся,
Адтуль у свет выходзячы, дарункам
І людзям, як самому, найдарожшым.

Так зможаш аднавіць крок прадзеда і бацькі,
Плач сястрыных дзяцей і локаць дужых,
З кім ваявалі разам і не разам —
Сяброў, братоў, каханых, аднадумцаў,—
Што папрыходзілі і не прыйшлі дадому,
Крыві не шкадаваўшы за Радзіму.
Падымеш гэта — будзеш мець пашану,
Відзён у славе станеш пажыццёва.

Зайздросны лёс! I ўсё ж глядзіце ўгору!
Там космас, што зямлю і ўсё жывое
Трымае ў даланях. Там — вее вецер,
Нясе надвор'е з мораў-акіянаў,
Там — на вяршаллі песню звіў салоўка,
Там — у надзем'і мудрасць сочаць зоры.

Глядзіце! Уздымайце вочы ўгору,
Там — сонца: першаспеў і спеў астатні.

*1984*

## І НЕ ДУМАЙ, ВАЙНА!

— Добры час! Да сустрэчы! —
Сябры мне гукалі.
Чым ён мае стаць добры —
ніхто з іх не знаў,
Іх назаўтра саміх правялі на вакзале,
Дзе мяне на вайну выпраўляла вайна.

Зноў сягоння яна вельмі поблізу ходзіць,
Маскіруючы прорвы нявінна ў траве,
Падбівае Зямлю пакаўзнуцца на лёдзе
Ручая, што з-пад сэрца людскога плыве.

Кроў на свеце не ветрае — пляма на пляме! —
Паднаўляецца свежаю на дзірванах.
Наша вострая памяць апраўлена ў камень,—
І не думай, вайна, разаб'ешся, вайна.

Ты — адна і адна, нас жа — многа-а-многа,
Хоць ва ўсіх нас жыццё, як ні сумна, адно,
Але хопіць — агонь адагнаць ад парога,
За якім я жыву і ваюю з вайной.

*1984*

# Вясновыя прыкметы

## ПЕРШАЯ ТРАВІНА

Дзякуй хмары, што дождж вядзе!
Пэўна, ўдача мая, няйначай:
Чуе тлум неглухіх людзей,
Нехта плача, папраўдзе плача.

А ці плач гэта? Сакавік
Так не ўмее. Наўзбоч сцяжыны,
Нібы ўкопаны, чаравік
Стаў, дашукваючыся прычыны.

Плачуць тыя, хто змёрз і змок,
Што на бруку жыць не прывыклі.
Гэта — пробуе галасок
Малады валасок травінкі.

Дзякуй хмары, што дождж прайшоў,
У камені прамыў дупліну,
Каб падняў над сабой рышток
Толькі вылюдзелую зяліну.

Не жартуйце з яе турбот,
Паспрабуйце расці ў граніце.
Калі ласка, шаноўны бот,
Не краніцеся, не стапчыце.

## БЯРОЗА
## Ў САКАВІКУ

Хоць не вельмі малады,
З нахілам да прозы,
Не забыў я праз гады
Пазнаваць бярозы.
Ведаў я, на мой парог
Ступіць без падману,
А прыйшла яна — не мог
Надзівіцца — занач!
Без аздоб і без акрас
Выстраена чыста:
Белым-белая кара
З прадчуваннем лісту.
П'е святло, святлу жадна,
Промень грае ў воку.
Падстаўляй збанок, вясна,
Паспытаем соку!

## ХАЛАДОК ПАЎЗЕ
## ПА ГУБАХ

Сакавік — тумановы пах,
Плюскат кропель, сыходзіць крыга.
Цяжка боўтаецца ў збанах
Падмарожаная адліга.

...Халадок паўзе па губах...

Пад бярозай стаіць гладыш,
Не бярыся адно рукамі!
Толькі зводдалек паглядзіш,—
Ужо ён цябе не пускае.

...Халадок паўзе па губах...

А глынеш з таго гладыша,
Сам тады адысці не можаш:
Поўніць з верхам яго пяршак,
Па мацунку — ратуй нас, божа!

...Халадок паўзе па губах...

Быццам з неба струмень паплыў!
Не пазычанае ў вінаградзіны,
Не адкрадзенае ў пчалы
Добрым дрэвам пітво пададзена.

...Халадок паўзе па губах...

Сок налета пальецца зноў,
На вясновым паветры цэджаны,
Нагадае пра дружбакоў
На адседзінах, на адлежынах.

...Халадок паўзе па губах...

Слаўна жыць з табой, светлы гай,
Як на свята, ў цябе пабелка...
Папівай сабе, запявай:
«Ад панядзелка да панядзелка...»

...Халадок паўзе па губах...

Як ад нядзелі да панядзелка
Добрага хлопца любіла дзеўка.

А з панядзелка і да аўторка
Спала на возе ў прышлага чорта.

Аўторак стрэціўся з серадою,
Стала ўжо ў дзеўкі каханых трое.

Каваль чарнявы, кравец бялявы
І цесля ў кудзерах, чуць гугнявы.

Гэтак было да другой нядзелькі,
Рана зірнулі: няма той дзеўкі.

Павёў да млына, павёў па ржышчы
Млынар з рудзезнаю барадзішчай.

І зноў з нядзелі да панядзелка
Добрага хлопца любіла дзеўка.

...Халадок паўзе па губах...

*1984*

# ЗВАНОК
# У «НЕАДКЛАДНУЮ ДАПАМОГУ»

**доктару П. П. Каралевічу**

Калі Вы не з казкі каралевіч,
А славуты ўрач — буджу ўначы:
Захварэў Валодзя Караткевіч,
Я не маю чым дапамагчы.

Захапіце лекаў жыццядайных:
Кісларод, укол, пасля другі...
Доктар, нам патрэбна надзвычайна
З ім пайсці ў вясновыя лугі.

Мерзне сэрца ў высакосным годзе,
Ціш трывожыць грукатам сваім.
Стойце, схамяніцеся, Валодзя,
Я вас не пускаю назусім.

Хутка лісцем выблісінуць галіны,
Рушым у надрэчныя гайкі.
З вамі проста, вы такі адзіны,
З роду тых, што ходзяць напрасткі.

Нам не прарасці, як зерню ў лунцы,—
Вечны сон пад сола на трубе.
Немагчыма траціць аднадумцаў,
Ды яшчэ малодшых за сябе.

Паспяшайце, доктар Каралевіч,
Хоць крыло прыладзьце на плячы:
Моцна абнядужаў Караткевіч,
Нельга аддаваць яго начы.

*Сакавік, 1984*

## КАРАВАЙ УДАЧЫ

Прысніўся мне дзівачны сон
І ўміг на друзачкі пабіўся.
Я зразумеў, што значыць ён,
Хоць знік раптоўна, як з'явіўся.

Аднекуль, з глыбіні зямлі,
Халодныя, нібы ў галёшах,
Стварэнні гідкія паўзлі,
Што сняцца быццам бы на грошы.

Хацеў схапіць які ражон,
Але пастукала надзея,
Душа ачулася: няўжо
На нешта я забагацею?

Ад нараджэння малавер
У забабоны і прыкметы,
Што ў дом не прыбыло папер,
Не надта я тужыў аб гэтым.

І так прыходзіць хлеб на стол,
На плечы ёсць ускінуць штосьці,
А на сяброў, хоць і не гол,
Быў багацейшы ў маладосці.

Купюры — што? Цана ім грош!
Ці больш, ці менш — душа не дбала.
Было б ёй жыць намнога горш,
Каб смелых душ не прыбывала.

Яны ўздымаюцца, ідуць,—
Каб ведаць, ці шырока ў кроку,
Парупся: іхнюю хаду
У думцы ўзваж, прыкінь на вока.

І ўдзень і ўночы здабывай
Задум і слоў поўнагалоссе.
Румяны ўдачы каравай
І сны дармова не прыносяць.

*1984*

## ПАД ДОЖДЖ

Зранку сонца выглядаеш,
Як вясновы грак на дроце.
Завітаў бы хоць таварыш,
Каб не ныць у адзіноце.

Пакурылі б, пасядзелі,
Гора перагаравалі,
Можа б, чокнулі з надзеяй
За абсохшых промняў хвалю.

Хмурны дзень, і вечар хмурны,
Снег з імжой напераменку...
...Звон у дзверы: два раздуры —
Дай ім нейкую спартсменку!

*1984*

## СЛОВА І СПРАВА

Каб слову дарасці да справы,
Хрыбта ў паклонах не трудзі.
Адбі грудзьмі на праўду права
І барані яго грудзьмі.

*1984*

## ХІБА ЗАСЛУГА

Чаго крычаць: зрабіў дабро?
А гэта што? Хіба заслуга,
Калі не даў у крыўду друга,
А ворагу даў пад рабро?

*1984*

## ХЛЕБ — СЭРЦАЎ СЫН

Успомні, калі хлеб сухі не есца,
Як навучала маці хлапчука:
Хлеб — сэрцаў сын,
ён і бліжэй да сэрца:
Яго трымае левая рука.

*1984*

## НАРОД

Па ранішняй завядзёнцы,
Шматпарасткавы і адзіны,
Буджу шматлікія сонцы
Агромністае радзімы.

Дзе промні яе пасвецяць,
Абнашчаныя дажджамі,
Жывы ўраджай налецця
У сэрцах людскіх дужае.

Сыны мае веславалі,
Сыны мае ў бой хадзілі
Насуперак злой навале,
Насупар ліхой гадзіне
Рабілі, што ў іхняй сіле,
Не змружваючы павек,
А ўнукі і ўнукаў дзеці
Дагледзяць сваё налецце.

І гэтак будзе павек.

*1984*

## ПАЭТЫ
## І БАГІ

Падумай пра людзей,
Каму патрэбны вершы?
Як шматгаловы змей,
На ўзлёт гатовы «першынг».

А вершам трэба час,
Як на будоўлі вапна.
Багі вайны гурчаць
І шчэрацць храпы сквапна.

Ды бачыць мы маглі,
Калі ў нябыту хвалі
То падалі багі,
То зноўку выдыбалі.

Крок з правае нагі
Загадваў бог пярэдні,
Па тулаву даўгі,
Па розуму сярэдні.

Пасля ўздымаўся лыч
Другога небаракі,
Што ростам быў малы,
А розумам ніякі.

Багі вайны гурчаць,
І ў тым няма сакрэту,—
Каля майго пляча
Паблісквающь ракеты.

Зямля наўкол гарыць,
Кроў точыцца па зрэб'і,
А ў свету на кастры
Не тлее песні срэбра.

Усмешка праслізне
Ад ісціны бясспрэчнай:
Багі вайны гразней,
Паэты — даўгавечней!

Іх вершы век жылі
І жыць не прыставалі,
І ўсіх багоў зямлі
Надзейна адпявалі.

*1984*

## ХЛЕБ ЛЯТУНКАЎ

Была душа, лічы, падлечана,
І я, з палону дум штодзённых,
Павёў яе на бераг вечара,—
Хай добра вышуміцца ў клёнах.

Галіны, як рагі ласіныя,
Нёс гай, набела маляваны,
Глядзела рунь вачыма сінімі,
Свяціла з росаў без падману.

Вясны, няўстрашанай завеямі,
Дзень абяцаў спусціцца з неба,
І быў я моцна абнадзеены,
Надзелены лятункаў хлебам.

*1983*

## АДНА ЎСМЕШКА

Цэлы год турбот прабыў,
І прыемных і нікчэмных,
Плуг цягаў, як вол рабы,
Ды не сеяў — рэй дарэмны!

Не ўратую ледакол,
Хоць бы меншае што-небудзь,

Каб святлей было наўкол,
Каб цішэй трымаўся нелюдзь.
Зганіў я свой троп жыцця,
А калі, пад зімні лівень,
Стрэла ўсмешкаю дзіця,
Я адчуў, што год — шчаслівы.

*1983*

## ЗЯЗЮЛЯ І ЯЕ ДЗЕТКІ

Вы ўсе, напэўна, чулі,
Дзе-небудзь у гайку,
Як на суку зязюля
Выспеўвае:
«Ку-ку».

Нібыта і нядрэнна
Пяе,
        ды ў песні той
Хоць бы адно калена,
Хоць бы які паўтон.

Калі яна злічае
Нам колькасць зім і лет,
Усё наўкол знікае,—
Маўчыць птушыны свет.

У пушчы запаветнай
І духу не падай,
Каб як спявачцы гэтай
Не паказаць гнязда.

Суседзям у гняздзечка,
Калі дзе адляцяць,
Падкладвае яечка:
Гадуйце мне дзіця!

Худнеюць, галадуюць,
Стараюцца жывіць:
Шкада душу жывую,
Хоць і другой крыві.

Зірнеш на бедных птушак,—
Тапырыць пер'е жах:
Не нанасіцца мушак,
Каб як наеўся птах:

Пярэсты ад пялёнак,
Лупаты, як шчаня,
Нахабны зязюлёнак,
Чужое птушаня.

Выкідвае памалу
З гнязда другіх дзяцей
І сварыцца на маму:
Тлусцей насі чарвей.

А часцяком бывае:
Адчуўшы моц крыла,
Бацькоў павыціскае
З іх роднага жытла.

Далёка не заморак,
Пры шпорах і пяры,
Не хоча дом агорнаць,—
Так, кажа, бог стварыў.

Кукуе сын зязюлін
На ўвесь птушыны дом,
Работаю не змулян,
З няструджаным крылом.

Яму ў лясным завуллі
Жыць можна без турбот
І ўсё адно зязюліць
Ужо каторы год.

...Сяджу ў рыбацкай будцы
На беразе Дзвіны.
Ці тут яны вядуцца,
Зязюліны сыны?

Падумаў я...
                    А з дрэва
Упала на раку,
Да плачу і да спеву
Падобнае:
«Ку-ку!»

Жывое ўсё люблю я:
Сінічку і вала,
Любіў бы і зязюлю,
Калі б гняздо віла.

Ды ад бяды такое
Не дзенешся нідзе:
Не можа племя тое
Жыць у сваім гняздзе.

Ці птушкі ў гэтым вінны?
Чаму ж адной між траў
«Зязюльчыны слязіны»
Народ найменне даў?

Даўнейшае паданне
Паспела расказаць,
Што ў горкім кукаванні
Хаваецца сляза.

І каб яна травіцай
На ўзлессі не ўзышла,
Птушыных слёз крыніца
Паўсвету б заліла.

Не пачынай жа звады
І памяць не глумі...

Вучуся мець спагаду
Да маці без сям'і.

*1984*

## АДВЯЧОРАК

Сонцам
Апечаны
Далягляд.
З донцам
У вечар
Уверчаны
Сад.

Збоку
На сподку
Смаловых
Далін,
Лёгкі,
Дрыготкі,
Пунсовы
Разліў.

Месяц
У змроку
Дарогу
Заняў.

Весці
Здалёку
Трывогай
Звіняць.

...Ці не падманная ты, цішыня?

*1983*

## АПОШНІ БАРАВІК

Восеньскі, каляровы,
А з відавоку знік:
Сцелюць над ім дубровы
Тканы з лістоў ручнік.

Сумны, перадзімовы,
Чуць жураўліны крык.

Я ж так здалёку ехаў...
Дзякуй,
Не ашукаў!
Вызірнуў з-пад арэха-
вага лістка.

І загукала рэха
Па жоўтых беразаках.

Рады лясному цуду,
Як сонцу пасля дажджу,
Буду блукаць усюды,
Можа, чаго дажду.

Каб не было аблуды,
Лесу я дагаджу.

Я адсюль не паеду,
Слаўна тут зімаваць!
Зноў папрашуся ў дзеда
Разам леснікаваць.

Любіць стары бяседу,—
Светлая галава.

Буду штовечар слухаць,
Як ён рабіў краўцом,
Высербаўшы заціруху,
Ласавацца блінцом.

Пойдзем пад завіруху
З руні ганяць зайцоў.

Потым, пры свежым хлебе,
Пры смажанай дзічыне́,
Будзем гадаць, як лепей
Крылле падсеч вайне,—

А як яна аслепне,
Стане наўкол відней.

Зараз — вайна з ваўкамі,
Трэба ямчэй цаляць...
Лес шуміць, не змаўкае,
Падае снег з галля.

Мы жураваў чакаем,
Добрай вясны, зямля!

*1984*

## ДА ЭПОХІ

— Трэ было ж нам з эпохаю
Гэткаю падружыць! —
Хрысцяцца і палохаюць
Скласці жыццё ў лаўжы.

Так пра планету рупіцца
Можна хіба на злосць.
Круціцца? Хай пакруціцца,
Колькі трымае вось.

Пэўна, ў дружбе са светамі
Стануць пяскі радзіць...
Што ж саймаваць ракетамі?
Лепей іх не рабіць!

Бліснуць — не ўчуць, што горача.
З нетраў ліне руда.
Ні птушкі табе, ні дворышча,
Над закіпелым морышчам
Рэха ўздыхне бадай.

Смутна — так гінуць мутарна,
Крохкія мы ў жыцці,
Ды паспрабуй да камп'ютэра
З безвачы той дайсці!

Толькі ўжо стала эраю
Эпоха вялікіх душ,
Я ў цябе, светлая, верую,
Вер і ў маю хаду.

*1984*

## ТРЭЦІ ЛЁС

Бадай што ўсё сваё жыццё
У доўг бярэ і без аддачы:
То строіць жарцікі, то плача,
То грае, хоць і не спрыцён.

Хоць бы сумеўся чалавек!
Як так: бяздумна, бесклапотна,
За раз пратраціць незваротна
Скарб, дадзены на цэлы век.

Нашто, каму плаціць даўгі,
Работу абяцаць пры гэтым?
Няхай лепш клічуць пустацветам...
Вось лёс адзін...

А вось — другі:
Ісці павольна дзень пры дні,
Глядзець, брывом не варухнуўшы,
Па нейчым горы не ўздыхнуўшы,
Лятункі грэць аб вышыні
І апраўляць партрэт пад шкло...

Але ж — не ахнеш і не войкнеш —
На шчасце сáма зробіш стойку,
Зірнеш: ажно жыццё прайшло!

Як ні высока стаў, праз міг
Хіснешся незнарок, сарвешся,
І хоць бы хто ўдыхнуў па рэшце,
Па жменьцы выстанкаў тваіх.

Што ж больш павабна для вачэй,
Каторы лёс? Я — не дарадца.
Напэўна, трэці выбірайце,
Плячо падстаўце, дзе цяжэй.

*1984*

## ДЗЕВЯТЫ ВАЛ

> У парку, супраць Белага дома, дэманстранты ўткнулі 539 белых крыжыкаў па ліку амерыканцаў, што загінулі за апошнія гады ад голаду і холаду.
>
> *З газет*

На сотнях пахілых крыжыкаў
Распяты парк Лафайет
У памяць тых, што не выжылі —
Са свету звёў недаед.

А край да вачэй забрындаўся
У ядзерны шал і гвалт.
Панове, вам не абрыдала
Разгойдваць дзевяты вал!

Дакоціцца ж усё роўна ён
Пад слынны белы бярлог,—
Бясхатніка, беспрацоўнага
Затрубіць прадзбройны рог.

Не знойдзецца ў скалах шчылінкі,—
Патопы размыюць спрэс:
Што там Эмпайр Стэйт білдзінгі,
Ліфтуйце на Эверэст!

Парадаю не парадую,
Да каяння не схілю,—
Праўдаю, чэрствай праўдаю
Можна ўзбудзіць зямлю.

Каб золата больш не шэйгалі
Для ўранавага ручва,
Хай бы хто кшталтам Рэйгана
У парку паначаваў,

Расстаўшыся з афіцынаю,
Пазнаўшы, што значыць пост,
Прыкрыўшыся афіцыйнаю
Газеткай «Вашынгтон пост».

Калі напродае дрыжыкаў
І пеклу аддасць духі,
Напэўна, хто-небудзь крыжыкам
Адзначыць яго грахі.

*1984*

## НЕВЫГОЙНАЯ ПЛЯМА

Узляцеў з твайго берага
Першы выбух, той самы...
На ўвесь твар твой, Амерыка,—
Невыгойная пляма.

Небыццё Хірасіміна,
Зыркі жар Нагасакі...
Чалавецтва засілена,
Зборы трубяць ваякі.

Сцежка чорная, грузкая...
Век не выгаіць сонца
Кроў зямлі беларускае,
Боль краіны японца.

*1984*

* * *

Спуджаныя вясной,
Льюцца снягі з пагоркаў,
Шэранькіх туманоў
Зыбаецца пераборка.

Слова падперазаў
Шляхам — пара як быццам!

Толькі б усё сказаць,
З праўдай не рассварыцца,
Каб і мая тваёй
Стала ў любой нягодзе...

Хлеб, перш чым стаць сабой,
Доўга ў дзяжы падходзіць.

*11.87*

## ЗБАНОК НАДЗЕІ

Зямлі палоска вузкая — ні ўперад, ні назад,
З нябёсаў лёсуваліцца на плечы мне брызант.
А ўслед за ім, рыкаючы, ужо ляціць другі, —
Ні развітацца з богам, ні заплаціць даўгі.
Калі ён разрываецца над галавой, брызант,
Каму на што пажаліцца, каму пра што сказаць.
Але наліха жаліцца, і сам я шмат магу,
Знайду таго наводчыка, сагну яго ў дугу.
Ён болей за наводку не будзе сыт і п'ян,
А я людзям паўнютка наллю надзеі збан.

*1985*

## ВАКОН НЕ ГАСІЦЬ ДОМ

Ніяк за морам нелюдзі не ўрымсцяцца:
— Раз бомба ёсць, шпурляй яе, шпурляй!
І скрозь па свеце лазяць папы рымскія,
Як ні ўпірайся, пхаюць проста ў рай.

Ці чута дзе, каб нават вельмі хвораму
На смерць кашулю нехта прымяраў?
Адлезьце вы з такімі прыгаворамі,
Маўляў, адна прыемнасць — паміраць.

Зачэпіце, ну што ж, тады не кайцеся.
Слуп на мяжы, вакон не гасіць дом.
У там-той рай лепш самі пабірайцеся,
А мы ўжо тут як-небудзь пражывём.

*1984*

# Маладыя ўспаміны

## НЕЗВАРОТНАЕ

...А верас бег да небакраю,
У сінім паху прыбываў.
Хмялела ўжо немаладая,
Як маладая, галава.

Крок наўздагон,— як пад прымусам,
Не ўсё забылася яшчэ,
Ды не чакалі вусны вуснаў,
І вочы беглі ад вачэй.

*1984*

## Я ТАБУН СЦЕРАГУ

*(З народнага)*

Я табун сцерагу,
А у ім сто галоў
Маладых, завадскіх
Вараненькіх сяброў.

Ад відна да відна
Лета косіць і жне,
І канца не відаць
Залатой збажыне.

Ранні вецер, не вей,
Ты, зара, не спяшай,
Удваіх пры агні
Нам насе́дзецца дай.

Я дзяўчыну, красу,
Майго сэрца вясну,
Вунь на тым вараным
У свой дом-павязу.

*1945—1984*

## МАРНАЕ ЧАКАННЕ

Шчыміць самота нечаканая...
Падняўся ў дом, сышоў далоў,
А не знайшоў свайго кахання я,
Нічога ў свеце не знайшоў.

Цяпер гадай, куды ад'ехала,
Вадой за ветрам адплыло,
І ўсёй уцехі мне, што некалі
Вось тут было, вось тут жыло.

*1984*

## ЛЯСНЫ КАСЦЁР

Нейк у гонар твой
І душы маёй
Танцаваў агонь
У глушы лясной.

А вясёлы ж быў,
Нібы ў ладкі біў,
І, праз ноч відзён,
Сыпаў іскры ён.

Раптам стала днець,
Стала ты ў відне
З галавы да ног,
Як раўня вясне.

Дзе ж яно было,
Як яно ўсплыло?
Сонцава крыло
Мой агонь змяло.

І ад траў-віюх,
Што раслі наўкруг,
Павяло цябе
На світальны луг.

Ды не ты адна —
Да таго відна
За табою ўслед
Рушыла сасна.

Вышуміць з-пад хмар
Ясны сонца твар,
Вып'е рос пітва,
Колькі дасць абшар.

Што кастры? Яны —
Сонцавы сыны.
Людзі з даўніх дзён
Сонцу больш жадны.

Але зноў і зноў
Я сядзець гатоў
Каля ўсіх кастроў
З гаманой сяброў,

Шмат і сам палю,
Рад агонь галлю,
Толькі да цябе
Кроку не ступлю.

Можа, самой як-небудзь заманецца...

*1985*

## У 30-Я ГАДЫ

*(З даўніх накідаў)*

Мы вячэралі на вакзале з амсціслаўскім паэтам,
Елі нейкую рыбу, з чаргой і буфетнаю спрэчкай,
І ў кіно напаткалі дзяўчыну, па прозвішчы Гетман,
Быў пры ёй драбнячок, скрозь вядомы,
у імпартным нечым.
Бегла сцежка святла, нібы вывеў прамень кіназорку
У фае з палатна.
Губы ўслед зашапталі:
«Красуня!»

А я ўбачыў:
Касцёр,
Адвячорак
І жыта на ўзгорку.
Гурт хлапцоў і дзяўчат.
Гэты воблік, пацягнуты сумам,
Быццам даўні абраз...

Больш такое красы не сустрэнеш,
Каб жыла на зямлі,
можа,
толькі мастак адштукуе.
І бяседа прыціхла,
няйначай прадчула здарэнне,—
Абазваўся абраз той:
«А як гэта жыта красуе?»
На мяне паглядзела, нібыта ў мяне паглядзела,
Загадала амаль:
«І ляшчыну яшчэ пакажыце».
Паднялася яна, аблачына ў дзявочым адзенні,
Мы пайшлі,
Сталі бегчы мы.
І задыхнуліся ў жыце.

Агарнула яно так, што мелася выскачыць сэрца,
А я нешта казаў, забаўляў,
як сястрычку малую:
«Колас можна сарваць,
цвет дазвання ў далонях абцерці,
А сагрэй пад адзежаю, каліва зноў закрасуе».

Дзве сцяблiны ўзяла,
абабiла красу i — на грудзi...

Цераз момант:
«Па горле паўзуць! — закрычала:
— Згарнi iх!»

Я стаў блiзка.
Хай гром, хай залева!
Хай будзе, што будзе...

Даў абраз мне адказ:
вусны горкiя, вельмi жывыя.

Пэўна, раз на зямлю,
насмяяцца, сыходзяць багiнi,

А да iхнiх нябёсаў —
сягай нi сягай — не дастанеш.

Не было мае ўдачы: раздаў завушнiцы ляшчыннiк
I над намi шумець не хацеў лапушнымi лiстамi.

Твар дзяўчыны яснеў:
размываўся абраз старадаўнi.

Стрэчны ясень пагладзiла,
весела стала наспеўваць,

А дайшлi да кастра, папрасiла:
«Напiцца падай мне».

I ўзяла пад руку,
у каго не прачнулася б рэўнасць!

А нядбалы юнак, той, каму рыхтавалiся восцi,
За цянёк i прытулак усмешлiва дзякаваў хвойцы
I тулiў дзеўчанё
з хвойнай глiцай у змятай зачосцы,
Як i я, выпадковае тут, на вясновай маёўцы.

Тут — гульня ў трэцi-лiшнi...
Ды, мусiць, усё непапраўна.

Засмылеў пацалунак,
што ў жыце знянацку быў вырван.

На аблiчча дзяўчыне вяртаўся выраз старадаўнi,
Толькi шчокi збялелыя плямiла здрадная чырвань.

Закiпаючы зайздрасцю, ў горад за намi падаўся
Драбнячок...
Ён цвяроза цураўся юнацкiх аблудаў,
Ды за гэту дзяўчыну
гатоў быў на хрыстапрадаўства,

А цяпер, у кіно, ззяў,
нібыта пазначаны цудам.
Гэта памяць ляжала ў душы
і не стукала ў рэбры.
Зарасло, ўтравянела калішняй трывогі дварышча.
Нам не сесці ўдваіх,
на дваіх не накроіць нам хлеба
З пахам жытняга поля...
Ад лёсу нічога не сышчаш.
Дождж крапіў і сціхаў, у завулках, здавалася, плакаў,
Марасіў мокрым шэптам на вуха:
«Мінулася, досыць!»
Пад ліхтарнямі лісце мігцела, як жоўтыя лапы,
Быццам статак гусей гнала з возера дубчыкам восень.

Я хадзіў па начы, піў віно, уцякаў ад спагады,
Сотні сноў перасніў,
абрынаў дзёрзкіх мар вадаспады.
Дома — Тувіма ўзяў:
хлынуў боль да таго беспарадны,
Што мае хваляванні здаліся благім перакладам.

Што рабіць?
Зноў чакаць выпадковай сустрэчы хвіліну?
Моцны дах абяцаць і заслон цішыні ад цунамі?
Я стаю на вятрах і аблоні свае не пакіну,
Мне душу навылёт прадзімае штодня скразнякамі.

Не магу так назваць, не ўдалося сказаць:
«Дарагая!»
Хай над вамі спакой залатое крыло прасцірае!
Як у песні спяваецца:
«Пэўна, ўжо доля такая»,—
Не ў дарогу нам...
Каб жа я мог разлучыцца з вятрамі!

## ТЫ ЦІ РАНІЦА

Неба ў Волзе палыскавалася,
Перашэптваліся чараты.
А пры беразе паласкалася —
І дасюль яшчэ не ўгадалася,
Ты ці раніца?
Мусіць, ты!

Так...
На вочы людскія раніца
Не выходзіць зусім нагой,
Хоць бы праменем захінаецца,
А ў цябе таіць на расстаннейца
Ад мяне — не было чаго!

*1985*

## АДВІТВАЮЧЫ ВОСЕНЬ

Восеньская сіняя вада,
Вецер усхвалёваны і золкі
І аблокаў белых чарада
У чарзе да будучай вясёлкі.

А калі ж вясёлка, а калі?
Спосаб ёсць, як да яе дабыцца:
Зімніх зор для неба накалі
І палі да першай навальніцы.

*1985*

## УСЛЕД ЧАСУ

Мора душы — глыбознае
Вышугне і прысне...
Зараз аб той, запозненай,
Думаецца аб вясне.

Можа, і ў час адведала б,
Каб жа было калі!
Не пільнаваўся следу я,
Бегма бег па зямлі.

*1985*

## ДАКОР САБЕ

Хоць ёсць у кожнага свой дом,
Па-свойму ўночы ныюць раны,
Ці свецім мы сваім святлом,
Ці найчасцей адлюстраваным?

Хіба ж ты мала пахадзіў
Па кроўю ўгноенай зямельцы,
Ці мала розных дзіўных дзіў
У рукі браў, хапаў за лейцы.

З твае душы, чаму ж яны
Не паўзляталі па-над светам,
Не асляпілі твар вайны,
А прамільгнулі трафарэтам?

Пытаю зорны далягляд
Над жменькаю бліскучых стразаў:
Адзін я ў гэтым вінават
Ці ўсе адказваць будзем разам?

*1985*

## ЗАКЛАДЗІНЫ ПУШЧЫ

Не пад шчаснаю зоркай
З тых, што іншым раслі,
Я радзіўся на горкай,
Вельмі гордай зямлі.

Нас за бесцань збывалі,
Як ляжалы тавар,
А калі мы крычалі,
Білі ботам у твар.

Я, прагнаны праз чэргі
Лесасекі скразной,
Сёння выйшаў праз мергель
Надбалотнай сасной.

Сыплю з ветрам насенне —
Пушча жыць будзе зноў,
Калі звычкі карэння
Пераймае ў дубоў.

Не скрабіся ў пясочку,
Жылле ўглыбкі гані,
Пахкіх смол у падсочку
Прынясуць карані.

Буду век [illegible] відушчы
І ўсе крыўды сышчу,
Калі новыя пушчы
Над сабою ўзрашчу.

*1985*

## ДОМА Ў КОЛАСА

Дзе ні ступіш — так хораша!
Гай лапушыцца галлём,
Жоўты дом лесніка ў ручаіну мачае падрубы.
Поруч —
Нёман паслаўся бяліцца на луг ручніком,
Дуб да дуба гаворыць, чакаючы дзядзьку Якуба.

Ён таксама заўсёды здалёку сюды паспяшаў,
Ды зязюля, дурная, злічыла гады недарэчы...

Бор шумеў цэлы дзень.
Сам тужыў, а мяне суцяшаў:
— Сэрца ў сэрца гарні!
Ты ж у нас — не чужы, чалавеча.

*1985*

## ПОМНЯЧЫ КУПАЛУ

З перападамі тэмператур —
У стыхій, як відаць, мнагабор'е —
Наганяюць вятры сціхату:
Прадчуваю ў палях недабор я.

Сама раз бы ўсхапіцца, пайсці,
Хмару кінуць загонам насупраць,
На парог сухаты не пусціць,
Адагнаць і для страху прытупнуць.

На памінкі брыдуць спакваля,
Многа лепей спяшаць на радзіны,
Калі слова душа прывяла
І яно выпускае нацiны.

Ды майструюць масткі дзівакі,
Каб як высватаць лепшую ролю
Тым, што з'есці хіба мастакі
І чаляднікі ў працы, не болей.

Кепска скроеных кніжак — касяк!
Як відаць, падупала кравецтва
Дый шытво — несусветны брак...
Што ж, як месіцца, так і пячэцца.

Ёсць майстроў і на нашым вяку,
А чуваць — ён, жывы і здаровы,
Дзядзька Янка, адзіны пакуль
Валадар беларускага слова.

*1985*

## НАД СВІСЛАЧЧУ

На Свіслачы качкі...
Адкуль вы, дзівачкі?
Хіба што зірнуць на метро
Зняліся з азёраў, дзе вашы сваячкі
Нагульваюць пух і пяро.

Цяплейшыя воды адны падабаюць,
Другія — віхор і мароз,—
Не буду смуціцца, калі не ўгадаю,
Як лёс па зямлі вас растрос.

Ды лепей у мірным кутку пасяліцца,
Чым голаў зложыць без пары.
І качкі плывуць па зялёнай вадзіцы
Карміцца, хвастом дагары.

Як многа сягоння іх, шэрых, пярэстых,
Аж хваля ад крылаў зіхціць.
Па беразе ходзіць жаніх і нявеста —
За птушкаю шчасця ў жыцці.

І качкі на крызе абтрэсаюць іней,
Як быццам збіраюцца ўдаль...
Хай вас і мяне хваляванне пакіне,
На Свіслачы ціха амаль.

*1985*

## СЛОВА НЕ СМЕХАМ

Кожны раз, калі мне давядзецца
Піць спакой з крынічнага вядзерца,
Бачыць золак з твару, вока ў вока,
І падсвістваць жаўранку ў аблоках,—
Рады я...
І раптам засмуткую,
Што зямлю ўсю ў сэрца не ўладкую,
Каб яе нарокам не пратнулі
Лазераў паветраныя шпулі.

Ускіпае яраснае нешта,
І павінна вырвацца, нарэшце,
Слова, ад якога б задрыжалі
Першыя саноўнікі дзяржавы,
Залатой раз'едзенай іржою
Дзесь за акіянскаю мяжою.

Гэта слова вымавіць не смехам
Той, чый голас стаў нямоўчным рэхам,
Чалавек, што свет пачаў нанова,
Каму свеціць лёсу пабудова.

*28.VIII.85*

## ПІЛЬНУЮЧЫ ДОМУ

Грозіць кручаны гоман
На крутым пераломе,
Ходзіць вецер за домам,
Задзімае і ў доме.

Напінае фіранкі
І пазвоньвае ў клямкі,
Падпаўзаюць пад ганкі
Непрыветныя ранкі.

І нясуць яны скогат
З панадворку чужога:

Маўляў, наша дарога —
Скрозь дзірван ды аблога.

І навошта нам тое
Летуценне без цвету,—
Без фатыгі такое
Смажыць бульбу паўсвету.

Хмары грузяцца громам,
Б'юць маланкі ў разломе...

Ходзіць вецер за домам,
Гаспадарым мы ў доме.

Свеціць наша дарога,
Зор і зерня ў ёй многа,
І мацуецца змога
На замахі благога,
На той здзеклівы рогат
З-пад чужога парога.

Хоць і бура за домам,
Хоць і вецер пры доме,
Але сам я не зломак
На зямным касмадроме.

*1983—1985*

## НАВУКА ПОЛЫМЯ

Вялікіх, на класічных лавішчах
Спытай: ці вы пры вашай сталасці
З нябыту нараджалі з'явішчы,
Што ўжо ці раз на свет з'яўляліся.
У новых формах слова плавячы,
На самым версе дасканаласці,
Яны, ў прарокаў не гуляючы,
Адкажуць:
— Рознае здаралася! —

І пасміхнуцца:
— Справа ў полымі:
Няма ў цябе, не ўзычыш некаму,
А жар падкінь рукою голаю,
А глянь з апаленымі вейкамі,
І дужымі пастануць кволыя —
Шумець барамі, ліцца рэкамі.

Нам клопату з паходам дадзена,—
Працягнуць:
— Хатняга, заморскага.
У прадзіва пісьмён пакладзена
Усё — чужацкае і свойскае,
І немы крык нямога прадзеда
Ляціць з адозваў Каліноўскага.

То запалае, то астудзіцца,
То між дамоў агнём усходзіцца,
Шугне па ідалах і пудзілах
І з гудам ліпы-пчаламёдніцы
Шлях, дзе нам ходзіцца і любіцца.
Вачам нашчадкаў распагодзіцца.

У гэта верай будзь усцешаны
І падгадуеш слова ў дбаласці,
Не ўквасіш вымудраў дамешкамі,
Пастамі занадта сталымі,
Каб коннаму яно і пешаму
У кожным часе абзывалася.

Хто душ на просвы не засоўвае,
Не дыхае, як рыба ў пралаке,
У долы выйдзе верасовыя,
І ў новым дні зайграе полымя
Мужыцкай праўды Кастусёвае...—
. . . . . . . . . . . . .

...Не шкадавалі праўды мудрыя,
Вучылі пазнаваць вялікія,
Дзе — нетры з выкапнямі руднымі,
Дзе гасіць смагу стэп арыкамі.

Сказалася, дык, значыць, сказана,
Сказалася, як завязалася,

Тым, хто сказаць быў абавязаны,
Бо ўжо маўчаць не меў трываласці,

У новы дом гукнуў на ўлазіны
Усіх, каму нясцерпна сталася,
Хто з ім аднака мірам мазаны,
Адной дарогай падпяразаны.

Прайшоўшы колеры пабегласці,
На вочы слова нам паказана:
У зыркім горне гартавалася,
І, мечам стаўшы, не зламалася,
І ў свеце пошчакам разлеглася.

Сказалася, дык, значыць, сказана,
Сказалася, як завязалася.

*31.VIII.85*

## ЗАКОЛКІ СРЭБРА

Шмат абхадзіў я, паплаваў па кожным
Моры, ганяў аж за свет паязды,
І адчыняла вачам падарожжа
Поўныя цэбры вясёлай вады —
Нашы вазёры!
Падумайце, колькі
Лепель нашкліў іх і Браслаў прыбраў,
Быццам бы чыстага срэбра заколкі,
Даўшы лугам, затаіўшы ў барах.
Люстры вазёр, старыкі з чаратамі,
Волкі, сляпучы, нясцерпны блакіт,
Голас даюць, гаманіць не прыстаі,
А зачыналі іх — ледавікі!
Голас даюць, што дагэтуль жывыя
З працы і догляду нашых дзядоў
І на пагрозы нябёс агнявыя
Бровы нахмурваюць лазняков.
Вельмі прашу вас, наступныя хлопцы,
Перш чым рыдлёўку падняць ці тапор,

Смол паспытайце ў асуджанай хвойцы,
Зор пашукайце на днішчах вазёр.
І страпянецца душа ад багацця,—
Сілу далі яны, славу далі
Нашай без ліку падпальванай хаце,
Нашай штовек выбіванай зямлі.
Гурт нашых рук — неадольная змога,
Дый каб дарэшты зямлі не згалець,
Лепей падбаем адно пра другога,
Будзе і дрэвам і нам трывалей.

*1985*

## МАЯ ЗЯЛЁНАЯ ЗЯМЛЯ

Зямля мая!
Спрадвечны карабель,
Смяротны ложак і хрысцін калыска.
На нейкі момант не дагледзь цябе,
Ты разляцішся скрозь каметным прыскам.

Маленькая!
І не свяціла ўжо,
Хоць і насіла гэты чын калісьці.
Цяпер удой даеш і немаленькі ўжон
І тайнаў шмат, што розумам не ўгрызці.

Ты ў космасе паміж свяціл і зор,—
На крыльца толькі ўстаўшы верабейка,
І цэліць у цябе тутэйшы, земны, чорт
Нейтроннай бомбай, быццам у капейку.

Што станецца? І здогаду няйму,
Нам не ўявіць страхоцця...
А вядома,—
Не будзе літасці: ні, хто пачне, таму,
Ні на падхваце хто — нікому і нічому.

Ты добрыш зірк усім сваім сынам,
Ты крэпіш лёсам немаўлят і матак,

Каб чалавек дарма не засынаў,
Не палажыўшы доўгіх спраў пачатак.

На золаце пячэ ён пульхны хлеб,
Удоі нафты з нетраў падджыўляе.
Ад году ў год для нас ты лепш і лепш,
Век — светлая,
Век — маладая.

Цябе адразу ўсмешкай павітаў,
Калі ступіў я да жыцця на бераг
У колерах такіх, як бачыў Рэрых,
А больш у тых, што бачыў Левітан.

Пільнуючы разгону карабля,
Мы рэжам хвалі, разганяем вецер.
Люблю цябе, зялёная зямля,
Адна зялёная —
На цэлым свеце.

*1985*

## КРЫТЫЧНЫ ПЕРАСОЛ

Часам мае свет крытычны
Вельмі брыдкую прывычку:
Аўтар ціўкае з яйца,
Яго ж хваляць без канца,

А другога, хоць і ўмелы,
І кранае тэму смела,—
Тыя ж самыя дзядзькі
Сустракаюць у дручкі.

*1948*

## СОННЫ КАЛГАС

Трубіць пастух, разганяе дрымоту,
Сонна ў хлявах зарыпелі вароты.
Выпусціць цётка у статак кароўку
І спачываць на сяннік, у бакоўку.
Не астаюцца ад жонак мужчыны,
Што ім спяшацца, з якое прычыны?
Да дзевяці трое коней лавілі,
Да дзесяці гэтых коней паілі.
Выбіў гадзіннік ужо адзінаццаць,
А ўсё не могуць на поле сабрацца:
Толік у Юр'я
Смаліць у дурня,
Пава і Хведар
Лаюць суседа,
Дзядзьку Максіма
Скочка ўкусіла,
Рэжуцца зубы
Ў дзеда Якуба,
У Мікалая
Кошка раджае,
У Ермалая
Нос не чыхае.

Вось як усім ім патрэбы прыспелі,
Часу няма працаваць у арцелі,
А як прыскочаць на ўласныя соткі,
Дзень хоць прыточвай,— вельмі ж кароткі!

*1948*

## СЛАНЫ І СЛАНІХІ

То ружовая, то блакітная
Дама ў залі здалёк відна:
Жонка некага знакамітага,
У навуцы ледзь не слана.

Не таго, што з магутным хобатам,
А з пароды куды слабей,

Ці то робаты, ці паўробаты,—
Груз навук не на іх гарбе.

Дзеля гэтага ёсць малодшыя
Супрацоўнікі.
                        На ўвесь дух,
Пераснедаўшы поснай локшынай,
У дварах яны ловяць мух.

Потым кідаецца на гатовае
Зборня — рангам вышэй — галоў,
Лепей кормленая, доўга кованая,
Раздзімае мух у сланоў.

Як і кім пасля здабываецца
Косць слановая,
                        памаўчым.
Кажуць людзі: усім займаецца
Не апошні ў той справе чын.

Ён, завалены сыравінаю,
Хваліць якасць, сячэ наўкруг:
«Пражывём і сваёй, айчыннаю,
Што́ сланы!
                    Нам хапае мух».

Людзі мудрасці неўрачонае!
Пашукайце ў сябе віны,
Што жывуць паміж вас вучоныя,
Толькі з выгляду звышсланы.

І сланіхі іх, дзе ні гляньце вы,
З маладзенькім смяшком брывей,
Носяць лой у празрыстых транціках,
То блакітней, то ружавей.

*1983*

# СЛУПЫ

Людцы з уздзёртым лычам,
Бясспрэчныя, як слупы,
Усе на адно аблічча,
Усе на адзін капыл.

Толькі ў душы нічога
Не прызапасіў чын —
Чуласці да старога,
Ветласці да жанчын.

Таго, што можаш панесці,
Век яму не падняць,
А ён, кажуць, красіць месца,
Ён табе — не раўня.

Хто ж ён? Хіба што спіца...
А ў коле ці мала спіц!
Не важцеся ў калясніцы
Адну хаця б зачапіць.

Нельга, нават і злёгку:
Усходзяцца ўміг слупы,
Выціснуць з вока вохкасць,
Возьмуць цябе ў цапы.

Пройдуць, мінуўшы дзверы,
Куды табе не дапяць,
Зложаць твае паперы
Саліць і марынаваць.

Штрафам, а то і горай
Ленін гразіў караць
Тых, што белае чорным
Робяць за чырк пяра.

Часам у апаратах
На перавод харчоў
Гадуецца ладны статак
Бюракратычных кручкоў.

На крэслы, дзе больш прыварку,
Пруць яны адусюль.

Вось каб гэтак жа шпарка
Племя расло ў рагуль!

Што я зраблю, пісьменнік?
Клічу на іх штодня
Рабоча-сялянскі венік,
Хай ён дастане дна.

*1984*

## ДАЛІКАТНЫ НАПАМІНАК

Раве зарубежны эфір,
На нас вызвяраецца поначы,
Ну, што ж, прыкілзаем задзір:
— Вы ёмка гарлаеце, сволачы!

Таго і таго ў нас няма,
І працы — ад золку да цёмначы,
А хто нашы межы ламаў,—
Вы, можа, прыпомніце, сволачы?

Бывае асот у жытах,
Аж рукі заходзяцца полючы,
А хто нам палеткі таптаў,—
Таксама не ўспомніце, сволачы?

Сям-там не хапае жытла,
Не тоім ні крыўды, ні горычы.
Хто грэўся, як дом наш палаў,
Хоць гэта прыгадвайце, сволачы!

Удоўка гаруе ўначы,
Таго, яснавокага, помнячы,
Што спаў у яе на плячы...
Ці гора вы чуеце, сволачы?

Хапіўшы, пяе інвалід,
Ён, раны няўгойныя гоячы,

Усю вашу моц абваліў,—
Яго ж вы пазнаеце, сволачы?

Хто бег з нашых земляў бягом,
Равы і бязводніцы поўнячы,
Хто лёг сярод нашых снягоў,—
Хіба вы не лічыце, сволачы?

А хто нас бярэ на прыцэл
Ад Поўдня да самае Поўначы?
Пачосткі, што ў нашай руцэ,
Павек не забудзеце, сволачы!

На варце той самы салдат,
Зірніце, вам зробіцца горача.

Ці хопіць, ці, можа, дадаць,—
Папраўдзе прызнайцеся, сволачы!

*1984*

## ЗМЕСТ

## З кнігі «ПАРАЗМАЎЛЯЙ СА МНОЙ, ЗЯМЛЯ»

*Дзень за днём*

*Няблізкая вандроўка*

## ХТО РОБІЦЬ ПАГОДУ

*Нібыта казка*



## З кнігі «ВЯРНУСЯ ВЕТРАМ»

### *Хада ў часе*



### *Вясновыя прыкметы*

*Маладыя ўспаміны*

**Лужанін М.**

Л83 Выбраныя творы. У 2 т. Т. 1. Вершы / Прадм. А. Куляшова.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 318 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00786-3.

Лужанин М. Избранные произведения. Т. 1. Стихи.

Першы том выбраных твораў старэйшага беларускага пісьменніка складаецца з вершаў чатырох зборнікаў апошняга дзесяцігоддзя, а таксама з ранніх, даваеннага часу. У вершах чутны размовы з людзьмі, турботы іх і пра іх, хада чалавека па зямлі, па яе прасторах.

ББК 84Бел7

Л 4702120201—148 / М 302(03)—93 111—91

Литературно-художественное издание

**МАКСИМ ЛУЖАНИН**

**(Каратай Александр Амвросьевич)**

***ИЗБРАННЫЕ ПРОИЗВЕДЕНИЯ В ДВУХ ТОМАХ***

**Том 1**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

**(Каратай Аляксандр Амвросьевіч)**

***ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ***

**Том 1**

Вершы

---

*Рэдактар С. Р. Прыгодзіч*

*Мастак Ю. У. Якавенка*

*Мастацкі рэдактар В. Н. Губарaў*

*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*

*Карэктар Л. Т. Калюжная*

ІБ № 3577

Здадзена ў набор 19.07.91. Падп. да друку 25.09.92. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 16,80 + 0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 16,91. Ул.-выд. арк. 13,90. Тыраж 2300 экз. Зак. 1559. Цана 20 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.